26 верасня 2014 | № 36 (405)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**ХЛЕБА І ПАТРОНАЎ!**
стар. 3







# Халява хутка скончыцца

## Мірныя перамовы ў Мінску па Украіне дасягнулі пэўнага выніку. Што выйграла Беларусь?



Сяргей ПУЛЬША

Напрыканцы мінулага тыдня трохбаковая кантактная група (Украіна–АБСЕ–сепаратысты) у Мінску ўзгадніла чарговы мемарандум з 9 пунктаў, які закліканы спыніць вайну паміж Украінай і Расіяй.

Пасля завяршэння перамоваў экс-прэзідэнт Украіны Леанід Кучма паведаміў пра гэтыя пункты. Асноўныя з іх — спыненне прымянення зброі; спыненне падраздзяленняў і воінскіх фармаванняў бакоў на лініі сутыкнення па стане на 19 верасня; забарона на прымяненне ўсіх відаў зброі і наступленняў; разгортванне ў зоне спынення прымянення зброі маніторынгавай місіі АБСЕ. А галоўны пункт — вывад усіх замежных наймітаў (чытай — расійскіх войскаў) з зоны канфлікту як з аднаго, так і з другога боку.

Як ні дзіўна, выконваць гэтыя пагадненні пачала Расія. У NATO заўважылі адыход з Украіны значнай часткі рэгулярных расійскіх войскаў. «Гэта вельмі добра, за выключэннем таго, што дадому расійскія войскі не вярнуліся. Гэтыя ваенныя сілы засталіся непадалёк ад мяжы, і пры жаданні зноў могуць быць задзейнічаны на тэрыторыі Украіны», — заявіў галоўнакамандуючы сіламі NATO ў Еўропе, генерал арміі ЗША Філіп Брыдлаў.

Таксама ранавата казаць пра спыненне агню: сепаратысты працягваюць абстрэл украінскіх войскаў з «Градаў» ды іншых цяжкіх артылерыйскіх установак. Заўважана, што расійскіх вайскоўцаў у Данбасе масава пераапранаюць у «апалчэнцаў». Але ж фармальна Еўропа і ЗША далі Расіі час да лістападаўскага саміту G20, каб урэгуляваць сітуацыю на Данбасе. Так што час у Расіі ёсць.

Што атрымаў з «міратворчай ініцыятывы» Мінск? Найперш, нам удалося на фоне расійска-ўкраінскага канфлікту не пасварыцца: ані з Захадам, ані з Расіяй, ані з Украінай. Гэта ўжо вялікае дасягненне. Афіцыйныя ўлады не рабілі рэзкіх заяваў і не лезлі ў канфлікт з рэзкімі заявамі (не выключаю, што часам гэтага вельмі хацелася). У выніку Мінск стаў выдатнай пляцоўкай для перамоваў, у чарговы раз падкрэсліўшы грунтоўнасць сваёй «стабільнасці».

Беларусь атрымала шмат іміджавых дывідэнтаў. У працэсе замірэння Украіны і Расіі «крыштальны сасуд» наведала багата розных уплывовых дэлегацыяў. Акрамя знакамітага «зорнага» «мінскага саміту» тут прызямляліся дэлегацыя ЗША на ўзроўні намеснікаў памочнікаў міністраў і дзяржсакратара, прайшоў візіт упаўнаважанай па справах прэсы Дуні Міятавіч, і гэтак далей. Не спалі ў шапку і беларусы — кіраўнік МЗС Уладзімір Макей наведаў Польшчу, а ў Нью-Ёрку адкрыўся Беларускі інвестыцыйны форум. Падчас гэтага мерапрыемства было агучана, што Беларусь можа пагадзіцца на павелічэнне супрацоўнікаў амерыканскага пасольства ў Мінску.

Нават старшыня ААН Пан Гі Мун падзякаваў Беларусі і асабіста Аляксандру Лукашэнку за ўрэгуляванне канфлікту ва Украіне. «Адзначаю разумную палітыку кіраўніка Беларусі ў адносінах да сітуацыі ва Украіне. Спыненне агню адбылося дзякуючы дамове, падпісанай у Мінску», — сказаў генсек ААН, сустрэўшыся ў Нью-Ёрку з Мясніковічам.

Карацей, без асаблівых высілкаў, толькі цярпеннем і ўпартасцю ва «ўкраінскім пытанні» афіцыйны Мінск, без шкоды для пачуцця ўласнай значнасці (кшталту вызвалення палітвязняў), здолеў ператварыцца «апошнюю дыктатуру Еўропы» ў «важнага і надзейнага міратворца». Тое, што за вялікія грошы не здолеў зрабіць лорд Бэл, абсалютна бясплатна зрабілі Пуцін, Майдан і Парашэнка.




**Беларусь не пасварылася ні з Захадам, ні з Расіяй, ні з Украінай**

Але, як кажуць, «дзякуй» у кішэню не пакладзеш». Зараз варта думаць пра тое, як гэтыя іміджавыя перамогі перавесці ў практычную плоскасць — у плоскасць атрымання грошай.

Беларусь спрабуе скарыстацца расійскім эмбарга, перапрацоўваючы «санкцыйныя» прадукты ў беларускія, і гонячы іх у Расію. А тое і проста займаючыся кантрабандай еўрапейскай прадукцыі ў расійскія гандлёвыя сеткі пад выглядам беларускай. Як паведаміў нядаўна Расельгаснагляд, з моманту ўвядзення Расіяй эмбарга, на кантрольных пастах спынена больш за 80 спробаў незаконнага ўвозу расліннай прадукцыі Еўрасаюза з тэрыторыі Беларусі.

Пра аб'ёмы ўзаемавыгаднага гандлю можна казаць і па тым, што беларускія ўлады дазволілі імпартаваць еўрапейскае малако для перапрацоўкі аж 13 малаказаводам. Імпарт жа нарвежскага ласося ў Беларусь з увядзеннем эмбарга ўзрос у чатыры разы! Зразумела ж, беларусы столькі рыбы не ядуць.

Але хутка гэты «харчовы Кландайк», як назвалі яго нашы чыноўнікі, можа скончыцца, менавіта дзякуючы «мінскім дамоўленасцям». Як паведаміла прэс-сакратарка кіраўніка еўрапейскай дыпламатыі Кэтрын Эштан Мая Качыянчыч, 30 верасня ЕС мае намер перагледзець санкцыі, уведзеныя супраць Расіі, у тым ліку і ў бок паслаблення. Да 30 верасня Еўрапейская служба знешніх дзеянняў павінна прадставіць «комплексны агляд стану выканання мінскага мірнага плану, у прыватнасці рэжыму спынення агню», і ў той жа дзень, пры станоўчым выніку, часткова адмяніць альбо паслабіць санкцыі супраць Расіі.

Масква праз месяц пасля ўвядзення эмбарга таксама дапетрыла, што церпяць ад яго, пераважна, самі расійцы. Але адмовіцца ад яго «ў аднабаковым парадку» — гонар не дазваляе. Таму, пры змякчэнні санкцыяў, Расія можа і адмяніць абмежавальныя захады супраць еўрапейскіх прадуктаў. Ці, калі не адмяніць, то таксама іх «змякчыць».

Так што праз тыдзень халява можа скончыцца. І трэба будзе думаць, што яшчэ мы можам выцягнуць з іміджу «міратворцы».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. Што рабіць з журналістам?



**У Ленінскім РАУС Магілёва 23 верасня не змаглі даць журналісту Аляксандру Буракову інфармацыю аб перспектывах яго адміністрацыйнай справы і зноў выклікалі яго позвай у райаддзел.**

Нагадаем, раніцай 16 верасня сем супрацоўнікаў міліцыі правялі ў кватэры журналіста вобыск. Яны забралі два ноўтбукі, якія належаць жонцы Буракова. Таксама вобыск быў праведзены ў кватэры бацькоў Буракова, дзе міліцыянеры забралі два сістэмныя блокі камп'ютараў. У пастанове на вобыск указана, што Буракоў супрацоўнічаў з сайтам радыё «Нямецкая хваля» без акрэдытацыі. Пасля журналіст быў абвінавачаны ў незаконным вырабе і распаўсюджванні СМІ. 23 верасня Буракоў абавязаны быў з'явіцца ў Ленінскі РАУС Магілёва, дзе яму меліся паведаміць аб перспектывах яго адміністрацыйнай справы.

Буракоў паведаміў, што міліцыянер Уладзімір Пугачоў, які вядзе справу, без тлумачэнняў уручыў яму позву на 30 верасня як асобе, у дачыненні да якой вядзецца адміністрацыйны працэс.

«Па зносінах з Пугачовым відаць, што гэта не ён прымае рашэнне па маёй справе», — сказаў журналіст. Паводле яго слоў, супрацоўнік міліцыі паабяцаў найбліжэйшым часам вярнуць ноўтбукі жонкі. Сістэмныя блокі, канфіскаваныя ў яго бацькоў, чакае экспертыза.

**Паводле БелаПАН**

### ВІЦЕБСК. Разам — за якасную медыцыну



**У Віцебску створана платформа для сумеснай дзейнасці палітычных і грамадскіх структур горада. Першая кампанія, якая будзе праведзеная супольна — «За якасную медыцыну для ўсіх».**

На сустрэчы з удзелам прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх структур былі абмеркаваныя найбольш вострыя праблемы горада. У тым ліку — няякаснае медыцынскае абслугоўванне віцяблян. Вынікам сустрэчы стала падпісанне дамовы аб правядзенні ў Віцебску супольнай кампаніі «За якасную медыцыну для ўсіх».

Арганізатары запрашаюць далучацца ўсіх, зацікаўленых у павышэнні якасці медыцынскага абслугоўвання ў Віцебску. Тэлефануйце: +375 (33) 697 70 49. E-mail: vitebskby68@mail.ru

**Прэс-служба БХД**

### ГОМЕЛЬ. Акцыя «Зялёная зона»



**Актывісты «Новага Гомеля» правялі інфармацыйна-прафілактычную работу з кіроўцамі аўтамабіляў і папярэдзілі парушальнікаў.**

Прыпаркаваныя на зялёных зонах машыны актывісты «пазначылі» ўлёткамі «Зялёнага Дазору», паведамляецца на афіцыйнай старонцы «Новага Гомеля» ў VK.

Таксама для інфармавання ўлёткі атрымалі і кіроўцы, што прыпаркавалі свае аўтамабілі правільна.

Па словах актывістаў, парушэнняў у цэлым не так і шмат, хаця ў адным з двароў яны зафіксавалі аж 50 аўтамабіляў, якія былі запаркаваныя на зялёнай зоне.

**Беларускі Зялёны Партал**

### ХОЙНІКІ. Суд на баку актывіста



**Суд Хойніцкага раёна прызнаў скаргу актывіста АГП Аляксандра Процкі абгрунтаванай і адмяніў рашэнне райвыканкаму аб адмове ў правядзенні пікету.**

У Гомелі і вобласці за апошнія дзесяць гадоў улады не дазволілі ніводны пікет ці мітынг, якія планаваліся па ініцыятыве дэмакратычных актывістаў. Раней абскарджванні рашэнняў выканаўчых органаў у судзе не прыносілі плёну.

Аляксандр Процка планаваў 27 ліпеня правесці ў Хойніках два пікеты за незалежнасць і суверэнітэт, а таксама салідарнасць з украінскім народам. Актывіст загадзя падаў у райвыканкам адпаведную заяву на правядзенне пікетаў на дзвюх пляцоўках — каля ўнівермагу «Юбілейны» і на плошчы Леніна райцэнтру. Але райвыканкам адмовіў, матывуючы гэта тым, што дадзеныя пляцоўкі можна выкарыстоўваць у мэтах масавых мерапрыемстваў толькі для сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з грамадзянамі ці правядзення іншых сустрэч у перыяд выбараў. А для пікетаў, маўляў, дадзеныя пляцоўкі не прадугледжаныя.

Аляксандр Процка не згадзіўся з дадзеным рашэннем, палічыўшы, што яно абмяжоўвае яго правы, і абскардзіў у судзе Хойніцкага раёна.

**spring96.org**

# Грамадзянская супольнасць выйшла з піке

**Кіраўнік ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі правёў шэраг сустрэч у рэгіёнах краіны — Маладзечна, Віцебску, Оршы, Смаргоні, Гародні і Магілёве. Асноўнай мэтай паездак была прэзентацыя кнігі «Іртутнае срэбра жыцця», напісанай у зняволенні ў Бабруйскай калоніі.**

Імпрэзы праходзілі ў цёплай сяброўскай атмасферы. Па словах Алеся Бяляцкага, яму было вельмі цікава і важна адчуць атмасферу, якая зараз ёсць у рэгіянальных супольнасцях па-за Мінскам, і ўражанні засталіся дастаткова станоўчыя: «Я не бачу разгубленасці, я не бачу нейкага такога агульнага песімізму, я бачу, што ў рэгіёнах ёсць сталая частка актывістаў, праваабаронцаў, прадстаўнікоў розных грамадскіх арганізацый, якія прыходзяць на гэтыя сустрэчы, якія гатовыя працаваць, нягледзячы ні на што».

Былы палітвязень звярнуў увагу і на той момант, што ніводная з запланаваных сустрэчаў не сарвалася, і яны ўсе прайшлі ў запланаваным парадку. «Гэта таксама паказвае, што магчымасці для грамадскай працы, для распаўсюду праваабарончых ідэяў, для дыялогу і шчырай размовы з людзьмі, якая ў нас адбывалася падчас гэтых сустрэчаў, ёсць, і яе трэба выкарыстоўваць», — лічыць Алесь Бяляцкі.

«Сама кніжка — гэта частка майго жыцця: жыцця, пра якое яна напісана, і жыцця, у якім яна пісалася, атрымліваецца два ў адным, — падкрэсліў Алесь Бяляцкі. — Таму такія аповеды і распаўсюд гэтай кніжкі з'яўляецца важным і для мяне асабіста».

На думку праваабаронцы, у першай палове 2011 года настрої ў грамадстве былі дастаткова змрочнымі і песімістычнымі, і вось цяпер гэты перыяд фрустрацыі мінуў, і беларуская грамадзянская супольнасць выйшла з піке расчаравання, якое было пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў. І паколькі ў даволі хуткім часе адбудуцца чарговыя выбары прэзідэнта Беларусі, Алесь Бяляцкі мяркуе, што нам варта перажыць іх з мінімальнымі стратамі, каб пазбегнуць новых удараў, каб зноў не ўпасці ў фрустрацыю.

**spring96.org**

# Заробкі скачуць долу

Генадзь КЕСНЕР

**Улады разглядаюць магчымасць павышэння тарыфнай стаўкі першага разраду. А тым часам сярэдні намінальны заробак па краіне ў жніўні параўнальна з папярэднім месяцам упершыню за 2014 год скараціўся, а не вырас.**

Пра імавернае павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду 24 верасня заявіла падчас анлайнавай канферэнцыі ў БЕЛТА міністр працы і сацыяльнай абароны насельніцтва Марыяна Шчоткіна. Яна нагадала, што ў бягучым годзе памер тарыфнай стаўкі першага разраду павялічваўся двойчы — 1 красавіка і 1 мая з 260 тысяч да 275 тысяч беларускіх рублёў. Апроч таго, урад павялічваў заробкі асобным катэгорыям працаўнікоў бюджэтнай сферы — устанаваў адукацыі пры рэалізацыі імі адукацыйных праграм дашкольнай адукацыі, а таксама медыцынскім работнікам, якія аказваюць дапамогу ў амбулаторных умовах і хуткую (неадкладную) медычную дапамогу.

Тым часам сярэдні намінальны заробак па краіне ў жніўні склаў 6,36 мільёна рублёў і ўпершыню ў бягучым годзе скараціўся на 1,4% параўнальна з папярэднім месяцам. Хоць да гэтага цягам усяго года назіраўся штомесячны рост намінальнага сярэдняга заробку. Напрыклад, у лютым параўнальна са студзенем рост склаў 1,3%, у сакавіку параўнальна з папярэднім месяцам — 6,8%, у красавіку — 1,9%, у маі — 3,3%, у чэрвені — 2,4%, у ліпені — 4,1%. Дарэчы, найбольш у жніўні заробкі зменшыліся ў Мінску і на Берасцейшчыне — на 2,3%.

На думку экспертаў, жнівеньскае падзенне заробкаў — яшчэ не трагедыя, гэта можа быць звязана з сезонам адпачынкаў, то бок пра нейкую тэндэнцыю казаць пакуль рана. З іншага боку, той жа сярэдні намінальны заробак у амаль 600 долараў не адпавядае ўзроўню прадукцыйнасці працы, таму ўжо сёння з'яўляецца завышаным. Цяпер улады вымушаны думаць, як утрымаць хоць тое, што працоўны люд мае сёння.

Можна меркаваць, што верагоднае павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду будзе мець такі памер, каб фактычна захаваць заробкавы статус-кво, бо на істотнае павышэнне заробкаў у дзяржавы няма сродкаў, і яны не прадбачацца. Таму ні пра абяцаны раней сярэдні заробак у 700 долараў да канца 2014 года, і тым больш пра заробак у тысячу долараў да канца года наступнага, улады нават больш і не заікаюцца. Ім бы напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі, як той пісаў, «дзень прастаяць ды ноч пратрымацца».

Так што скокі заробкаў з коштамі будуць працягвацца. А вось тое, хто ў гэтых скоках апынецца больш спрытны, можна здагадацца ўжо цяпер.

# Тэлемост памяці

Марат ГАРАВЫ

**23 верасня ў Мінску, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбыўся навуковы тэлемост «Хаім Вейцман. Чалавек. Навукоўца. Дзяржаўны дзеяч».**

Тэлемост адкрыў дні Хаіма Вейцмана ў Беларусі, прымеркаваныя да 140-годдзя гэтага выбітнага чалавека і ініцыяваны Ізраільскім культурным цэнтрам пры амбасадзе Дзяржавы Ізраіль у Беларусі (ІКЦ).

Хаім Вейцман (27.11.1874 — 09.11.1952) — першы прэзідэнт дзяржавы Ізраіль, ураджэнец мястэчка Моталь (зараз — вёска ў Іванаўскім раёне, што на Берасцейшчыне), выпускнік Пінскай рэальнай вучэльні (дзе, дарэчы, зараз усталяваная мемарыяльная шыльда). Вейцман больш за 20 гадоў узначальваў Сусветны сіяніцкі кангрэс, паслядоўна адстойваў ідэю габрэйскага нацыянальнага дому на Зямлі Ізраіля. Згодна са сваім запаветам, Хаім Вейцман быў пахаваны ў садзе свайго дому пры навукова-даследчым інстытуце ў горадзе Рэхавот (Ізраіль).

У сваім выступе на адкрыцці тэлемосту амбасадар Ізраілю ў Беларусі Іосіф Шагал не выключыў, што да 27 лістапада — дня народзінаў Хаіма Вейцмана — можа быць задаволена прапанова беларускіх хімікаў па стварэнні Фонду Хаіма Вейцмана для аб'яднання высілкаў па выкарыстанні ў Беларусі навукова-тэхнічнага патэнцыялу Ізраіля.

У тэлемосце бралі ўдзел доктар хімічных навук, вядучы супрацоўнік і выкладчык Габрэйскага ўніверсітэту ў Ерусаліме Барыс Ларын і кандыдат хімічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Дзмітрый Рудакоў.

Падчас тэлемосту ІКЦ дэманстраваў выставу, прысвечаную жыццю і дзейнасці Хаіма Вейцмана і навукова-тэхнічным дасягненням Дзяржавы Ізраіль.

У праграму дзён Хаіма Вейцмана, якія будуць доўжыцца да канца года, уключаны розныя мерапрыемствы ў шэрагу рэгіёнаў і гарадоў Беларусі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хлеба і патронаў!

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Беларусь рыхтуецца калі не да поўнамаштабных баталіяў, то, зменшага, да «лакальнага канфлікту». Прынамсі, апошнія «заклапочанасці» кіраўніка дзяржавы выглядаюць менавіта так.**



На гэтым тыдні, нягледзячы на тое, што на Данбасе супраць украінскіх войскаў ваююць рэгулярныя часткі расійскай арміі (гэта ўсе ведаюць, але чамусьці робяць выгляд, што не заўважаюць), ЗША адмовіла Украіне ў пастаўках зброі. Паглядзеўшы на такія дзеянні «саюзнікаў» у дачыненні да нашай паўднёвай суседкі, Аляксандр Рыгоравіч зрабіў свае высновы — зброю трэба выраблць тут.

Кіраўнік «сінявокай» запатрабаваў стварыць у краіне поўны замкнёны цыкл вытворчасці перспектыўных узораў узбраення: ад сродкаў перамяшчэння да сродкаў паражэння. «Неабходна абсталёўваць нашу армію сучаснай, высокадакладнай і эфектыўнай зброяй. Тэхніка павінна забяспечваць падраздзяленням Узброеных Сіл абароненасць, высокую мабільнасць, кіраванасць, магчымасць весці разведку і наносіць дакладныя агнявыя ўдары на вялікія адлегласці», — пазначыў свае патрабаванні Лукашэнка.

Звярніце ўвагу на такія яго словы: «І падыходы тут, як мы звычайна кажам у прамысловасці, што вось гэта мы купім ці нейкую частку закупім, — ніхто вам нічога не прадасць, калі вы не створыце самі! Нават калі з кімсьці дамовіцеся сёння аб распрацоўцы нейкіх відаў зброі, трэба мець на ўвазе, што заўтра гэты партнёр ад вас сыдзе. Ніхто не дасць і не прадасць нават за вялікія грошы тое, што нам сёння трэба — перспектыўныя віды ўзбраення. Вы бачыце гэта на прыкладзе нашай суседняй Украіны». Гэта значыць, высновы з украінскай сітуацыі зробленыя. Засталося толькі пачаць распрацоўку гэтай самай зброі.

«Хочаш міру — рыхтуйся да вайны. Нам вайна не пагражае на сённяшні дзень, але войска трэба ўзбройваць своечасова. Будзем гатовыя адказаць на любы выклік часу, у тым ліку і падобны (чытай — украінскі), значыць, вайны не будзе. На жаль, твар вайны мяняецца. У сувязі з гэтым павінны змяняцца і мы», — працягнуў беларускі кіраўнік.

Звярніце ўвагу на агаворкі: вайна не пагражае «на сённяшні дзень», але да вайны рыхтавацца трэба. Ваенны выклік — «падобны» да ўкраінскага. Гэта значыць, відавочна пазначаны кірунак пагрозы: Усход, Расія, у якой тут, у Беларусі, авіяцыя і ваенныя базы, і з якой мы знаходзімся ў адным ваенным блоку — АДКБ.

Цікава, ці можна выкарыстаць тут расійскі персанал радыёлакацыйных станцый і авіяпалка ВПС РФ як закладнікаў?

> **«Хочаш міру — рыхтуйся да вайны. Нам вайна не пагражае на сённяшні дзень, але войска трэба ўзбройваць своечасова. Будзем гатовыя адказаць на любы выклік часу», — сказаў Лукашэнка**

Зрэшты, не адным узбраеннем павінна быць забяспечана армія. Нароўні са зброяй, Лукашэнка запатрабаваў паскорыць працу па аднаўленні аб'ёмаў вытворчасці свініны ў краіне, даўшы зразумець, што не мае намеру мяняць раней усталяваны апошні тэрмін выканання гэтага даручэння — 1 красавіка 2015 года. «Не чакайце, што нехта прыйдзе і вам пабудуе. Даставайце з усіх кішэняў грошы і заканчвайце гэтыя комплексы», — запатрабаваў ён.

«Аднаўленне аб'ёмаў вытворчасці свініны — у ліку пытанняў эканамічнай і харчовай бяспекі краіны», — заявіў Лукашэнка на чарговай нарадзе па свінячай праблеме.

Чаму побач стаяць бяспека і свініна? Салдату трэба не толькі даць у рукі зброю, але і накарміць. А без тушонкі армія — нішто! Не будзе свініны — не будзе тушонкі. Не будзе тушонкі — не будзе войска. Гэта і вожыку зразумела. Балазе, з іншымі стратэгічнымі прадуктамі — капустай і бульбай — у нас, падаецца, праблемаў няма.

Калі для свініны можна дастаць «грошы з кішэні», то высокадакладная зброя каштуе не проста дорага, а вельмі дорага. Ці дазволяць нам нашыя фінансавыя магчымасці распрацаваць і стварыць падобнае абсталяванне?

З грашыма ў нас, як заўсёды, праблема. Нягледзячы на тое, улады Беларусі знайшлі новыя схемы бясшпліннай транспарціроўкі нафтапрадуктаў у Еўропу, замест ужо вядомых Расіі растваральнікаў і распушчальнікаў, прыбытак краіны ад экспарту нафтапрадуктаў у студзені-ліпені 2014 года знізіўся на 2,9% у параўнанні з аналагічным перыядам 2013 года, і склаў да $ 6,541 мільярда, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Гэта не многа, але і не мала.

Да таго ж, ёсць больш хітры, але даволі звыклы шлях. Калі нам ніхто не прадасць сучасную зброю, то... Хай дадуць грошай на стварэнне гэтай зброі!

Беларусь разлічвае выпрасіць у МВФ новы крэдыт пад новую праграму рэформаў. Прынамсі, намеснік кіраўніка Мінфіна РБ Максім Ермаловіч, які паляцеў у ЗША ў складзе беларускай дэлегацыі, абмяркуе такую магчымасць з намеснікам выканаўчага дырэктара Міжнароднага валютнага фонду Мін Джу.

«Гэтая сустрэча будзе тычыцца нашага супрацоўніцтва з МВФ. Мы бачым вялікі прагрэс у адносінах з МВФ, і я спадзяюся, што мы працягнем наш дыялог аб пачатку новай праграмы з МВФ», — заявіў Ермаловіч.

Пад вялікім прагрэсам Ермаловіч, натуральна, мае на ўвазе той выбітны факт, што нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, якія чыніліся «сінявокай» моцнымі свету гэтага, Беларусь пакуль спраўляецца з графікам пагашэння крэдыту stand-by і, мяркуючы па ўсім, здужае выканаць гэтую задачу. І чым бліжэй дата апошняга плацяжу, тым прадуктыўней становіцца дыялог з МВФ.

Ермаловіч аптымістычны. «Шмат што было зроблена ў межах мінулай праграмы stand-by», — заявіў ён, не заўважыўшы пры гэтым, што шмат было і не зроблена. І варта разумець, што новы крэдыт Беларусь калі і атрымае, то атрымае вельмі не хутка. Справа нават не ў тым, ці вераць функцыянеры МВФ у тое, што Беларусь зможа расплаціцца па цяперашнім stand-by. Праз год — чарговыя прэзідэнцкія выбары, і разглядаць выдачу крэдытаў на фоне палітычнай кампаніі МВФ наўрад ці будзе. Не кажучы ўжо аб самой выдачы гэтага крэдыту.

Зарабляць можна, але шкада, што мы кожны раз губляем ініцыятыву. Памятаеце, у пачатку 90-х БНФ вылучаў ідэю «Балта-Чарнаморскага калектара»? Дык зараз Мінінфраструктуры Украіны накіравала праект міжурадавага пагаднення аб развіцці міжнароднага транспартнага калідора «Балтыка — Чорнае мора» на ўзгадненне азербайджанскаму, беларускаму, балгарскаму, грузінскаму, эстонскаму, латвійскаму, літоўскаму, малдаўскаму, польскаму і турэцкаму бакам.

А маглі б апярэдзіць украінцаў на 25 гадоў! Чвэрць стагоддзя згубілі, каб аддаць гэтую ініцыятыву ў чужыя рукі!

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Майра Мора

**Кіраўніца Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі ў інтэрв'ю праграме «Тыдзень» тэлеканала СТВ пахваліла беларускія аўтамабільныя дарогі і прызналася, што яна тут часам «ліхачыць».**

Дыпламатка знаходзіцца ў Мінску ўжо 9 гадоў, раней была паслом Латвіі ў Беларусі. «Літоўскія дарогі лепш латвійскіх, а беларускія лепш літоўскіх. Беларусь выйграе», — сказала Майра Мора, адзначыўшы, што ёсць участкі дарог «на абсалютна вельмі добрым еўрапейскім узроўні».

Яна прызналася, што даводзілася мець зносіны з беларускай Дзяржаўтаінспекцыяй, некалькі разоў яе спынялі за перавышэнне хуткасці, «на трошкі». «Спынілі. Вельмі так ветліва, нічога. Я перапрошвала, сказала, што больш не буду», — распавяла Майра Мора.

Еўрадыпламатка падтрымала ідэю беларускіх уладаў аб будаўніцтве бетонных дарог. «Дарогі, дзе садзяцца самалёты, не могуць быць іншымі», — адзначыла яна, маючы на ўвазе, відаць, нядаўнюю пасадку на аэрадромны ўчастак аўтадарогі Мінск — Магілёў знішчальнікаў МіГ–29 і штурмавікоў Су–25 на вучэннях па разгрупаванні авіяцыі.



### Мікалай Дзядок

**Палітвязень, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4, атрымаў чарговае спагнанне і правёў у штрафным ізалятары 20 сутак.**

Такім чынам турэмная адміністрацыя пакарала яго за парушэнне ўстаноўленай для зняволеных формы адзення. Пра гэта праваабаронцам паведаміў бацька палітвязня Аляксандр Дзядок.

Літаральна праз дзень пасля дня народзінаў, 23 жніўня, Мікалаю вынеслі чарговае пакаранне — 20 сутак ШЫЗА. Менавіта такім чынам у 2012 годзе ў Магілёўскай турме быў пакараны і Мікалай Статкевіч, пішa ПЦ «Вясна».

Мікалай Дзядок быў узяты пад варту 3 верасня 2010 года, асуджаны па «справе анархістаў» 27 мая 2011 года судом Заводскага раёна Мінска па ч. 2 арт. 339 КК (злосная хуліганства) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суда ад 5 снежня 2012 года ўмовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 Магілёва. Мае больш за 20 спагнанняў ад адміністрацыі калоніі і турмы.

Беларускія і замежныя праваабаронцы вызнаюць Мікалая Дзядка як палітычна зняволенага і патрабуюць ягонага неадкладнага вызвалення разам з іншымі палітвязнямі.

### Вікторыя Азаранка

**Лепшая беларуская тэнісістка прыняла рашэнне датэрмінова завяршыць сезон. Пра гэта яна паведаміла на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.**



«На жаль, я не буду выступаць на турнірах у астатняй частцы сезона. Увесь гэты год атрымаўся для мяне вельмі складаным. Я з усіх сіл старалася дадаваць, кожны дзень працавала, але аказалася, што гэта не лепшы падыход», — напісала Азаранка.

«Я выкарыстаю гэты час, каб цалкам аднавіцца і падрыхтавацца да наступнага сезона. Я веру, што на ўсё ёсць прычына, і часам сітуацыя складваецца не так, як хочацца, але трэба старацца атрымаць з яе максімум. Менавіта гэта я і спрабую зрабіць», — дадала тэнісістка.

Такім чынам, апошнім матчам у гэтым сезоне для Азаранкі стала параза ў 1/8 фіналу турніру ў Токіё ад Аны Іванавіч.

Цяпер Вікторыя Азаранка ў сусветным рэйтынгу займае 24-е месца. Упершыню з 2007 года яна завершыць сезон па-за топ–20. У апошнія тры сезоны Азаранка завяршала сезон у топ–3 сусветнага рэйтынгу: №3 — у 2011-м, №1 — у 2012-м, №2 — у 2013-м.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэінкарнацыя асноўнага закона сацыялізму, ці Стратэгія–2030

**Няздольнасць спыніць падзенне вытворчасці ў абутковай галіне не перашкодзіла аптымістам ва ўладзе абвясціць пра пераход да эканомікі ведаў.**

10 верасня на пасяджэнні камісіі па пытаннях дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі пры Савеце Міністраў быў прадстаўлены план-праспект стратэгіі развіцця эканомікі Беларусі да 2030 года.

Ці азначае гэта, што Нацыянальная стратэгія ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на перыяд да 2020 года, прынятая ў траўні 2004-га, паспяхова рэалізавана? У афіцыйнай інфармацыі, апублікаванай БЕЛТА, ніякіх тлумачэнняў з гэтай нагоды няма.

Але калі меркаваць па дынаміцы макраэканамічных паказчыкаў, этап устойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь застаўся ў мінулым. Зразумела, што аналізу прычын невыканання Стратэгіі–2020 чакаць не даводзіцца — гэта традыцыя, закладзеная яшчэ ў гады першых (сталінскіх) пяцігодак.

Тым не менш пра адмову ад развіцця гаворка пакуль не ідзе. Наадварот, развіццю плануецца надаць новы імпульс, і гэты імпульс, на думку старшыні Прэзідыума НАН Уладзіміра Гусакова, неабходна сфармаваць за кошт «пераходу на шосты, самы высокі, тэхналагічны ўклад».

На жаль, у размове з журналістамі спадар Гусакоў нічога не паведаміў пра лёс не самых высокіх тэхналагічных укладаў у Беларусі. Шостаму ўкладу, калі меркаваць па парадкавым нумары, павінен папярэднічаць пяты. Яго ключавы фактар — мікраэлектронныя кампаненты.

А калі так, дык для размовы з журналістамі, мабыць, падышоў бы адзін з пустуючых цэхаў ААТ «Інтэграл». Але флагман айчыннай мікраэлектронікі размешчаны на ўскраіне горада. Дабірацца далёка і нязручна. Прасцей сустрэцца з журналістамі ў цэнтры беларускай сталіцы. Напрыклад, па адрасе вул. Якуба Коласа, 3 у памяшканнях ГЦ «Алімп», дзе даўней збіралі знакамітыя вылічальныя машыны «Мінск–32». Сёння тут ідзе бойкі гандаль кітайскім шырспажывам. Месца шматлюднае. Будзе каму паслухаць пра бліжэйшыя перспектывы інавацыйнага развіцця краіны, заснаванага на эканоміцы ведаў.

| Індэкс вытворчасці абутку (у працэнтах да папярэдняга года) | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2010 | 2011 | 2012 | 2013 | 2014* |
| 119,6 | 104,8 | 96,9 | 97,7 | 90,0 |

*за студзень-ліпень

## Другая спроба абуць беларусаў

Працягнем спускацца па прыступках тэхналагічных укладаў, і дапаможа нам у гэтым адзіны палітык (АП). 9 верасня ён наведаў ААТ «Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне» ў пасёлку Гатава. АП быў катэгарычны і канкрэтны: «Мы должны поднять свое производство, одеть, обуть в свое, современное, чтобы люди могли гордиться белорусской обувью».

Фарміраваць у спажыўцоў пачуццё гонару плануецца шляхам стварэння сучасных прадпрыемстваў па выпуску гатовых вырабаў. З гэтай мэтай у кастрычніку на нарадзе ў Віцебску будуць разгледжаны праекты па мадэрнізацыі абутковай галіны.

Абуць беларусаў у вырабы айчыннай прамысловасці родная дзяржава спрабавала яшчэ 8 лістапада 2012 года, калі Лукашэнка даручыў да канца месяца прадставіць канкрэтныя прапановы па развіцці гарбарнай галіны.

Прывяду цытату, запазычаную з артыкула ў «Советской Белоруссии» двухгадовай даўніны: «Первый вице-премьер Владимир Семашко доложил о состоянии и перспективах развития отрасли. По его словам, необходимо за короткий промежуток времени нарастить объемы производства до минимум 25 млн. пар в год, решив таким образом проблему насыщения внутреннего рынка отечественной обувью и создав необходимый экспортный потенциал. В настоящее время внутренний рынок закрывается только примерно на треть».

Што ж атрымалася зрабіць «за кароткі прамежак часу»? Звернемся да табліцы, складзенай на падставе дадзеных Белстата. У 2012 годзе ў Беларусі было выраблена 15,2 мільёна пар абутку, у 2013-м — 14,5 мільёна. Гэта значыць, што замест запланаванага росту атрымаўся спад. У бягучым годзе спад працягнуўся, прычым паскорана.

Але зніжэннем тэмпаў росту праблемы вытворцаў абутку не абмяжоўваліся. Калі на 1 студзеня 2013 года складскія запасы да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці прадукцыі склалі 270,8%, то на 1 жніўня гэтага года — 470%. Выраблена за 7 месяцаў 2014 года 7,5 мільёна пар абутку, асела на складах — 4,7 мільёна пар!

Такая вось невясёлая статыстыка. Калі ўлічыць, што індэкс прамысловай вытворчасці да ўзроўню студзеня-ліпеня 2013 года склаў 99,4% (95,2% годам раней), то можна смела канстатаваць зніжэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў, гісторыя вытворчасці якіх налічвае дзесяцігоддзі.

Тут самы час нагадаць, што ключавым фактарам шостага тэхналагічнага ўкладу з'яўляюцца нанатэхналогіі. Калі план-праспект стратэгіі развіцця эканомікі Беларусі да 2030 года, абвешчаны галоўным акадэмікам краіны, будзе паспяхова рэалізаваны, то будучым айчынным нанатэхнолагам давядзецца здавольвацца выключна імпартным абуткам. З узорамі айчыннага абутку яны змогуць азнаёміцца хіба што ў краязнаўчых музеях.




## Паводле рэцэптаў Вялікай савецкай энцыклапедыі

Асноўнымі ідэямі дакумента, які павінен забяспечыць прарыў Беларусі і беларусаў у будучыню, кіраўнік Аналітычнага цэнтра НДЭІ Мінэканомікі Вольга Бурдыка падзялілася з «Ежедневником» 12 жніўня.

Устойлівае развіццё краіны будзе заснавана на трох «кітах»: чалавек, эканоміка, экалогія.

Прыгледзімся да двух першых «кітоў». Першаму «неабходна забяспечыць высокія жыццёвыя стандарты і ўмовы для яго развіцця». Выкананне гэтай задачы ўскладаецца на другога кіта — г.зн. на эканоміку — «неабходна высокаэфектыўная эканоміка, заснаваная на ведах і інавацыях».

Як у пенсіянера, які вывучаў у юнацтве стандартны курс марксізму-ленінізму, ад гэткага тандэму кітападобных у мяне тут жа паўсталі адпаведныя асацыяцыі. Вялікая савецкая энцыклапедыя пацвердзіла абгрунтаванасць іх узнікнення: «Асноўны эканамічны закон сацыялізму, закон руху сацыялістычнай эканомікі, зместам якога з'яўляецца забеспячэнне дабрабыту і ўсебаковага развіцця ўсіх членаў грамадства з дапамогай найбольш поўнага задавальнення іх пастаянна растучых матэрыяльных і культурных патрэбаў, што дасягаецца шляхам бесперапыннага росту і ўдасканалення сацыялістычнай вытворчасці на базе навукова-тэхнічнага прагрэсу».

Перад намі ўсё той жа чалавек-утрыманец, якому плануецца забяспечыць высокія жыццёвыя стандарты (дабрабыт і ўсебаковае развіццё). Але хто гэта зробіць? Хто або што?

У савецкай версіі адказнасць за забеспячэнне дабрабыту і ўсебаковае развіццё ўсіх чальцоў грамадства ўскладалася на гістарычны працэс, паступальнасць якога гарантавалася аб'ектыўнымі (незалежнымі ад чалавечай свядомасці) законамі. Асноўны эканамічны закон сацыялізму — толькі адзін са слаўнай кагорты такога кшталту законаў. У Стратэгіі–2030 месца аб'ектыўных законаў, трэба думаць, зойме дзяржава.

## Гангрэна неканкурэнтаздольнасці

З ростам патрэбаў чальцоў савецкага грамадства асаблівых праблем не ўзнікала, а вось з іх задавальненнем здарылася замінка.

Савецкі Саюз засвоіў чацвёрты тэхналагічны ўклад шляхам запазычванняў заходніх тэхналогій і цаной шматмільённых ахвяраў. Нездарма Сталін вызначыў сучасную вайну як вайну матораў (ключавы фактар чацвёртага тэхналагічнага ўкладу — рухавік унутранага згарання). Але пераход да пятага тэхналагічнага ўкладу знаменаваў заканчэнне цэлай эпохі — эпохі індустрыялізацыі. А ў постіндустрыяльную эпоху краіна пераможнага сацыялізму ўпісацца не змагла.

У якасці каментара да апошняга сказу прывяду адзін прыклад «ад жыцця». У канцы 80-х гадоў аўтар гэтых радкоў займаўся вытворчасцю мікрасхем памяці аб'ёмам 1 Мб. Для гэтай мэты на «Інтэграле» быў арганізаваны асобны цэх, які працаваў у тры змены. Але атрымаць адну мікрасхему, якая працуе, здаралася далёка не кожны тыдзень.

Савецкі этап мадэрнізацыі завяршыў трохсотгадовы перыяд мадэрнізацый зверху, калі ў якасці асноўнай крыніцы інавацый выступала дзяржава. Для далейшага падтрымання гістарычнай дынамікі было неабходна, каб кожны больш-менш актыўны прадстаўнік грамадства быў заклапочаны праблемай аптымізацыі (у межах свайго кругагляду, зразумела).

Але масавая актыўнасць на ніжніх узроўнях несумяшчальная са звыклай аўтарытарнай прыродай дзяржавы. Таму «кіроўная эліта пільна сочыць за тым, каб быдла спакойна стаяла ў стойле. Перспектыва сутыкнуцца тварам да твару з шырокай масай, якая ўсвядоміла свае інтарэсы, азначае канец усеўладдзю, сыходжанне з гістарычнай арэны, перспектыву адказнасці за канкрэтныя злачынствы» (Ігар Якавенка, культуролаг).

Савецкая эканоміка функцыянавала за «жалезнай заслонай». Праблема збыту «чырвоных дырэктараў» не хвалявала. Ва ўмовах усеагульнага дэфіцыту любы тавар, незалежна ад кошту і якасці, знаходзіў свайго спажыўца.

Дэмантаж «жалезнай заслоны» прывёў да таго, што першымі ахвярамі сталі высокатэхналагічныя галіны (прыгадаем ГЦ «Алімп»). Па меры росту заработнай платы гангрэна неканкурэнтаздольнасці з-за росту выдаткаў стала распаўсюджвацца па ўсім эканамічным арганізме.

У 2012 годзе рэальная заработная плата ў рамках палітыкі «забеспячэння высокіх жыццёвых стандартаў» павялічылася ў Беларусі на 21,9%. Рост вытворчасці абутку змяніўся падзеннем (гл. табліцу). Пераход да эканомікі ведаў яго не спыніць. Наадварот, з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што негатыўныя з'явы ў эканоміцы будуць нарастаць.

***

Распрацоўка беларускім кіраўніцтвам планаў па пераходзе да эканомікі ведаў прыпала на пачатак жорсткага супрацьстаяння паміж Расіяй і Захадам. Супрацьстаянне азначае фактычную адмову нашага адзінага саюзніка ад прызнання культурнай перавагі развітых заходніх краін, прадуктам якіх і з'яўляецца высокаразвітая эканоміка. Гаворка фактычна ідзе пра згортванне палітыкі мадэрнізацыі (вестэрнізацыі), якая праводзіцца ў Расіі з часоў Аляксея Міхайлавіча (бацькі Пятра I).





# Вайна на Данбасе. Нежалезныя людзі



Зміцер ГАЛКО

**«Той, хто выжыў у гэтым гармідары і не скурвіўся, яны проста жалезнымі людзьмі адтуль выходзяць, такіх ужо не зламаць», — кажа Саша. Але яны на фронт вяртацца ўжо не збіраюцца, ім перамога падаецца прывіднай.**

### Геапалітыка супраць жывых людзей

Раней у беларусаў была адна рыса, якая вельмі моцна адрознівала іх ад расіянаў — яны не цікавіліся «геапалітыкай». У сэнсе не любілі вырашаць лёсы свету, сутыкаючы краіны і кантыненты ў палкіх і марных размовах. Цяпер жа я ўсё часцей чую, як яны гэта робяць амаль з расійскай зацятасцю, нібы ў ток-шоў Уладзіміра Салаўёва ўдзельнічаюць. У цягніку Баранавічы—Жытомір, напрыклад, дзве цётухны савецкага веку абмяркоўвалі перад сном, што «ЗША хутка капец» і хто каго потым пераможа — Расія Кітай ці Кітай Расію. На гэты конт у іх былі розныя думкі, але ў адным яны былі цалкам згодныя — «этыя хахлы ўжэ саўсем абнаглелі». Бач, усю геапалітыку псуюць, блытаюцца пад нагамі.

Абмяркоўвалі вельмі гучна. Чаго я таксама раней у беларусамі не назіраў — каб яны гэтак нахабна сябе паводзілі. Вагон цягніка быў напалову запоўнены ўкраінцамі, а цётухны нібыта і не разумелі, што вось яны, тыя «хахлы», побач едуць. Зрэшты, з геапалітыкай заўсёды так — яна жывых людзей не заўважае і лёгка перакрэслівае цэлыя народы.

Не заўважаюць іх часам і тыя, хто ніколі ўкраінцаў «хахламі» не назаве, наадварот, будзе казаць ім усялякія кампліменты. Прынамсі пакуль яны вядуць змаганне супраць Расійскай імперыі на Данбасе. Для іх яны таксама проста элемент геапалітычнай схемы. Неабходны для перамогі цывілізацыі над варварствам. Калі ж яны робяць нешта такое, што парушае прыгожую схему перамогі, напрыклад, заключаюць перамір'е, гэта выклікае абурэнне.

Украінцы мусяць быць героямі, не шкадаваць сябе і не ведаць страху, класці душу і цела за нашу і вашу свабоду. Інačай рызыкуюць стаць «хахламі».

### Вайна не з глядацкай залі

Мне хапіла некалькіх сустрэч з жывымі людзьмі, каб перастаць крычаць з глядацкай залі: «Давай, не тармазі, мачы іх!»

У Кіеве мы сустрэліся з Сяргеем Дзмітрыевым, святаром, з якім калісьці ездзілі разам у валанцёрскія паездкі да вайскоўцаў на Херсоншчыне. Перагледзалі фотаздымкі адтуль. «Гэтага хлопца забілі… і гэтага», — каментаваў ён ледзь не кожны здымак. А пра адно вялікае групавое фота сказаў, што з яго «паловы ўжо няма».

Яна, дзяўчына з Беларусі, якая была на Майдане ад пачатку да канца, а цяпер дапамагае на кухні ў батальёне «Айдар», кажа, што імкнецца не запамінаць байцоў, бо заўтра іх ужо можа не быць, а здольнасць чалавека перажываць смерць знаёмых людзей не бязмежная.





Я не ведаў да прыезду, ці жывыя мае знаёмыя, два хлопцы з Луганшчыны, якія далучыліся да батальёна «Азоў». Яны вельмі матываваныя і баявітыя, такія, думаў я, могуць загінуць першымі. На шчасце, аказаліся жывыя, якраз прыехалі на пабыўку. Падсвядома, мабыць, я чакаў убачыць суворых ветэранаў з геаічных фільмаў і кнігаў пра вайну. Апаленых вайной, але не зломленых, непахісных у сваім жаданні разбіць ворага. Чаго я зусім не чакаў, дык гэта пачуць размовы ў духу салдата Швейка.

«Стаім мы неяк, занятыя вельмі важнай справай — разважаем пра тое, як апрыходаваць скрыню вінаграду. Тут раптам пачынаецца п…..ц. А п….ц, трэба заўважыць, бывае трох разнавіднасцяў…» — расказвае Арцём.

### П…..ц трох разнавіднасцяў

Няхай тыя разнавіднасці застануцца ваеннай таямніцай. Магу толькі сказаць, што там кожная разнавіднасць яшчэ больш нецэнзурная за іншую. І яны напоўніцу ўсе тры паспыталі. Іх адпраўлялі ў разведку, потым пра іх забываючы. Пакідалі абараняць пост з аўтаматамі супраць танкаў.

«З цяжкага ўзбраення ў нас тады былі толькі бронекамізэлькі. Так, яны вельмі цяжкія, асабліва калі даводзіцца хутка ўцякаць», — жартуюць хлопцы. Мінёры забывалі ім паведаміць, дзе менавіта яны мініравалі тэрыторыю вакол іхнага лагеру. Камандзір, збудаваўшы сабе бліндаж з трох шэрагаў сталёвых пліт і цэлага лабірынту адыходных акопаў, мог пакінуць аголенымі пяцьсот метраў перыметру фронту.

«Каб выжыць, мне, сяржанту, давялося вучыцца аддаваць загады палкоўніку і пасылаць яго на х…Бо ў яго стратэгічнае мысленне было на ўзроўні, а ці не пайсці нам знясь дзе-небудзь дэнээраўскі сцяжок. Пры гэтым ён мог «зушку» (зенітную ўстаноўку — аўт.) загадаць паставіць зверху на наш бліндаж. Ты што, пта маць, кажу, хочаш, каб нас тут усіх паклалі?!» — гарачыцца Арцём.

Яны распавядаюць пра ганебныя выпадкі, калі ў некаторых вайсковых частках аддавалі танк у абмен на дзве легкавушкі, а лёгкую зброю ўвогуле мянялі на гарэлку. Пра марадзёрства і нематываваныя забойствы. Тое, аб чым яны гавораць, настолькі іх злуе, што яны гатовыя прыняжаць сябе ў параўнанні з праціўнікам. Маўляў, у іх там дысцыпліна лепей наладжаная. Іхняя шчырасць выклікае павагу, але чуць усё гэта цяжка, асабліва калі ты жадаеш бачыць у іх «воінаў святла».

### Нежалезныя людзі

«Той, хто выжыў у гэтым гармідары і не скурвіўся, яны проста жалезнымі людзьмі адтуль выходзяць, такіх ужо не зламаць», — спрабуе дадаць пазітыву Саша. Але ж яны самі, хаця выжылі і не скурвіліся, толькі на фронт вяртацца ўжо не збіраюцца, ім магчымасць перамогі падаецца прывіднай. Хіба гэта не называецца зломленасцю?

Мы ехалі на Данбас праз Харкаў разам з двума хлопцамі з батальёну «Айдар» і яшчэ двума з батальёну тэрытарыяльнай абароны пад парадкавым нумарам. Да нашай кампаніі падсеў малады чалавек з Данбасу, уладальнік уласнай невялічкай фірмы. Перакананы сепаратыст (хаця, як ён заўважыў, «гэта ваша вызначэнне»). «Перакананы» ў тым сэнсе, што яго немагчыма было пераканаць у правільнасці справы, якую робяць украінскія вайскоўцы на Данбасе, ніякай выразнай ідэалогіі ён не падзяляў. Не сказаць нават, каб ненавідзеў Украіну, проста зусім нічога ў ёй не любіў, бо вырас на ўсім расійскім.

Хлопцы з тэрабароны праседзелі з ім да раніцы. Не пераканалі. І што, пытаюся, так і адпусціце яго ў свет непераканаными? «Зараз мы ў Харкаве выйдзем, там кожны другі такі, усіх не пераканаеш», — адказваюць з фаталізмам.

Падобна, гэтая сустрэча на іх моцна паўплывала. Адзін на харкаўскай аўтастанцыі проста развярнуўся і паехаў назад дадому. Куды ж твой пабрацім падзеўся, пытаюцца ў таго, што застаўся. «Ён мне болей не пабрацім», — кажа, а ў самога твар ажно счарнеў. Ён і сам ехаць далей не надта хоча. «Не разумею, куды я еду і навошта. Ніводзін тэлефон нашых хлопцаў не адказвае, мо іх там няма ўжо нікога…» — гаворыць Анатоль разгублена. Але працягвае дакараць свайго былога пабраціма, які дэзерціраваў. Бо праз яго кагосьці цяпер на пабыўку не адпусцяць.

### Агонь і грукат

«Яго ж цяпер у турму адразу пасадзяць, так?» — неяк па-дзіцячаму пытаецца ў нас гэты здаровы мужык. Бачна, што ён спрабуе самога сябе пераканаць у тым, што ўсё робіць правільна, у адрозненне ад яго.

Аўтобусам мы позна вечарам даехалі да Старабельска і вырашылі тут заначаваць. Бо Анатоль так і не змог каму-небудзь датэлефанавацца, таму не ведаў, куды яму далей ехаць, а я забыў у Харкаве тэлефон і вырашыў раніцай за ім вярнуцца. Ён расклаў на стале мамчыну ежу, катлеткі, памідорчыкі, і над гэтай выспачкай ужо далёкага хатняга жыцця неяк зусім раскіс.

«Чуеш, у нас з 900 чалавек толькі 32 засталося… І там за адну гарачую ноч расстраляў скрыню патронаў і гранатаў. У мяне пытаюцца потым: «Куды ты страляў?» А халера яго ведае куды, такое ачмурэнне, нічога не памятаю. Толькі агонь і грукат… Мо я з табой у Харкаў паеду?» — кажа Толік.

Ранкам ён усё-ткі датэлефанаваўся да камандзіра. Цяпер ужо спрабуе адгаварыць мяне ехаць у Харкаў, бо няма сэнсу, тэлефон яўна хто-небудзь прыўлашчыў. Мы знаёмыя з ім усяго суткі, а ён чапляецца за мяне як за апошнюю саломінку. Каб зачапіцца хоць за што-небудзь у гэтай хуткаплыннай страшнай рэчаіснасці.

Але я еду назад паўз чараду падбітых танкаў, якія цягнуць на рамонт. Толькі жывых людзей, якіх зжэрла чортава «геапалітыка», ужо не адрамантуеш.

# Мова вяла мяне па жыцці

**21 верасня 60-гадовы юбілей адзначыў Станіслаў Суднік, старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ, рэдактар газеты «Наша слова» і часопіса «Лідскі летапісец», публіцыст, паэт і перакладчык. Пра сваё жыццё і любімую працу юбіляр распавёў Эле Дзвінскай.**



### Мова мне дапамагала

— Не адзін раз мне даводзілася чытаць аповеды беларусаў пра тое, як ім цяжка даводзілася з беларускай моваю ў рускамоўным асяроддзі савецкіх часоў, як яны вымушаны былі цярпець кпіны з-за сваёй беларускасці.

У маім жыцці ўсё было наадварот. Беларуская мова мне дапамагала, яна мяне ахоўвала, вяла па жыцці, забяспечвала, калі хочаце, месца ў самых розных калектывах, і нават кар'ерны рост. Першы верш у жыцці, які я вывучыў, быў верш Францішка Багушэвіча «Здарэнне», які я пачуў ад бабулі.

У 1976 годзе мне ўдалося натрапіць на беларускамоўны асяродак у Мінску. На 4-м курсе ў нас быў ужо вольны выхад у горад (Станіслаў Суднік вучыўся ў ВІЗРУ — рэд.). Я часта бываў у цэнтральнай кнігарні і пазнаёміўся са студэнтамі ўніверсітэта Ігарам Чарняўскім і Міколам Мікалаевым. Менавіта на іх я абапёрся ў 1988 годзе, калі мы пачыналі беларускі рух у Казахстане і Цвяры. Менавіта ад Ігара я павёз у Казахстан першую адраджэнскую літаратуру і першую касету з песнямі Сокалава-Воюша.

І яшчэ адзін чалавек пакінуў у тыя часы глыбокі след у маёй свядомасці. Гэта Фёдар Янкоўскі.

У 1983 годзе мяне нечакана, без маёй згоды, перавялі на палігон у Казахстан. У нашай частцы было каля 30 беларусаў, ды мо яшчэ столькі выпускнікоў Мінскай вучэльні, у многіх з якіх жонкі былі беларускамі. З прычыны сваёй нешматлікасці беларускае зямляцтва было больш згуртаваным, чым, скажам, украінскае, якое налічвала 70–80 чалавек. Згуртаванасць беларускага зямляцтва абумоўлівалася і тым, што многія беларусы ўжывалі па-за службай беларускую мову.

### Нацыянальная свядомасць

— Спрыяльная сітуацыя для перарастання зямляцтва ў нацыянальны рух склалася ў 1988 годзе, калі я, будучы яшчэ маёрам, быў прызначаны на вельмі высокую пасаду. Маё прызначэнне пацягнула шэраг іншых прызначэнняў. На больш высокія пасады паступовa пайшлі Іван Ягораў з Гомеля, Міхаіл Бабушкін з Бранска, Леанід Лапо, Сяргей Міхалевіч з Мінска, у частку прыйшло шмат маладых беларускіх афіцэраў.

У тым жа 1988 годзе былі ўстаноўлены стасункі з Мінскам. Мы атрымалі доступ да беларускай літаратуры новага часу. Тады да гэтага спрычыніўся Ігар Чарняўскі. З 1989 года ў Мінску мы абапіраліся ў асноўным на Міколу Міхноўскага і Алеся Емяльянава.

Першай акцыяй стаўся збор подпісаў за дзяржаўнасць беларускай мовы. Тады пад гэтым зваротам падпісаўся 21 афіцэр. Наш ліст быў надрукаваны ў дзвюх газетах Беларусі і ўвайшоў у даклад Ніны Мазай Вярхоўнаму Савету БССР. Гэты збор подпісаў быў адным з першых збораў за беларускую мову. Праўда, пасля гэтага наступныя нашы лісты і звароты ў Беларусі друкаваць перасталі.

### Газета «Рокаш»

— Хутка ўзнікла пытанне пра ўласную газету. Мой аддзел ужо на той час меў дастаткова моцную кампутарную базу. Сканеру не было. Прынтар быў матрычны. Беларускага шрыфту не было. Але было жаданне. І мы прыступілі да рэалізацыі праекту выдання беларускай газеты «Рокаш». У жніўні 1990 года была аддрукавана першая сотня асобнікаў. «Рокаш» быў вызначаны як газета Прыазёрскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны (Джэзказганская вобласці, Казахскай ССР). Гэта была другая газета ў гісторыі (пасля «Нашага слова»), якая выйшла пад шыльдай ТБМ.

Газету «Рокаш» забаранілі 23 жніўня 1991 года, яна была першай забароненай беларускай газетай новага часу.

### Беларускае згуртаванне вайскоўцаў

— Падчас жніўеньскага путчу 1991 года ў Мінску было заснавана Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. На 12–13 кастрычніка быў прызначаны ўстаноўчы з'езд. Прапусціць гэты з'езд мы не маглі. Мы падрыхтавалі да з'езду два плакаты са знакамі распазнавання ў беларускім войску і ўзнагародамі беларускай дзяржавы.

Але нават маёй улады было недастаткова, каб адправіць дэлегацыю з Казахстана ў Беларусь. Давялося прымяняць вайсковыя хітрасці. Некаму была арганізавана камандзіроўка, нехта падгадаў адпачынак, хтосьці «прыхварэў». Тым не менш, з далёкага Казахстану прыехалі чатыры чалавекі: я, маёр Мікола Маргун, капітан Ігар Супаненка, старшы лейтэнант Віктар Грамадка.

Правядзенне з'езду БЗВ дазволіла нашай інтэлігенцыі, нашым дэпутатам зразумець ролю беларускіх афіцэраў у Савецкай Арміі, зразумець іх настроі. Правядзенне з'езду дазволіла рассеяць страх перад войскам, і потым, у снежні 1991 года, праводзіць правільную палітыку пры падзеле Узброеных Сілаў СССР. У лістападзе 1991 года выйшаў 9-ты нумар «Рокаша», якраз той, у якім быў рэпартаж пра 1-ы з'езд БЗВ. 10-ты нумар газеты выйшаў у снежні пасля Белавежскіх падзеяў. У студзені 1992 года былі надрукаваныя 20 асобнікаў «Шыхтовага статута Беларускага Войска».

Пасля заканчэння Цвярской Акадэміі імя маршала Жукава я заехаў у Мінск і папрасіў аднаго з генералаў умяшацца ў мой перавод у Беларусь. Нарэшце я прыехаў служыць у Масты.

31 снежня 1992 года я першым прыняў прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь у маім падраздзеле. Потым пачаў прыводзіць да прысягі афіцэраў, прапаршчыкаў, сяржантаў і салдатаў. Само сабой, тэкст прысягі быў на беларускай мове. Бацюшка свянціў кожны аўтамат. Пасля таго, як у шыхт стаў апошні салдат, я падаў каманду: «Зважай!», адчынілася акно, і з магнітафона загучаў гімн «Магутны Божа». З гэтым гімнам мастоўскі зенітна-ракетны дывізіён зрабіў свой крок у гісторыю як адзіны вайсковы падраздзел у незалежнай Беларусі, што прыняў прысягу на вернасць Бацькаўшчыне пад духоўны гімн усіх беларусаў «Магутны Божа».

У той час у дывізіёне было палажана весці заняткі па беларускай мове, што я ахвотна і рабіў. Заняткі па беларускай мове ішлі ва ўсіх Узброеных Сілах. Вось так і пайшла гэта мая служба ў беларускім войску. У той жа час у СПА Узброеных Сілаў Беларусі ішла рэформа. Мы змагаліся за Беларускае войска, я адзін мог на фоне ўсялякіх тэорый па лініі БЗВ ці БНФ праводзіць гэтую беларусізацыю на практыцы. Мог і праводзіў.

Увесь гэты час дывізіён адчуваў моцны прэсінг. Праверкі і камісіі сталі звыклымі. І ўсё недахопы, недахопы, недахопы...

На нейкім этапе гэтых недахопаў назбіралі дастаткова. У Міністэрстве быў узяты курс на разгром БЗВ, і я лёгка трапляў пад гэтую кампанію, хоць афіцыйна не ўваходзіў у арганізацыю. Як толькі сітуацыя вакол мяне прыціхла, узнікла магчымасць актывізаваць дзейнасць нацыянальных структураў у Ваўкавыскім раёне. Я наведаў Гудзевіцкі музей, асабіста пазнаёміўся з Алесем Белакозам. Паспрабавалі стварыць суполку ТБМ у Росі.

### Вайсковы слоўнік

— Урыўкамі, прыхапкам я працаваў над руска-беларускім вайсковым слоўнікам. Слоўнік быў спланаваны на 7 тысяч слоўных артыкулаў (пазней атрымаецца 8 тысяч). Працы было шмат. Служба не дазваляла ўдзяляць гэтай справе шмат часу. Тым не менш я па сваёй наіўнасці лічыў, што ніхто акрамя мяне гэтага не зробіць, і працягваў пісаць слоўнік. Не памятаю ўжо добра, як тое сталася, але са мной звязалася незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» і прапанавала выдаць кароткі варыянт слоўніка. Мне належала зрабіць выбарку адной тысячы слоўных артыкулаў і перадаць у выдавецтва. Гэтую тысячу я падрыхтаваў даволі хутка і дадаў да яе раздзельчык «Каманды і камандныя словы».

Летам 1993 года гэты слоўнічак пабачыў свет. Гэта быў першы вайсковы слоўнік у новай Беларусі.

### «Наша слова»

— У канцы 1994 мяне выбралі старшынёй Лідскай арганізацыі БНФ «Адраджэнне». У мяне была ідэя стварыць газету. «Новую газету ў Лідзе рэгістраваць не даюць, а ў Мінску прападае «Наша слова», — думаў я.

У 1997 годзе Эрнест Ялугін абвясціў аб закрыцці «Нашага слова». На з'ездзе я прапанаваў: «Аддайце газету ў Ліду». Тады мяне не зразумелі і не паслухалі. Але пазней я звярнуўся да Генадзя Бураўкіна, які ўзначальваў ТБМ, і ён прыняў рашэнне перадаць газету ў Ліду.

Я звярнуўся да знаёмага бізнэсоўца. Ён аплаціў у друкарні друк трох нумароў газеты. Ён не спыніў падтрымку газеты пасля папярэджання, і 12 гадоў выдаткоўваў грошы кожны месяц негалосна. Гэта была значная падтрымка.

У нас зусім не было ніякай тэхнікі, толькі адна мая старэнькая машынка. Язэп Палубятка з Мастоў перадаў стары кампутар. Прайшоў некаторы розгалас пра газету.

Вярстала газету дзяўчына з друкарні. Мае сыны Максім і Арцём стаялі за спіной і асвойвалі справу. Потым яны пачалі ўпарта вучыць мяне. Усё перайшло ў мае рукі, з'явіўся больш моцны кампутар. Нам дапамаглі набыць сканер. Не было электроннай пошты, сувязь ішла па факсу. Газета стала выходзіць на 8 палос, потым з'явілася перспектыва выдання на 12 палос. Дапамагалі нам фінансава дзве фірмы. Потым увесь фінансавы бок перайшоў на Лідскую арганізацыю ТБМ. Улады зарэгістравалі газету ў вобласці. Потым была створана ўстанова інфармацыі «Выдавецкі дом ТБМ».



TV

## 1 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**14.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Мужчынскае / Жаночае».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Абдымаючы неба». Тэлесерыял.
**23.15** Вячэрні Ургант.
**23.55** Мастацкі фільм «Кузіна Бэці».
**01.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**09.05** «Вялікія таямніцы».
**10.00** «Афрамасквіч-2». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**13.55** Фільм «Паліцэйская акадэмія 7: місія ў Маскве» (ЗША, 1994 г.).
**15.30** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Вялікія таямніцы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**20.20** Фільм «Вось такія пірагі» (ЗША, 1998 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.20** «Водбліскі». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.15** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.50** Прыгодніцкі серыял «Вострай скарбаў» (СССР). 1-я серыя.
**12.20** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**13.05** Вышэй за дах.
**13.40** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.45** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія).
**15.45** Рэпарцёр.
**16.35** Хачу ў тэлевізар!.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**18.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.50** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). Заключныя серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** Кена.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Атлетыка (Іспанія) - Ювентус (Італія). Прамая трансляцыя.
**23.45** Тэлебарометр.
**23.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**00.55** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярныя відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Станцыйны даглядчык». Маст. фільм.
**09.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.40** «Генеральная рэпетыцыя». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца і педагога Сяргея Каткова.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.35** «Палацы Крамля». Дак. фільм.
**12.50** «Наперад у мінулае».
**13.20** «Семдзесят пятая восень Андрэя Мдзівані». Дак. фільм пра кампазітара, народнага артыста Беларусі Андрэя Мдзівані.
**13.50** «Азерная Адысея». Возера Чырвонае.
**14.15** «Спрадвечнае». Абрад «Масленка».
**14.30** «Міхаіл Савіцкі. Таямніцы біяграфіі». Дак. фільм пра жыццё і творчасць народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага.
**15.00** «Таямніца душы». Гродзенская семінарыя.
**15.35** «У рэху імені твайго...». Анастасія Слуцкая.
**15.45** «Навукаманія». Чарнобыль: праца над памылкамі.
**16.15** Серыял. «Атланты і карыятыды». 8-я серыя, заключная.
**17.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.30** «VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета». Лаўрэаты Міжнароднага конкурсу імя П.І.Чайкоўскага.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.30** «Дні Турбіных». Маст. фільм. 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Дні Турбіных». Маст. фільм. 2-я серыя.
**22.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.50** «Дні Турбіных». Маст. фільм. 3-я серыя.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца і педагога Сяргея Каткова.
**00.20** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Прамая трансляцыя.
**13.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Прамая трансляцыя.
**16.35** Козел пра футбол.
**16.55** Спорт-кадр.
**17.25** Гандбол. SEHA-ліга. Прамая трансляцыя.
**19.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Групавы этап. Зеніт (Расія) - Манака (Францыя). Прамая трансляцыя.
**21.00** Рэаліці-шоу «Mix Fight» - Новыя гарызонты «.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Групавы этап. Онлайн дня.
**23.40** Баскетбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Плэй-оф.

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Рэпартэр.
**07.55, 08.50, 12.35, 13.30, 14.25, 23.45, 00.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** Аб'ектыў.
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Ігар Лялькоў і Андрусь Старавойтаў.
**10.45** Без рэтушы: «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**11.00** «Ранча», серыял: 55 серыя.
**11.50** Беларусы ў Польшчы.
**12.05, 17.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.05** Рэпартэр.
**14.00** Аб'ектыў.
**15.45** Два на два (тэледыскусія): Ігар Лялькоў і Андрусь Старавойтаў.
**16.20** Без рэтушы: «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**16.35** «Днюка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**17.10** Беларусы ў Польшчы.
**17.55** Зоры не спяць: Ігар Бабкоў.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым.
**22.30** «Лонданцы II», серыял: 4 серыя.
**23.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**00.15** Асабісты капітал.
**00.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 2 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**14.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Вечар цяжкага дня.
**00.35** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Дзень спорту.
**01.20** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Мужчынскае / Жаночае».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Абдымаючы неба». Тэлесерыял.
**23.15** «Ежа, дарога, рок-н-рол».
**00.05** Мастацкі фільм «Смяротная паляванне».
**01.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**09.05** «Вялікія таямніцы».
**10.00** «Афрамасквіч-2». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**13.55** Фільм «Вось такія пірагі» (ЗША, 1998 г.).
**15.40** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Вялікія таямніцы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Сяляючыя гарады». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**20.20** Фільм «Жонка астранаўта» (ЗША, 1999 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Водбліскі». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Прыгодніцкі серыял «Вострай скарбаў» (СССР). 2-я серыя.
**12.15** Камедыйная меладрама «Целаахоўнік Тэс» (ЗША).
**14.00** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.05** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія). Заключныя серыі.
**16.15** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама (Мінск) - Фіярэнціна. Прамая трансляцыя.
**21.50** Кена.
**21.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Сэнт-Эцьен (Францыя) - Днепр (Украіна). Прамая трансляцыя.
**23.55** Тэлебарометр.
**00.00** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярныя відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15, 13.05, 19.05, 23.20** «Галасы з мінулага». 100 год з дня нараджэння вядомага савецкага дыктара радыё Юрыя Левітана.
**08.20** «Дні Турбіных». Маст. фільм. 1-3 серыі.
**11.50** «СССР - музыка пад забаронай». Леанід Уцёсаў.
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Уладзіміра Жбанава.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.10** «Душа, адлітая ў бронзе. Міхаіл Анікушын: жыццё і творчасць». Дак. фільм пра жыццё і творчасць скульптара, народнага мастака СССР.
**13.40** Канцэрт Джона Маклафліна і яго бэнда.
**15.10** «Наперад у мінулае».
**15.40** «Эпоха». Адам Міцкевіч.
**16.35** «Подых струн». Музычная праграма.
**17.15** «Адлюстраванні». Мадоны Максіма Багдановіча.
**17.35** «Скарбніца Віцебшчыны». Палац губернатара.
**18.00** «Вінт». Кароткаметражны фільм.
**18.25** «Полета вольное упорство...» Дакументальны фільм пра творчы шлях балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.10** «Фама Гардзееў». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Побач з вамі». Мастацкі фільм.
**22.20** «СССР - музыка пад забаронай». Леанід Уцёсаў.
**22.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Уладзіміра Жбанава.
**23.10** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Прамая трансляцыя.
**13.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Прамая трансляцыя.
**16.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Групавы этап. «Атлетыка» (Іспанія) - «Ювентус» (Італія).
**18.25** Авертайм.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Краснадар» (Расія) - «Эвертан» (Англія). Прамая трансляцыя.
**20.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Тотэнхэм» (Англія) - «Бешыкташ» (Турцыя). Прамая трансляцыя.
**00.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Дынама» (Мінск) - «Фіярэнціна» (Італія).

### Белсат

**07.00, 08.00, 08.55, 12.25, 13.30, 00.00, 01.05,** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Асабісты капітал.
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні: Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**08.30** Аб'ектыў.
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым.
**11.00** «Лонданцы II», серыял: 4 серыя.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Максім Багдановіч.
**11.55** «Днюка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.55** Асабісты капітал.
**13.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**16.30** «Ранча», серыял: 55 серыя.
**17.25** «Лонданцы II», серыял: 4 серыя.
**18.10** Без рэтушы: «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія): Ігар Лялькоў і Андрусь Старавойтаў.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Рэпартэр.
**22.10** Відзьмо-невідзьмо.
**22.40** «Гатэль "Рай"», дак. фільм, 2010 г., Балгарыя.
**23.35** Невядомая Беларусь: «Усё прыдумана Богам», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**00.30** Два на два (тэледыскусія): Ігар Лялькоў і Андрусь Старавойтаў.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (97)
(верасень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info


**Змест**



# Не разумею...


Алег АБЛАЖЭЙ,
ВІЛЬНЯ, БЛОГІ РАЦЫІ


**Кажуць — у кожнага свая праўда. І трэба намагацца яе зразумець. Вядома, трэба. Толькі вось не заўсёды гэта пад сілу звычайнаму чалавеку.**

**І часам трэба шчыра прызнацца сабе і людзям — не разумею...**



Вось пра такія рэчы і хацелася б пагаварыць. Шчыра, наколькі можна.

Напрыклад, быў у мяне ў Вільні знаёмы хлапец. Някепскі чалавек, ну, можа, трохі праставаты, дык сярод беларусаў гэта не рэдкасць. Але нічога благога за ім не заўважалася. Як гэта часта здараецца ў наш час, не зладзілася ў яго сямейнае жыццё. І вось з новай жонкай трапіў ён, як пісаў Багушэвіч, аж «у Мэрыку». І сталі яны там жыць-пажываць. Што ж, толькі парадавацца за чалавека! Ажно дайшлі чуткі, што стаў ён там... мусульманінам! І ўжо больш не Янка, а нейкі Юсуф ці Махмуд. Жонку загарнуў у чорны мяшок з прорэззю для вачэй, дзяцей паслаў у мусульманскую школу...

Не разумею...

Прыязджаў гэты ягамосць у Вільню. Казалі, увесь час хапаў малітоўны дыванок і бег у парк маліцца...

Які Настрадамус, Месінг ці Ванга маглі прадказаць, што галоўныя канфлікты XXI стагоддзя будуць на рэлігійнай глебе? Што наверх вылезуць шчупальцы самага што ні ёсць змрочнага сярэднявечча!

Цяпер вось ва Украіне ідзе вайна. Былі войны розныя: Стагадовая, Трыццацігадовая, дзве Сусветныя. Гэту трэба назваць Першая Найпадлейшая. Бо неабʼяўленая, без усялякіх правілаў і маралі. Калі ўсё прасякнута лгарствам, калі «ваякі» прыкрываюцца закладнікамі, жанчынамі і дзецьмі.

Мы добра памятаем гнюсную пазіцыю, якую займаў вядомы журналіст Аляксандар Няўзораў падчас віленскіх падзеяў 1991 года. Дзеянні ж «апалчэнцаў» яго так уразілі, што ўвесь свой немалы публіцыстычны талент цяпер ён скіраваў супроць іх, не шкадуючы самых вострых словаў.

І заўважце: ваююць міжсобку адзінаверцы, праваслаўныя хрысціяне!

А што іхныя душпастыры, слугі Хрыстовы? Можа, яны дзень і ноч змагаюцца з усіх сіл, каб спыніць бойню, ўратаваць сотні маладых жыццяў? Можа, абʼявілі, як у свой час Льву Талстому, анафему, прынамсі, забойцам пасажыраў няшчаснага «Боінга»? Можа, кідаюцца ўласнымі целамі разгарадзіць, раздзяліць братазабойцаў, праклянуць іхнія атручаныя мазгі? Не! Яны дзеляць пасады, заўзята спрачаюцца, пад якім «амафорам» ім будзе лепей: Маскоўскага патрыярхата ці Канстанцінопальскага... А мяркуючы па жыватах і шчоках, вайна не папсавала ім апетыт.

Не разумею...

Тым часам Еўропа заўзята ўгаворвае ўкраінскі ўрад сесці з бандытамі за стол перамоваў.

Ці можна сабе ўявіць, што падчас вайны з нацыстамі саюзнікі селі б з Гітлерам, Гімлерам, Гебельсам ды астатняй хеўрай за стол, паціскалі б ім рукі... І дамаўляліся б пра мір, прабачыўшы ўсё — Бухенвальд і Асвенцым, Дахаў і Хатынь!

Як сабе ўяўляюць «перамовы» паліткарэктныя еўрапейцы? З тымі, хто забіваў і забівае украінскіх грамадзян, катуе свае ахвяры ў сутарэннях? І што потым — гэтыя «апалчэнцы» зменяць камуфляж на цывільныя гарнітуры, засядуць ва ўтульныя кабінеты і будуць кіраваць сваімі карыкатурнымі «рэспублікамі»? А хто адкажа за злачынствы? Няўжо ўсе ахвяры, ад «нябеснай» да ўсіх іншых соцень, былі дарэмнымі?

Дамаўляцца з Пуціным, чалавекам, які на працягу ўсяго канфлікта не сказаў ні слова праўды? Яго месца не за сталом перамоваў, а на лаве падсудных, разам з ягонымі душагубамі гіркінымі і барадаямі.

Панове еўрапейцы, не вашы заклікі да міру патрэбны Украіне, а канкрэтная дапамога, каб хоць перакрыць расійскую мяжу, праз якую суцэльным патокам ідуць ужо не сотні, — тысячы ўзброеных і вышкаленых галаварэзаў з бронетэхнікай, «Градамі» і яшчэ чорт ведае чым...

Але нават на гэта «агрэсіўны блок НАТО» няздольны...

Не разумею...

Давайце лепш пагаворым пра мастацтва. Гадоў гэтак дваццаць таму ў Вільні адзін грамадзянін наводзіў жах на дзіцячыя садкі. Прабіраўся цішком на іх тэрыторыю і паказваў нянечкам і

**Еўропа заўзята ўгаворвае ўкраінскі ўрад сесці з бандытамі за стол перамоваў. Ці можна сабе ўявіць, што падчас вайны з нацыстамі саюзнікі селі б з Гітлерам, Гімлерам, Гебельсам ды астатняй хеўрай за стол, паціскалі б ім рукі... І дамаўляліся б пра мір**

дзецям свае палавыя органы. Не ведаю, злавілі яго ці не. Але што з яго ўзяць — хворы чалавек.

А вось у наш час ёсць ці не самая славутая мастачка, такая Марына Абрамовіч, якая робіць практычна тое самае, але не ў садках, а ў самых прэстыжных месцах дэманструе сваё не першай маладосці, «пакоцанае», як кажуць падлеткі, голае, як бізун, цела. І яе ніхто не лечыць, наадварот, яна мае ўсё: славу, грошы, пашану...

Не разумею...

Не разумею — чаму мастакамі завуцца тыя, у каго ўсё круціцца толькі вакол геніталій. Колькі ж іх расплодзілася, божухна! Нядаўна радыё «Свабода» прысвяціла цэлую гадзіну ягамосцю, што прыбіў сваю машонку цвіком да брукаванкі Краснай плошчы. Слухаць ягоныя трызненні было немагчыма — зразумела было толькі, што сябе і сваё «мастацтва» ён ставіць вышэй за ўсё.

Гэта іншых яны заклікаюць да «талерантнасці», самі ж, каб прымелі, агнём бы выпалілі ўсіх «няправільных» з іх пункту гледжання, традыцыйных майстроў. А пакуль што перакрываюць ім кісларод, як могуць. Назавіце хоць адно біенале ці трыенале, або часопіс, якія б падтрымлівалі класічнае мастацтва! Няма такіх...

Не разумею...

Кожны чалавек — асобны мікракосм, краіна, межы якой хтось пастаянна спрабуе парушыць, залезці ў душу, перарабіць на свой лад.

Змусіць жыць не сваім жыццём.

Памятаю, як у войску на мяне населі, каб я ўступіў у партыю. Вядома ў якую — КПСС, тады іншых не было. З вялікай цяжкасцю ўдалося адкараскацца. КПСС... Гэтыя чатыры літары праследавалі нас усюды — з газетаў, лозунгаў, плакатаў. Ды, на шчасце, адышлі ў мінулае.

На змену прыйшла іншая чацвёрка літар — ЛГБТ! Дня не праходзіць, каб газеты, радыё ці тэлеперадачы або інтэрнэт-сайты не інфармавалі цябе аб праблемах гэтай слаўнай меншасці. І нідзе не схаваешся ад іх, няма такога пяску, у які можна было б, як страўсу, схаваць сваю бедную галаву. І ты міжволі мусіш выпрацаваць нейкія свае адносіны да іх.

Мае — вельмі простыя. Я не «фоб», не «філ», я — «фіг». Мне глыбока «пофіг» усе іхнія клопаты. Я людзей цаню за тое, што яны ўмеюць рабіць, а не за тое, з кім і як яны займаюцца сэксам. Ці ж фільм Дзэфірэлі «Рамэо і Джульета» горшы або лепшы ад таго, што ягоны рэжысёр «блакітны»? Я захапляюся тым, што Дольчэ і Габана паказваюць на подыумах, а не тым, чым яны займаюцца міжсобку. Але здымаць капялюш перад асобнікам толькі за тое, што ён аматар анальнага сэксу і крычыць пра гэта на ўвесь свет — прабачце...

Неяк у Варшаве была дэманстрацыя феміністак, дзе яны з гонарам неслі плакаты «Mam cipkę!» (Хто не ведае польскай мовы, хай сам здагадаецца, дзе ў жанчын тая «ціпка»!)

Як жа мне карціць выйсці на контрдэманстрацыю з плакатам «Маю мазгі!»...

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (97) | 26 верасня 2014 | № 36 (405) Новы Час




# Вынікі літконкурса «Эксլібрыс»

**Ад лютага 2014 года доўжыўся прыём працаў на літаратурны конкурс Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава, прысвечаны нон-фікшн — нявыдуманай літаратуры, заснаванай на фактах.**

Ужніўні пачало працу міжнароднае журы, у якое ўвайшлі знаныя аўтары, публіцысты, крытыкі, навукоўцы: Святлана Алексіевіч, Сяргей Дубавец, Алесь Пашкевіч, Аляксандр Фядута, Ірына Шаўлякова, Вольга Шпарага (Беларусь), Інга-Ліна Ліндквіст (Швецыя). Сябры журы атрымалі творчыя работы канкурсантаў пад нумарамі і да абвяшчэння вынікаў не ведалі, якіх аўтараў ім давялося ацэньваць. Адзнакі выстаўляліся ў два этапы.

Аргкамітэт прэміі мае гонар абвясціць пяць пераможцаў (у алфавітным парадку):

Крысціна Бандурына
Антон Рудак
Ганна Севярынец
Хведар Сумкін
Аляксей Шэін

Пераможцаў уганаруюць на ўрачыстай цырымоніі, дата якой будзе абвешчана дадаткова. Усе яны атрымаюць рыдэры «MultiReader Supreme 5664» ад кампаніі «Prestigio» і падарункі ад грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!», якія выступілі партнёрам конкурса. Найлепшыя конкурсныя творы будуць змешчаныя ў электронных бібліятэках ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by. Аднаго з удзельнікаў чакае спецыяльны прыз ад газеты «Наша Ніва». Асобныя тэксты будуць апублікаваны ў «новачасаўскай» «Літаратурнай Беларусі», «Нашай Ніве» і «Дзеяслове».

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**


Фота Уладаса Бразюнаса

Алег Аблажэй, Алесь Разанаў і Алма Лапінскене падчас пленэра

# Перакладчыцкі пленэр у Друскінінкаі

**На пачатку верасня ў Друскінінкаі (Летува) адбыўся сумесны перакладчыцкі пленэр Саюза пісьменнікаў Летувы, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза мастацкіх перакладчыкаў Летувы.**

Мерапрыемства адбылося пры фінансавай падтрымцы Цэнтра міжнародных культурных праграм і Летувіскага Савета культуры. Арганізатарам выступіў Саюз перакладчыкаў Летувы.

У пленэры з боку гаспадароў узялі ўдзел Уладас Бразюнас, Марус Бурокас, Вітас Дэкшніс, Алма Лапінскене, Данатас Пятрошус, Томас Пятруліс, з беларускага боку — Алег Аблажэй, Паўліна Вітушчанка, Сюзанна Паўкштэла, Алесь Разанаў, Раман Урбановіч, Андрэй Хадановіч. Каардынавала сустрэчу Казімера Астратовене.

Падчас сустрэчы перакладчыкі заслухалі паведамленні пра сучасную летувіскую і беларускую літаратуру, азнаёміліся з апошнімі кніжнымі навінкамі, а таксама плённа папрацавалі над перакладамі.

Вынікі працы былі падагульненыя на сустрэчы з прадстаўнікамі Саюзаў пісьменнікаў і мастацкіх перакладчыкаў, якая адбылася ў Вільні. Падчас гэтай сустрэчы перакладчыкі прэзентавалі сябе і зачыталі ўрыўкі з перакладзеных тэкстаў.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Факсімільнае выданне Тураўскага Евангелля

**У Мінску прадставілі ўнікальны праект: пабачыла свет факсімільнае ўзнаўленне Тураўскага Евангелля, кнігі, якая лічыцца самай старажытнай на тэрыторыі Беларусі і адной з найдаўнейшых ва Усходняй Еўропе.**

Выпуск Тураўскага Евангелля стаўся магчымым у межах супрацоўніцтва кампаніі «Xerox» і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Арыгінал, датаваны сярэдзінай XI стагоддзя, захоўваецца ў Вільні ў Бібліятэцы Урублеўскіх Летувіскай акадэміі навук. Дзякуючы выкарыстанню найноўшых тэхналогій, цяпер копія пісьмовага помніка даступная і беларускай публіцы.

Факсімільнае выданне ўтрымлівае не толькі копіі ўласна дзесяці аркушаў Тураўскага Евангелля, але таксама і факсіміле віленскага выдання 1869 года. Старажытны тэкст суправаджаецца нарысам доктара гістарычных навук, прафесара Пятра Лысенкі і кнігазнаўчым даследаваннем культуролага, намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алеся Сушы.

— Гэта ўжо другі праект, рэалізаваны ў межах нашага супрацоўніцтва, — расказаў Аляксандр Швец, кіраўнік прадстаўніцтва кампаніі «Xerox» і Апякунскага савета бібліятэкі. — Першым стала перавыданне віленскага «Лемантара» 1767 года. Галоўнымі мэтамі Савета з'яўляюцца, па-першае, садзеянне набыццю артэфактаў для перадачы ў Нацыянальную бібліятэку, а па-другое, факсімільнае ўзнаўленне помнікаў, найбольш важных для культурнай ідэнтычнасці Беларусі.

Як адзначыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, захаванне кніжнай, дакументальнай і духоўнай спадчыны, безумоўна, няпростая задача, калі ўлічыць, што многія артэфакты знаходзяцца па-за межамі Беларусі і выкупіць іх не ўяўляецца магчымым па шэрагу юрыдычных і тэхнічных прычынаў. Таму факсіміле — найбольш удалы спосаб вяртання каштоўных пісьмовых помнікаў.

Асобнікі Тураўскага Евангелля ў Дзень ведаў передаваліся ўстановам навукі, адукацыі і культуры.

**Віка Трэнас**

# 60-годдзе творчай дзейнасці прафесара Адама Мальдзіса

**Адам Восіпавіч Мальдзіс усё жыццё прысвяціў даследаванню беларускай культуры, літаратурнай крытыцы, публіцыстыцы.**

Вясковы хлопец пачынаў свой шлях з публікацыі вершаў і невялікіх допісаў у розных перыядычных выданнях. Стала ж ён увайшоў у літаратуру ўжо будучы студэнтам факультэта журналістыкі БДУ, калі газета «Літаратура і мастацтва» апублікавала рэцэнзію на раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». Было гэта 4 верасня 1954 года — такім чынам, сёлета ён, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Адам Восіпавіч Мальдзіс, адзначае 60-годдзе пачатку літаратурнай дзейнасці.



Як слушна напісала «Астравецкая праўда», ён прысвячаў свой час рэдагаванню чужых напрацовак, і зусім мала часу заставалася ў яго на пісьменніцкую дзейнасць. Таму сярод напісанага ім можна знайсці толькі адзін «шырокафарматны» мастацкі твор — гістарычную аповесць з лірычнай назвай «Восень сярод вясны».

Усіх жа публікацый у прафесара Мальдзіса — каля 900, у тым ліку кнігі «Творчае пабрацімства»(1966), «Падарожжа ў XIX стагоддзе» (1969), «Традыцыі польскай асветы ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1972), «Таямніцы старажытных сховішчаў» (1974), «Шляхі вялі праз Беларусь» (1980, у суаўт. з В. П. Грыцкевічам), «На скрыжаванні славянскіх традыцый», «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя», «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча».

Часта яго працу называюць тытанічнай. Яму ўдалося зрабіць многае для адраджэння нацыянальнай культуры, вярнуць з небыцця сотні гістарычных старонак.

Здароўя ды творчага імпэту яму — і на новыя дзесяцігоддзі!

# Урокі-крокі для маленькіх!

**З нагоды новага навучальнага года «Цэнтр славянскіх моў і культур» запрашае маленькіх беларусаў далучыцца да вясёлага вывучэння беларускай мовы!**

Мы будзем знаёміцца з культурай і гісторыяй Беларусі, развучваць танцы, песні і вершы, ладзіць гульні. Да кожнага ўроку-кроку падрыхтавана сучасная жыццёвая гісторыя з дзядулем Баем і здзіўчынкай Міраслаўкай, выкладзеная ў форме дыялогу. Пытанні і заданні да тэксту, а таксама міні-слоўнічак дапамогуць дзецям паспяхова засвойваць лексіку і граматыку беларускай мовы.

У дадатак вучняў чакаюць крыжаванкі, загадкі, займальныя тэсты. Мы імкнёмся навучыць дзяцей не пісаць, а размаўляць па-беларуску, бо ці магчыма першае без другога? Дзве гадзіны заняткаў — у добрай кампаніі, з маладымі і вынаходлівымі настаўнікамі — будуць часам карысных і пазітыўных стасункаў.

Запрашаем на «Урокі-крокі» вучняў 6-12 гадоў. Заняткі ў групах (8 — 10 чалавек) будуць праходзіць раз альбо два на тыдзень. «Цэнтр славянскіх моў і культур» знаходзіцца недалёка ад станцыі метро «Маскоўская»: Мінск, вул. Валгаградская, 2а, офіс 8.

Тэлефон для запісу: 8-033-671-12-78.

Наша старонка ў Інтэрнэце: http://dyjalog.by/study-online/belorusskaya/

Бацькам маленькіх беларусаў прапануем курсы яшчэ сямі славянскіх моў, між якімі ўкраінская, польская, чэшская, балгарская. Гарантуем высокую якасць і прыемныя кошты!

## КАСТРЫЧНІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Санаценка Анатоль Казіміравіч (нар. 02.10.1969)
Баравы Фёдар Іванавіч (нар. 02.10.1949)
Халіп Уладзімір Трафімавіч (нар. 07.10.1939)
Кустава Валерыя (Валярына) Уладзіміраўна (нар. 09.10.1984)
Варабей Ірына Аляксандраўна (нар. 15.10.1959)
Чубат Аляксей Леанідавіч (нар. 15.10.1979)
Осіпава Валянціна Дзмітрыеўна (нар. 22.10.1959)
Адамовіч Яўген Кузьміч (нар. 25.10.1934)
Ляхновіч Павел Аркадзьевіч (нар. 25.10.1954)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# Пошукі і роздум Івана Лепешава

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**23 кастрычніка спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння знакамітага вучонага-мовазнаўцы, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Івана Якаўлевіча Лепешава. Ён не толькі даследуе мовазнаўчыя праблемы, але і актыўна супрацоўнічае з выданнямі, каб выказаць сваё разуменне таго, што адбываецца ў Беларусі і свеце.**



Іван Якаўлевіч Лепешаў нарадзіўся ў вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Доктар філалагічных навук, прафесар. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, мае раненні, узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Кёнігсберга» і інш.

У 1948 годзе скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут, затым працаваў выкладчыкам беларускай мовы ў Свіслацкай СШ Гродзенскай вобласці.

Быў беспадстаўна рэпрэсаваны, а пасля рэабілітаваны (1963) за адсутнасцю віны, працаваў align рознарабочым у лагерах Прыморскага краю (1949–1955).

З 1956-га — настаўнік беларускай і рускай моў і літаратур у школах Шчучынскага раёна. Завочна скончыў (на выдатна) філфак Гродзенскага педагагічнага інстытута (1959) і аспірантуру ў Мінскім педінстытуце (1971). Узнагароджаны знакам «Выдатнік народнай асветы».

Знакаміты навукоўца мае глыбока патрыятычную грамадзянскую пазіцыю, дасканала ведае айчынную літаратуру, у якой не перастае шукаць і знаходзіць новае для сябе, з'яўляецца сталым чытачом многіх беларускіх перыядычных выданняў. Ягоны роздум пра мінулае, пра сённяшні стан грамадства, роднай літаратуры адлюстроўвае глыбокую занепакоенасць будучыняй нашай краіны.

Ужо традыцыйна напрыканцы года Іван Якаўлевіч рыхтуе да выдання новую кнігу, якую складаюць надрукаваныя на працягу года артыкулы. Кніга, якая падвяла рысу пад зробленым за 2013 год, мае назву «Пошукі і роздум» (Гродна: «Юрсапрынт», 2014. — 152 с.).

Розныя па стылю, па жанрах працы шаноўнага навукоўцы. Адкрывае кнігу артыкул «Славуты лексікограф і фалькларыст», прысвечаны І. І. Насовічу. Перад намі паўстае постаць не толькі вялікага вучонага, збіральніка духоўных скарбаў беларускага народа, але і педагога-асветніка, светапогляд якога фармаваўся ў вельмі неспрыяльнай для беларушчыны грамадскай атмасферы. Аўтар аб'ектыўна ацэньвае стаўленне вучонага да нацыянальнай палітыкі імперскай Расіі, вернападданым грамадзянінам якое той быў. І. Я. Лепешаў падкрэслівае: «Аддаючы належнае І. І. Насовічу за яго патрыятычны, навуковы подзвіг (стварэнне «Слоўніка...» і іншых прац), не лішнім будзе ведаць і тое, што па сваіх светапоглядных і палітычных перакананнях Насовіч — цвёрда ўпэўнены, «глыбока перакананы, заўзяты вернападданы расійскага цара і айчыны», «цалкам пазбаўлены беларускай нацыянальнай самасвядомасці», «тыповы прадстаўнік заходнерусізму». Гэтак слушна яго ахарактарызаваў Ніл Гілевіч, прачытаўшы «Успаміны майго жыцця» і напісаўшы да іх прадмову».

«Адзначаючы сёння (7.10.2013 г.) 225-годдзе з дня нараджэння Івана Іванавіча Насовіча, будзем і далей помніць пра ягоны навуковы подзвіг у гісторыі нашага народа і яго духоўнай культуры, будзем таксама ведаць, што многія яго палітычныя погляды наўрад ці прымальныя для абсалютнай большасці цяперашніх беларусаў. Што было, тое было. З песні слова не выкінеш», — чытаем у заключэнні.

Нельга абысці ўвагай артыкул «На мой «Добры дзень!» кажуць мне «Здрасце»...», у якім узнята заўсёды балючая для вучонага-патрыёта тэма роднае мовы. Аўтар назваў напісанае журботнымі нататкамі, бо якую ж глыбокую журбу выклікае ў ягоным сэрцы стаўленне да беларускае мовы! Тут і настальгічныя згадкі з маленства, калі такім родным, шчырым і зразумелым пажаданнем веяла ад вітання ў бацькоўскай хаце: «Добры дзень у хату!» І параўнанне з сучаснасцю, што вынесена ў назву. І роздум: чаму так? Чаму беларусы цураюцца свайго, нягоршага, ды яшчэ «прыпраўляюць» гэту адмову тэрміналогіяй, ад якое тхне найгоршай ідэалагічнай хлуснёй. «Дык ці варта беларусам адмаўляцца ад свайго, спрадвечнага, еўрапейскага «добры дзень», лічыць які ледзь не нацдэмаўскім або «бэнэфаўскім» ды пераймаць чужое, царкоўнаславянскае?» З болем пытае пра гэта аўтар чытача, які цалкам пагаджаецца з ім. Бо чытачы выданняў, у якіх друкуюць такія артыкулы, звычайна аднадумцы аўтара.

І. Я. Лепешаў добра разумее прычыны занядбання роднае мовы, піша пра тыя антыбеларускія сілы, што займаюць кіруючыя пасады. А беларус, так ужо павялося, не адно стагоддзе мусіць падрабляцца пад тых, хто мае ўладу. Аўтар не хавае свайго стаўлення да сучасных ворагаў беларушчыны, характарызуе іх учынкі едкім, злым словам. Бо хіба ж яны таго не варты? Нехта ж мусіць казаць праўду, нягледзячы на «клясы і рангі»: «Пераход жа большасці беларусаў на рускую мову (асабліва ў апошнія дваццаць гадоў) — гэта сітуацыйна абумоўлены пераход на мову дзяржаўнай адміністрацыі, якая з невырагодна дзікай пагардай ставіцца да «мовы», адмаўляе нашу нацыянальную гісторыю і культуру, здзекліва высмейвае тых, хто ўжыў у размове беларускае слова».

Надзвычай актуальна ўспрымаецца сёння артыкул «Настальгія па імперыі», пачатак якога — экскурс у далёкую гісторыю, дзе бяруць вытокі асновы менталітэту расейскага люду: «Народ в течение многих веков воспитывался на имперской пропаганде блистательных побед и высокомерной воинственности» [с. 28]. Здавалася б, дзіўным чынам І. Я. Лепешаў прадказаў тое, што адбываецца сёння ва Украіне. Але гэта зусім не дзіўна для тых, хто ведае, з якою трывогай і заклапочанасцю сочыць ён за ўсім, што адбываецца ў свеце, як перажывае праявы расійскага вялікадзяржаўнага шавінізму, якія прапагандуюць і такія «навукоўцы», як Ю. Жукаў, супраць зусім не навуковых высноваў якога заўсёды выступае. Ды як не пратэставаць беларусу-патрыёту, калі той нахабным чынам навязвае канцэпцыю: «Адна краіна — адна нацыя — адна мова», тым самым не пакідаючы месца для існавання і нам, беларусам. І такія дзеячы «культуры», як спявачка Ж. Бічэўская, што не без поспеху гастралюе па ўсіх абшарах былога СССР, прапагандуючы страшныя ідэі, якія на ўра прымаюцца слухачамі... Такія «перлы-прадказанні» ў выкананні небезгалосай вялікадзяржаўніцы Бічэўскай хіба не спрыялі сённяшняй трагедыі блізкага нам народа?

*Возвратит Россия Русский Севастополь,*
*Станет снова Русским полуостров Крым,*
*Наш Босфор державный, наш Константинополь*
*И святыня мира Иерусалим.*

Як яшчэ на амерыканскі Брайтан-біч не прэтэндуюць: там таксама «адна мова» і «адна нацыя»...

Артыкул «Жыве Беларусь!» таксама актуальны сёння, калі на ўладным узроўні сцвярджаецца, што няма беларускай ідэі, якая б аб'яднала нацыю, а шаноўная журналістка «Народнай волі» пярэчыць: ёсць, прыводзячы гэты славуты выклічнікавы фразеалагізм, так дарагі кожнаму, каму неабыякавы лёс краіны. Праўда, яна не гаворыць пра аўтарства гэтага вобраза-клічу, пра што, на жаль, ведаюць зусім нямногія. Ворагі беларушчыны нахабна ілгуць, сцвярджаючы, што паўстаў ён у часы нямецкай акупацыі. І. Я. Лепешаў ставіць кропку на гэтай ілжывай непісьменнай дыскусіі: «Ответ же на вопрос, откуда взялся этот национальный клич и сегодняшнее крылатое выражение, может быть только единственный: он из стихотворения Янки Купалы «Гэта крык, што жыве Беларусь», написанного в 1905–1907 гг. и впервые напечатанного в его книге «Жалейка» (1908)».

З якой глыбокай пашанай і гонарам піша І. Я. Лепешаў пра гэты кокліч, што вырваўся з глыбіні душы беларускай і ўвасобіўся ў творы Вялікага Песняра! Дазволім сабе своеасаблівую «нарэзку» з тэксту: «Это возглас веры, надежды, чаяния, желания, чтобы наша Родина стала действительно свободной, независимой, демократической... Он произносится с логическим ударением на первом компоненте, иногда сопровождается определенным жестом — поднятием правой ладони... Одновременно это выражение — и девиз, и лозунг... Думается, что выражение «Жыве Беларусь!» вошло в плоть и кровь преобладающего большинства наших людей и его уже никак нельзя вытравить. Нельзя его и нейтрализовать, ослабить его воздействие на людей...». Навукоўца не толькі сцвярджае, ён прыводзіць шматлікія пераканаўчыя доказы, прыклады з мастацкіх твораў, з публіцыстычных артыкулаў, з уласных назіранняў. Іх багата, бо чытач І. Я. Лепешаў з тых, хто не прапускае ні аднаго нумару нашых перыёдыкаў, ні аднаго новага вартага твора...

Бескампрамісным змагаром за праўдзівую навуковую вартасць нашых даследаванняў паўстае аўтар у артыкуле «Кампіляцыя, плагіят...». Так, назва гаворыць сама за сябе, так, тэкст камусьці можа падацца занадта жорсткім. Але раскрытыкаваныя выданні насамрэч таго варты, бо гэта і ёсць «прадукцыя сумнеўнай вартасці», а зусім не навуковыя выданні. Прафесару-фразеолагу, які не толькі «зубы з'еў», працуючы ў гэтай галіне мовазнаўства, але і ўсю душу ўкладвае ва ўлюбёную працу, вельмі абыходзіць аматарская несумленнасць складальнікаў перакладнога слоўніка. Выказваючы боль і заклапочанасць, цытуе свайго расійскага калегу прафесара А. У. Жукава, які пісаў: «Сапраўдныя лексікографы (а не самазванцы-чаляднікі, нячыстыя на руку!) добра ведаюць, якой працы, крыві і поту патрабуе пошук нават адной ілюстрацыйнай цытаты...». Далей прыводзяцца прыклады непрыхаванага плагіяту са «Слоўніка фразеалагізмаў» у часопісным артыкуле маладой аўтаркі, «перадача» аўтарства яшчэ аднаго ягонага слоўніка іншаму навукоўцу.

З шматлікіх мовазнаўчых артыкулаў вылучым «Фразеалагізмы з кампанентамі-некратызмамі». Скрупулёзны даследчык вырашыў праверыць, ці праўда, што ў рускай фразеалогіі такіх больш за 1000. Па ягоных падліках (аналіз зроблены на аснове «Фразеалагічнага слоўніка рускай мовы»), атрымалася больш за 200. Вось ужо гэтая расійская прага ўзвелічэння! Але размова не пра гэта. У беларускай мове такіх фразеалагізмаў аказалася больш за 320. І гэта ж толькі дзякуючы фразеалагізмам захаваўся цэлы пласт адметных, вельмі цікавых словаў: авохці, дыхт, фора, хны, байды, тылыцы, драпака, рэй, пішчом... Дык падзякуем за гэта фразеалагізмам! І іх даследчыкам таксама. І няхай яны (некратызмы) «намёртва» прывязаныя да фразеалагізма, усё ж кожны так многа гаворыць тым, хто хоча пачуць.

У артыкуле «Выразы з маўлення зняволеных» даследчык раскрывае паходжанне гэтых арыгінальных моўных з'яваў, прыводзячы, як заўсёды, прыклады з мастацкай літаратуры. Тут найперш выкарыстоўваюцца творы А. Салжаніцына, якога І. Я. Лепешаў глыбока шануе як вялікага пісьменніка і, як мала хто нават з літаратараў, дасканала ведае. Бо не проста прачытаў калісьці, а перачытвае неаднаразова.

Той пласт лексікі зняволеных часоў Салжаніцына ўспрымаўся з вялікай доляй спачування, бо ўтвараўся ён людзьмі не без гумару, што дазваляла выжыць у нялюдскай сістэме ГУЛАГу. Так, беларускі эмігранцкі пісьменнік Аўген Калубовіч у сваім мастацка-дакументальным творы «На крыжовай дарозе», даследуючы ў адным з раздзелаў лексіку зняволеных, якраз і піша пра прысутнасць у ёй гумару. Сёння ж адбываецца недарэчнае, непрыстойнае «аблатненне» лексікі, што сыходзіць з самага высокага ўладнага ўзроўню, калі кіраўнік суседняй дзяржавы, адкуль ідзе да нас гэты лексічны пласт, дазваляе сабе выказванні тыпу 'мачыць у сарціры'...

У артыкуле «Драматычны, драматургічны» сабраны багаты фактычны матэрыял, каб паказаць, што ў выкарыстанні гэтых прыметнікаў існуе разнабой, што аўтары часцей не задумваюцца пра іх сэнсавую характарыстыку. Даследчык прапануе выкарыстоўваць дэталёвыя апісанні, зробленыя ў нядаўна выдадзеным «Вялікім акадэмічным слоўніку рускай мовы», дзе разгледжаны ўсе значэнні і аднаго, і другога прыметніка, бо «яны характэрныя і для беларускай літаратурнай мовы». Чаму аўтары вымушаны звяртацца да рускага выдання? З тае простае прычыны, што яно «дае магчымасць яго выкарыстальнікам знайсці пры неабходнасці адказ на ўзніклае пытанне пра ўжыванне таго ці іншага прыметніка ў пэўнай маўленчай сітуацыі. А ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы адназначнага адказу не знойдзеш». Зусім не таму, што наш слоўнік горшы, а таму, што ён выдадзены ўсяго ў пяці тамах, а мусіць нарэшце выйсці «ў дванаццаці (як і ў іншых мовах)», на што выказвае надзею І. Я. Лепешаў.

І гэта надзея, і ўсе іншыя мары-спадзяванні нашага шаноўнага Настаўніка Івана Якаўлевіча Лепешава хай жа спраўджваюцца!

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (97) | 26 верасня 2014 | № 36 (405) Новы час

# Уладзімір Вайновіч: «Пуціна можа спыніць толькі страх»

**Знакаміты аўтар «Чонкіна» нядаўна распавёў «Forbes» пра сутнасць вайны на Данбасе, пра прычыны распаду СССР і магчымы распад як Украіны, так і Расіі.**

**Уладзімір Вайновіч (26 верасня яму споўнілася 82 гады) — адна са знакавых фігур кагорты савецкіх пісьменнікаў-дысідэнтаў. З канца 1960-х яго кнігі распаўсюджваліся ў самвыдаце і друкаваліся за мяжой, у 1970-я У. Вайновіча перасталі публікаваць на радзіме і пачалі перасled. У 1980-м ён быў высланы з СССР і пазбаўлены савецкага грамадзянства, але эміграцыя была адносна нядоўгай: вярнуўся на радзіму ў 1990-м, яшчэ да распаду СССР.**

**«ЛБ» падае пераклад гутаркі з пісьменнікам.**

Вайновіч часты госць ва Украіне, шмат у чым роднай для яго краіне — яго юнацтва прайшло ў Запарожжы і Керчы. На гэты раз пісьменнік прыехаў у Кіеў на прэзентацыю ўкраінскага перакладу сваёй знакамітай кнігі, рамана-анекдота «Жыццё і незвычайныя прыгоды салдата Івана Чонкіна», а таксама ў якасці ганаровага госця Кіеўскага кніжнага кірмаша.

***— Вы ва Украіне ўжо не першы раз. Цяпер, мабыць, прыехалі з асаблівымі пачуццямі?***

— Вядома. Я літаральна жыву ўкраінскімі падзеямі, уважліва сачу за тым, што адбываецца, гляджу і расійскае тэлебачанне, і ўкраінскае...

***— Многія расійцы лічаць, што на ўкраінскім ТБ вядзецца такая ж прапаганда, як на расійскім.***

— Так, мне таксама кажуць, маўляў, усё роўна хлусяць, але я адказваю, што неаднолькава. Напрыклад, на праграме ў Савіка Шустэра заўсёды сутыкненне думак, а на расійскім ТБ яго няма, па ўкраінскім пытанні там суцэльнае аднадумства. Прычым па розных перадачах ходзяць адны і тыя ж людзі: Праханаў, Жырыноўскі, Жалязняк, ну і ўсе астатнія, больш дробныя. Яны становяцца адзін перад адным і хлусяць адзін аднаму ў вочы.

***— Для многіх савецкіх людзей распад Саюза стаў невылечнай траўмай. Чым ён быў для вас?***

— Я быў антысаветчыкам, і для мяне ніякай трагедыі не адбылося. Калі адбываліся нейкія глыбокія дэмакратычныя перамены і ўсе рэспублікі пагадзіліся б застацца ў складзе Саюза, я быў бы не супраць. Але распад быў непазбежны, і хоць у нас кажуць, што ва ўсім вінаваты Гарбачоў, Ельцын або Гайдар, усё гэта няпраўда. Вінаватыя ўсе кіраўнікі, пачынаючы ад Сталіна, а паскорыў крах рэжыму Брэжнеў: стагнацыя і гонка ўзбраенняў дарма не прайшлі. Гарбачоў менавіта спрабаваў ратаваць СССР, але ратаваць ужо не было чаго.

***— Цяпер гавораць пра далейшы непазбежны распад Расіі. У вас ёсць падобнае адчуванне?***

— Так, я некалькі разоў пра гэта казаў і пісаў. Калі Расія яшчэ глыбей умяшаецца ў данбаскі канфлікт, калі будзе сапраўдная вайна, — а яна ўжо сапраўдная і ёсць, — то ні Украіна, ні Расія не вытрымаюць, распадуцца абедзьве дзяржавы.

***— Ці не ўзнікае ў вас думкі, што трэба зноў з'язджаць?***

— У мяне такога адчування няма, і ў 1980-м я выязджаў з добрае волі. Ды і куды мне цяпер? Гадоў дзесяць таму адна мая знаёмая бабуля — яна была тады ў маім цяперашнім узросце — вельмі хацела з'ехаць у Ізраіль. Я ёй кажу: а навошта? Яна ў адказ: баюся фашызму. Я ёй ветліва так: не хвалюйцеся, вы да яго не дажывяце. Хоць я вось цяпер маю шанец дажыць. Можна нават сказаць, ужо дажыў.

**Пуцін наогул разумны чалавек, але не мудры. Ён абапіраецца на найбольш бязмозглую частку насельніцтва. Кажуць, хоча ўвайсці ў гісторыю, але цяпер ён ужо туды не ўвойдзе ні з чым добрым**

***— Вы казалі, што «хоць СССР распаўся, савецкі чалавек будзе жыць доўга». Можа, усё значна горш? Можа, гэта не савецкі чалавек, а наогул расійскі?***

— Я думаю, што савецкі чалавек рознанацыянальны, і сярод украінцаў таксама ёсць нямала савецкіх людзей. Я крыху адыду ад пытання і вось што скажу: цяпер адбываецца запозненая грамадзянская вайна. Тое, што Савецкі Саюз распаўся мірна, было дзіўна і нават ненатуральна: такая імперыя — і развалілася без асаблівых узрушэнняў.

Тое, што адбываецца цяпер на Данбасе, — гэта савецка-камуністычны рэванш. Тыя, хто хоча Наваросіі, па сутнасці хоча савецкую ўладу, іх падтрымліваюць усе, хто сумуе па СССР. А Украіна спрабуе адысці ад савецкага светапогляду. І тое, што помнікі Леніну скідваюць, гэта вельмі правільна. Кажуць, вандалізм, а я думаю, што вандалізмам было ўсюды гэтых балванаў панастаўляць.

***— У вас ёсць тлумачэнне таму, што сотні мільёнаў людзей у Расіі змаглі стаць ахвярай цяперашняй настолькі грубай прапаганды?***

— Гэта дзіўны феномен. Дарэчы, да савецкай прапаганды савецкія людзі ставіліся вельмі крытычна, колькі Амерыку ні лаялі, а моладзь марыла пра джынсы і кока-колу. Цяпер нянавісць да Амерыкі павальная. Я думаю, пасля таго, як разваліўся Савецкі Саюз, тэлебачанне пэўны час казала праўду, і людзі прывыклі яму верыць. Магчыма, спрацавала інерцыйная даверлівасць...

***— Уладзімір Мікалаевіч, а вы Пуціна бачылі?***

— Ён мне ўручаў дзяржаўную прэмію, гэта былі першыя дні яго кіравання. Мой сябар, вядомы крытык Бенедыкт Сарноў, казаў: вось, Ельцын — малайчына, правільны выбар зрабіў, і збіраўся галасаваць за Пуціна. Я яму сказаў: ні ў якім разе гэтага не рабі, толькі праз мой труп.

Пуцін наогул разумны чалавек, але не мудры. Ён абапіраецца на найбольш бязмозглую частку насельніцтва. Кажуць, хоча ўвайсці ў гісторыю, але цяпер ён ужо туды не ўвойдзе ні з чым добрым. Да гэтага часу яму надзвіва шанцавала, яму ўсё ўдавалася. Калі ён прыйшоў да ўлады, цана барэля нафты была $ 7, а стала $ 150, паліліся нафтадаляры, можна было і красці, і трошкі народу пакідаць, і Алімпіяду правялі, і Крым узялі без супраціву. А вось Данбас — гэта ўжо пастка.

***— Можа быць у цяперашняй вайны на ўсходзе Украіны герой, падобны на Чонкіна?***

— Я слухаў расійскіх дэсантнікаў, якіх украінцы ўзялі ў палон, гэта сапраўдныя Чонкіны. Іх пагналі — яны пайшлі...

***— Ці спадабаліся вам экранізацыі «Чонкіна» Іржы Менцэля і Аляксея Кірушчанкі?***

— Ведаеце, аўтар ніколі не бывае цалкам задаволены. Іржы Менцэль выдатны рэжысёр, але ён крыху спрасціў і вобраз, і ўсю гісторыю. А ў серыяле Кірушчанкі шмат адсябеціны.

***— У адным з папярэдніх інтэрв'ю вы казалі аб сваім непрыманні Сцяпана Бандэры. У многіх украінцаў цяпер стаўленне да яго змянілася да лепшага. Змянілася яно ў вас?***

— У мяне засталіся сумневы: усё ж Бандэра супрацоўнічаў з фашыстамі. Акрамя таго, я недастаткова знаёмы з яго біяграфіяй. Вось ёсць, напрыклад, такая супярэчлівая фігура, як генерал Уласаў. Вядома, можна было ненавідзець сталінскі рэжым, але ісці на службу да гітлераўцаў? Ну і праявы жорсткасці ў любой, нават справядлівай барацьбе, я ўхваліць не магу.

***— Цяпер здаецца, што сітуацыя, якая склалася, прадвяшчае змрочныя перспектывы для Украіны, Расіі і свету ў цэлым. Ці ёсць пагроза трэцяй сусветнай вайны?***

— Пагроза ёсць. Запалка паднесена да парахавой бочкі. Ці, як я казаў, алімпійскі факел усталявалі на парахавую бочку.

***— Вы згодныя, што калі свет не прыйдзе на дапамогу Украіне, яна можа перастаць існаваць?***

— Гэта так, але, як я ўжо сказаў, у выпадку поўнамаштабнай вайны з Украінай Расія таксама распадзецца. Прычым на больш дробныя кавалкі, чым Украіна.

***— Што можа спыніць Пуціна?***

— На яго здаровы сэнс ужо разлічваць немагчыма. Толькі на страх.

**Forbes.ua**



# Барыс Акунін з'язджае з Расіі

**Папулярны сучасны расійскі пісьменнік Барыс Акунін пакуль не збіраецца эміграваць з краіны, аднак асноўную частку часу будзе праводзіць за межамі «пуцінскай Расіі».**



«З пуцінскай Расіяй у мяне няма кропак судакранання, мне чужое ў ёй усё. І знаходзіцца тут у перыяд агульнага памутнення розуму мне стала складана. Таму эміграваць я, вядома, не збіраюся, але асноўную частку часу, мабыць, пачну праводзіць за межамі. Цвярозым з п'янымі ў адным доме няўтульна. Перыядычна наведваць можна — глядзець, ці не заканчваецца запой», — адзначыў Барыс Акунін.

Пры гэтым ён падкрэсліў: «Часткай таго, што называецца Расія, я застануся, у гэтым сэнсе экспатрыяцыя ўжо дакладна немагчымая. І Расія, якая з'яўляецца часткай мяне, таксама нікуды не дзенецца».

У цэлым, па словах пісьменніка, сёння шмат людзей яго кругу і ладу думак згадваюць і гавораць пра эміграцыю: «Агульны настрой у маім асяроддзі такі: «Ну і сядзіце з вашым Пуціным. Калі паразумнее — тэлефануйце». Хто рыхтуецца да эміграцыі геаграфічнай, хто — да экзістэнцыяльнай, тым больш што савецкі досвед «кухоннага мікраасяроддзя для сваіх» яшчэ не забыўся».

Барыс Акунін адзначыў, што яго паплечнікі гатовыя змагацца з кіруючым рэжымам, але не гатовыя змагацца «з восемдзесят колькі-там адсоткамі суайчыннікаў, якім гэты рэжым, мяркуючы па ўсім, падабаецца».

На думку пісьменніка, якога цытуе «Укрінфарм», Расію чакаюць цяжкія выпрабаванні, і напэўна, нават цяжэйшыя, чым тыя, праз якія праходзіць цяпер Украіна. І страшна пісьменніку назіраць за суайчыннікамі, якія «не бачаць, ці не хочуць ведаць, не задумваюцца». У сувязі з гэтым ён падкрэслівае, што «слепата, легкадумнасць і абыякавасць у такія моманты гісторыі дорага абыходзяцца».

**Экспрес онлайн**

# У канверце прыляцеў лісток...

Воляю акалічнасцяў у маім асабістым архіве захаваліся 12 факсімільных вершаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, якія раней не публікаваліся. Гісторыя іх з'яўлення такая: у 1980 годзе, скончыўшы завочна Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве, я вярнулася ў Мінск з ужо гатовым, на мой погляд, рукапісам вершаў і адважылася нарэшце аднесці яго ў рэдакцыю выдавецтва «Мастацкая літаратура», у аддзел паэзіі. А выдавецтва ў тыя гады ўзначальваў акурат сам знакаміты Рыгор Барадулін. Вядома, я не раз бачыла яго на выступах, чытала вершы, але асабіста мы знаёмыя не былі. Так атрымалася, што рукапіс мне пашчасціла перадаць асабіста Барадуліну... Потым мы з ім апынуліся аднachасова ў Доме творчасці пісьменнікаў Каралішчавічы.

Нішто так не спрыяе развіццю асабістых сімпатый, як тая адмысловая атмасфера, якую памятаюць усе, хто паспеў пабываць у тым утульным месцы, што было калісьці прыстанкам самога Якуба Коласа, і якая падтрымлівалася ў гэтым Доме да апошняга дня яго існавання. І напярэдадні Новага, 1981 года, я атрымала першы лісток з вершам; і цягам амаль цэлага года больш-менш рэгулярна лісткі з вершамі траплялі мне ў рукі.

Яны захоўваліся ў мяне да гэтага года, паколькі асабісты характар дасланых вершаў не дазваляў іх апублікаваць. Але пасля сконy іх аўтара, Паэта, якім ганарыцца Беларусь, мне здалося, што я проста не маю права хаваць гэтыя рарытэты...

**Любоў Турбіна**



# Запрашаю ў вясну...

Рыгор БАРАДУЛІН

***

***Любе Т-ой***

*А лівень так і не сабраўся,*
*Далей падаўся, ў змрок загорнуты.*
*Здалася нейкай несапраўднай*
*Вясёлка зябкая за горадам.*

*Яна спіну хацела выпрастаць,*
*Ды заміналі спіны дахаў.*
*На ўжо амаль што летніх*
*Выпасах*
*Наш першы прыпар*
*Недзе дыхаў.*

*Твая надзённая паспешлівасць*
*Тралейбусу перадалася.*
*Вясёлка маладой усмешкаю,*
*Тваёй, разгубленай*
*Цвіла ўся...*

**3.7.80**
**Кактэбель**

***

***L.T.***

*Ёсць самазабыццё начы,*
*Асвечанае згодай цела.*
*Як потым сэрца б ні хацела,*
*Яму нікуды не ўцячы.*

*З няволі светлае тае,*
*Дзе толькі вочы,*
*Толькі рукі,*
*Дзе,*
*Пакуль ціша растае,*
*Сябе саромеюцца гукі.*

*Хоць за сабою сам сачы*
*Люцей, чым наглядач астрожны,*
*У цемру светлую начы*
*Спяшацца будзе*
*Дзень твой кожны...*

**20.1.81.**
**Кар- чы. R. B.**

***

***L.T.***

*У канверце прыляцеў лісток*
*З дрэва,*
*Што спакой трымала кронай,*
*Ліст прыйшоў ад цішыні зялёнай,*
*Дотыку твайго збярогшы ток, —*

*Каб нанова*
*Успамін апёк*
*Той хвілінай,*
*Дзе яблыні чакалі*
*Адцвітаць,*
*А ласка летняй хвалі*
*Біла з забароненых заток.*

*Вечар быў*
*Таемным паштальёнам.*
*Змоўца-змрок*
*Сачыў, каб хто не ўрок (уцёк).*
*Нагадаць аб полымі зялёным*
*У канверце прыляцеў лісток.*

**17. 7. 81. R.B.**

***

*L.T.*

*І снег таксама трапяткі*
*Крануцца полымнай шчакі,*
*Каб не растаць,*
*Баіцца, чысты.*
*Снег лёгка падае таму,*
*Што пажадалася яму*
*Падкрэсліць*
*Твой пагляд вачысты...*

**21. 1. 81.**
**Кар–чы. R.B.**

***

***L.T.***

*Не наталяй*
*Пустэльны пал валля.*
*Луг неспатольнасці*
*Пакінь для ўкосаў...*
*Бо цела грэшнае,*
*Як і зямля.*
*Душа, яна —*
*Заложніца нябёсаў.*

*Не падстаўляй*
*Зайздроснасці ляўшу*
*Твой дзень,*
*Як святлацень,*
*Перапялёсы.*
*Дол моўчкі прыме цела,*
*А душу*
*Ці схочуць за сваю*
*Прыняць нябёсы?*

**R**

***

***Любе Турбіной***

*Ты маўчаннем лісты пішы,*
*Хай плывуць на марудных паромах.*
*На задворках тваёй душы*
*Лепей, чым у халодных харомах.*

*А калі разыйдзецца гром,*
*Далягляд абкладзе навальніца,*
*Ведай,*
*Гэта паспеў паром*
*Аб самоту чакання разбіцца.*

*А калі ў адчаі начэй*
*Развінецца маланка,*
*Помні —*
*Захацела святло хутчэй*
*Нагадаць пра вачэй тваіх промні.*

*Ты маўчаннем пішы лісты.*
*Як пісаць —*
*Запытай ў карэння.*
*Забароннае, з нематы*
*Загрыміць цішынёй нецярпенне..*

*З Новым годам!*
*Святла, дарог, радкоў!*

**31.12.80.**
**Мінск. Рыгор.**

***

***L. T.***

*І прыцумак, і сцежкі тыя ж,*
*Адно што поўні не відно.*
*А ты чаму, мой смутак, ныеш,*
*Як прысмірэлае вакно,*

*Што гаварыла небу нешта,*
*Калі маўчала цішыня.*
*...з ялін спадала снегу рэшта*
*На выкуп маладога дня.*

*Была ўзаемнаю ўзаемнасць.*
*Трывога чуйнаю была.*
*У дрэў знаёмная таемнасць*
*Цямнела з кожнага ствала.*
*Сляды дзяліліся з сумётам*
*Праўдападобнаю маной.*
*Сляды знікалі ў змрок*
*І потым*
*Гарэлі ў небе нада мной...*

**23.1.81**
**Каралішчавічы. R. B.**

***

***L. T.***

*Аддаю перавагу адчаю,*
*Паважаць пачынаю тугу,*
*Адказаць не магу,*
*Ці кахаю,*
*Ведаю —*
*Без цябе не магу!*

**RB**

***

***L.T.***

*Як там у космасе,*
*Не ведаю.*
*Тут,*
*Грэшнай мітусні каля,*
*Здаецца сумнай*
*І няветлівай,*
*І цеснай*
*Без цябе зямля...*

**RB**

***

***L.T.***

*Запрашаю цябе ў зіму,*
*Дзе ад снегу душна ялінам —*
*Нагадаюць няхай яны нам,*
*Мы шукалі сябе чаму.*

*Запрашаю цябе ў вясну,*
*Дзе ад квецені снежнай бела,*
*Дзе сцяжынка збегчы паспела*
*У нядаўнюю даўніну.*

*Запрашаю цябе адну*
*У хаціну маёй самоты.*
*Для цябе маладосць гукну.*
*Узаб'ю ля галоваў сумёты.*

*Ад цябе і журба не та́я —*
*Той, што верыць дагэтуль ма́ю.*
*Запрашаю ў восень сваю,*
*У зіму сваю*
*Не запрашаю!*

**21. XII. 81. R.**
**Лес.**

## Элегічнае з лебедзем

*Я жыву, чакаючы цябе,*
*А ў заліве ўжо з'явіўся*
*Лебедзь,*
*Хоць яшчэ завея*
*Снежкі лепіць,*
*Ён аддадзены светлай варажбе.*
*Гэта я*
*Свайго цярпення крыгу*
*Адкрышыў —*
*І воды асвятліў.*
*І са мной*
*Хвалюецца заліў,*
*Можа, лебедзь*
*Пачакае крыху?*

**Dubulty. 3.11.81 21-00**

***

***L.T.***

*З-за пагорка сінімі званочкамі*
*Твой развітальны помах.*
*І насцярожанасць жаночая,*
*Каб не было знаёмых.*

*Пра шэпт і шчэбет у гушчэўніну,*
*Пра ўцёкі сцежак босых*
*Раскажа грабянцу вячэрняму*
*Ігліца ў цёплых косах...*

**17.VII.81.**
**R. B.**

# Цаліна



Васіль ЖУКОВІЧ

## 1

— Ну, чакай, Чыта, свайго Тарзана, — з'яхідніча Зэк і пргразіў згвалтаванай: — А пра гэта — нікому не пікні, задушу! Цяміш?

Ён у азерца кінуў яе споднюю вопратку з плямамі крыві, падцягнуў і зашпіліў свае прыкметна зашмальцаваныя чорныя нагавіцы. Нягледзячы на даволі мажную сваю камплекцыю хутка ўзнімаўся на круты азёрны бераг: спяшаўся змыцца з месца злачынства.

Алеся, перасільваючы галаўны боль, паднялася з цёплага пяску і, плачучы, паспяшалася вылавіць у вадзе яшчэ непатанулую бялізну, памыла яе, выкруціла, апранулася і пайшла, не ведаючы куды, у які бок. Выйшла на дарогу, глянула — непадалёк стаіць той самы грузавік, у кабіне якога яна ехала, і за рулём сядзіць той самы вылюдак… Машына была заведзеная, яна знячэўку тарганулася з месца ды пайшла на яе, шафяруга быў бязлітасны: газануўшы, ледзь не дастаў радыятарам сваю жывую ахвяру, але, калі яна звярнула з дарогі ў стэп, ён адстаў, развярнуўся і пайшоў сваім курсам. Нейкі час няшчасная па інерцыі працягвала рухацца, як п'яная, не цямячы, куды ідзе, і не адразу ўгледзела, як ззяў на сонцы срабрыста-шэры кавыль. Алеся апусцілася на зямлю, міжволі тулячы да вуснаў некалькі пушыстых мяцёлачак. Залюбавалася да самазабыцця простаю стэпавою раслінаю. І ўпершыню ў жыцці ў яе абудзілася жаданне выказаць тое, праз што пакутавала.

*Ой, кавыль-кавылёк, у вачах маіх слёзы,*
*Прыняла я ўдар майго жорсткага лёсу.*

Яна здзівілася, што словы ў думках загучалі суладна, знайшлася рыфма. Яе зацікавіла спроба творчасці, словы, бы прыручаныя птушкі, прыляталі з таямнічай прасторы:

*Кавылёк, кавылёчак пяшчотны,*
*Я паранена, сэрца баліць,*
*Памажы, памажы мне,*
*гаротнай,*
*Рану сэрца хутчэй загаіць!*

Занатаваць прыдуманае не было як, бо сумачка з усімі неабходнымі рэчамі засталася ў кабіне машыны. Але хвіліны творчага роздуму сталіся такім неабходным паратункам ад стрэсу.

Калі Алеся паднялася і азірнулася наўкол, то непадалёк убачыла дымок, дзякуючы якому неўзабаве апынулася ля вогнішча, дзе казахі з бліжняга аула гатавалі ежу. На шчасце, яны зразумелі незнаёмку, калі спытала, як дабрацца да Кустаная, куды яна спяшаецца на ўступны экзамен у інстытут. Хударлявы мужчына адышоўся ад вогнішча, наблізіўся да незнаёмкі, акінуў яе позіркам ды, гладзячы сваю сівую бараду, сказаў, што машын туды ідзе многа, паабяцаў ёй затрымаць першую сустрэчную.

Казах вывеў разгубленую чужачку на дарогу. Падобна, адчуў, што незнаёмка перажывае цяжкую часіну. І грузавік спыніў не як чужы чалавек, а як родзіч: прасіў шафёра, зазірнуўшы ў вочы, каб завёз яго ўнучку ў Кустанай.

## 2

Седзячы ў кабіне спадарожнай машыны поруч з новым незнаёмым шафёрам, Алеся неахвотна адказвала на яго пытанні, ды не таму што адчувала: ён пытаецца абы не маўчаць, гледзячы на аднастайнасць дарогі і бязлюдных абшары цаліны, а таму што перажывала надта свежае пачуццё агіды да грубай жывёльнай сілы, да вераломства, а таксама пачуццё роспачы ад таго жахлівага, што здарылася: цяпер яна, як гаворыцца ў адной паляшуцкай песні, «не дзеўка, не баба» і папросту можа раптам прыраўніцца да розных там шлюхаў, бо, калі спатрэбіцца, як дакажаш, што ўсё здарылася насамрэч гвалтам, а не па яе добрай волі.

Канечне, ёй страшна не пашанцавала з гэтым нелюдзем. Але ж і сама яна — даўбешка несусветная! Спяшалася, спытала ў транспартнай канторы, тупіца, калі адпраўвіцца з трэста ў Кустанай бліжэйшая машына, а не пацікавілася, хто там за рулём. Ведала, што Хрушчоў перад цаліннай кампаніяй абвясціў амністыю злачынцам, у выніку чаго на волю выйшлі тысячы і тысячы зэкаў, а не ўцяміла: учарашнія зняволеныя патрапілі ва ўсе шчыліны агульнага жылля. Чаму яна падумала, што яе гэта ніяк не датычыцца, быццам яны рассяліліся недзе далёка, а не прыкінула рэальна: цаліна для іх асабліва прывабная, бо з'яўляецца сінонімам вольніцы. Пакутуючы за сваю неабачлівасць, Алеся ўжо называла сябе ў думках прышыбленай авечкай, таму што анічога благога не западозрыла нават тады, як Зэк прыпыніў машыну і сказаў: «Душна! Выйдзем перадыхнуць». У галаве Алесі цяпер пракручваліся кадры гэтай прыкрае дарожнае гісторыі. Вось ён вылазіць з кабіны і памагае ёй спусціцца з прыступак — падае руку. Джэнтльмен дый годзе!.. Нават крывая ўсмешка нічога ёй, дурніцы, не сказала. А далей усё пайшло, нібы ў фільме жахаў. Ён хапае яе на рукі, прэ ў бок азярца і кідае з крутога берага. Яна, як бервяно, коціцца аж да самай вады. Следам за ёю да вады збягае і ён.

— Тут нікуды не ўцячэш! — папярэдзіў, калі падхапілася і спрабавала бегчы. — Давай па-харошаму…

Паваліў на зямлю, пачаў распранаць. Яна з усіх сілаў супраціўлялася. На просьбу-мальбу адказаў кулаком. Удар па галаве спыніў адчайны дзявочы супраціў.



Зноў і зноў Алеся ўзгадвала яго звярыны выраз твару, калі дамагаўся яе і пасля, калі гнаўся за ёю на машыне. «Няўжо хацеў забіць?! — думала цяпер яна. — Падобна на тое, што хацеў. Чаму ж не ўтапіў? Мог жа ўтапіць! Тады не сумняваўся, што буду маўчаць? А йдучы да машыны, выходзіць, засумняваўся».

Бязлюдны стэп дадаваў юнай асобе думак пра безабароннасць чалавека ў вялікім свеце, а доўгая дарога то трывожыла, то супакойвала яе развярэджаную душу. У тунэлі маральных пакутаў, з якога не магла выбрацца дзявочая душа, раз-пораз бліскала амаль асляпляльнае святло. Такім святлом з'яўлялася жаданне і надзея здаць паспяхова ўступныя іспыты ў інстытуце, куды яна так імкнулася.

Заставацца з ведамі, набытымі ў статыстычным тэхнікуме пасля сямігодкі ў Мінску, Алеся не магла. Карцела атрымаць вышэйшую адукацыю. Да гэтага абавязвала праца ў планавым аддзеле будаўнічае арганізацыі цаліннага пасёлка. Там даводзілася апрацоўваць процьму паказчыкаў, якія датычыліся і планавых заданняў арганізацыі, і зарплаты яе работнікаў.

Інстытут заставаўся для яе адзіным маяком у бурлівым жыццёвым моры. Аднак запаветная мара не збылася. Першы іспыт — адразу і завал. Сканцэнтраваць увагу на пастаўленым ў білеце пытанні, падабраць патрэбныя словы ёй заміналі неадчэпныя думкі пра непрыстойны выгляд, памятую святочную вопратку, пра скамечаны лёс…

## 3

Пасля Кустаная Алеся перажывала змрочныя дні і амаль бяссонныя ночы. У Мінску жыла маці, якая адмалку прыніжала, часам і кляла сваю адзіную дачку, называла чамусьці то дзікім, то воўчым мясам.

Прычыну такой матчынай раздражнёнасці Алеся, безумоўна, разумела. Пасля таго, як бацька сышоўся з іншаю жанчынаю, маладой пакінутай прымаць дома ласых да спакусы мужыкоў замінала якраз яна, адзіная дачка, якая, падрастаючы, усё больш кеміла, што адбываецца з яе маці. Алеся і на цаліну паехала не таму што заклікалі туды тагачасныя ўлады і не таму што такі смелы крок лічыўся рамантыкай і фактам вернасці ды адданасці Радзіме — паехала, абы з'ехаць з дому, бо не магла больш трываць здзекі найраднейшага чалавека.

Яна і лістамі не дакучала сваёй найраднейшай. Так было з першага дня жыцця і працы на чужой зямлі. Нічым не хвалілася, ні на што не скардзілася. Цяпер Алесі, вядома, як ніколі дагэтуль, не ставала матчынай спагады і ласкі, ды не стала яна выпрошваць тое, чаго ніколі не мела жанчына, якая нарадзіла і неяк гадавала яе. Сорам камусьці сказаць, што нават перад ад'ездам у далёкі Казахстан не пачула ні ласкавага слова, ні наказу, ні хоць якой перасцярогі ад маці.

Алеся вырасла адзінотнай. Між тым ёй неабходна было хоць адной душы адкрыцца, распавесці, што з ёю здарылася. Такой душой аказалася медсястра, латышка Лайма. «Будзь уважлівая да сябе. Калі што якое — не зацягвай, прыходзь, я памагу…»

Больш, думала Алеся, ніхто не ведае і не ўведае пра яе бяду, медсястра, прынамсі, абяцала маўчаць. А неўзабаве знаёмы аптэкар, выпадкова спаткаўшы пад вечар яе на вуліцы, сказаў, аглядваючыся па баках, ці нікога няма побач:

— Да мяне заходзіў адзін «герой», хваліўся, што, маўляў, узламаў цаліну, прасіў даць яму атруты, каб супакоіць адну юную канторскую асобу… Прабачце, я вылічыў: гэта — пра вас.

Аптэкар, мужчына бальзакаўскага ўзросту, жанаты, глядзеў на патэнцыяльную ахвяру як кот на сала; яго маленькія вочкі блішчэлі, абяцаў нікому не даць прыгажуню ў крыўду, калі толькі яна «хоць трошкі дазволіць яе пакахаць». Пры гэтым спрабаваў прытуліцца-прылашчыцца.

Словы і паводзіны лавеласа давялі Алесю да стрэсу.

— Прэч, прэч! — ускрыкнула яна і рэзка адпіхнула кулакамі кастлявае тулава.

Ніяк не чакаў такога адпору сэрцаед, бо ледзь утрымаўся на нагах. Пакідаючы яго на дарожцы пад таполяю, Алеся заўважыла, як ён прамакаў насовачкай лоб і лысіну.

Пасля той нечаканай вечаровай сустрэчы з аптэкарам Алеся пачынала ўпадаць у новую дэпрэсію ад пачутага: Зэк шукае для яе атруту. Хоць яна і не ўяўляла, як ён збіраецца яе атруціць, але трывога і абурэнне не пакідалі ні на хвіліну. У той час, як яна павінна адпомсціць злачынцу, ён не замольвае свой цяжкі грэх, а падумае звесці яе са свету! Так сябе можа паводзіць хіба хворы псіхічна… З такімі думкамі пакутніца звязалася па тэлефоне з адной мінскай сяброўкаю, папрасіла падшукаць ёй сціплае жыллё і паведаміць пра яго кошт. На працы падала заяву. Звальняецца ў сувязі з тым, што дома ў яе цяжка захварэла маці і няма каму яе даглядаць.

На цаліну Алеся ехала, калі з радыёпрыёмнікаў і рэпрадуктараў часта гучалі дужа аптымістычныя песні-заклічкі. У адной з іх былі словы: «Здравствуй, дорога длинная! Здравствуй, земля целинная!»

«Будзь здарова, зямля цалінная!» — думала Алеся, атрымаўшы разлік у канторы будаўнічага трэста летнім сонечным днём.

Прайшоў месяц пасля той праклятай дарогі ў Кустанай. Упершыню за гэты час было сонечна ў яе на душы: яна не зацяжарыла! На развітанне яе шчыра абняла медсяра Лайма.

У родным Мінску Алесі пачало шанцаваць. Лёгка знайшла працу і пакой у інтэрнаце, а на наступны год паступіла ў наргас. І творчасць сваю працягвала. У моладзевай газеце дэбютавала цыклам «цалінных» вершаў, на якія рэдакцыя атрымала многа водгукаў. Адзін юнак быў прыемна здзіўлены тым, што, як пісала газета, «…эканамістка па адукацыі ўзняла цаліну свайго шматабяцальнага таленту, пра што сведчыць ніўка ўзгадаваных ёю вершаў».

Закаханы ў фатаграфію дзяўчыны, хлопец захацеў убачыць «арыгінал»…

А неўзабаве Алеся атрымала нечаканае паведамленне ад Лаймы: загінуў Зэк. Не, не атруціўся, яго забілі. Хто? Невядома. Мабыць, сіла наскочыла на большую сілу.

*21 верасня Васіль Аляксеевіч Жуковіч адзначыў сваё 75-годдзе. Шчыра віншуем паважанага аўтара і жадаем яму здароўя, радасці і душэўнага спакою!*

# Нараджэнне свету



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

* * *

*Лісток пра карані не памятае.*
*Ён лёгкадумна з ветрыкам гуляе,*
*А стоміцца — прыціхне,*
*і тады*
*Удалеч задуменна пазірае.*
*У лісціка мо тыдні, як гады,*
*Каб разважаць — занадта малады.*
*Лісток пра карані не памятае.*

### Любоў

*Любоў што свечкі язычок*
*Пад золкім ветрам —*
*Сабою разганяе змрок*
*Жыццёвых нетраў.*

*Яна і кліча, і вядзе,*
*Прынадна ззяе,*
*У весялосці і бядзе*
*Не пакідае.*

*Калі ж адпрэчаны анёл*
*Паслініць пальчык,*
*То неба падае на дол,*
*Агарак плача…*

### Прыцягненне

*Зямное прыцягненне —*
*штука жорсткая.*
*На дол ляціць дзіця,*
*занадта порсткае.*

*Дзіця крычыць,*
*заходзіцца ад крыку,*
*Бо падаць так балюча*
*не прывыкла.*

*Дзіця пратэст свой гучна заяўляе.*
*Яму не скажаш: «Пацярпі, бывае…»*

*Вось так усе праходзяцца законы.*
*Мы хоць старыя —*
*вучымся да скону.*

*Засвойваем адно,*
*затым —другое…*
*Вучыся жыць, дзіцятка залатое!*

### Дачакаліся

*Бог чакаў,*
*калі мае вочы адкрыюцца.*
*Б'юць анёлы-ахоўнікі радасна*
*ў ладкі.*
*Колькі год перад тым*
*я хадзіла на мыліцах,*
*А былі ж мае ногі*
*у поўным парадку.*

### Як заўжды…

*Мы такія для ўсіх клапатлівыя,*
*Нас адказнасці ноша гняце.*
*І няшчасныя мы, і шчаслівыя*
*Праз мужчын,*
*праз бацькоў.*
*праз дзяцей.*

*Дзе наш стрыжань і наша апора?*
*Рассыпаецца ў пыл той граніт,*
*На які абаперліся ўчора.*
*Мо сурочыла Еву Ліліт?*

*Упікаць нас дасюль не прысталі*
*За той яблык прыемны з рукі.*
*Без яго*
*мы б дурнічкамі сталі*
*І здзічэлі б зусім мужыкі.*
*…Занядбалі сябе, занядбалі.*
*За ахвярнасць*
*ці сплоцяць вякі?*

*«Бабскай долі скарыся,*
*прыгніся», —*
*Шэпча страх, — а не то,*
*а не то…»*
*Валянціны, Наталлі, Марысі*
*Сам-насам у метро і аўто.*

*І цяпер іх ужо дакараюць,*
*Што у першыя пруцца рады,*
*Што заняты і мала раджаюць…*
*Вінаватыя спрэс! Як заўжды.*



### Нараджэнне свету

*Цемра адчула: пара,*
*Плод апусціўся нарэшце.*
*Прыгатавала шнурок і нож,*
*Ваду, як належыць, нагрэла.*

*Перанесла пакуты ўсе,*
*Крычала, стоячы на каленцах.*
*Праклінала жаночы лёс,*
*Перавязвала пупавіну.*

*Ляжала са слязьмі на вачах,*
*Дзіця паклаўшы на грудзі.*
*Нарадзіла яна с в я т л о.*
*Калыханку спявалі зоркі.*

### Вечар

*Вечарам вылезлі ўсе каты*
*Са схованак і скляпенняў.*
*Час палявання, ціхай хады,*
*Чуйных вушэй варушэнне.*

*Свет навакольны цікавы такі,*
*Хоць, насамрэч, небяспечны.*
*Ноч таямніц адкрывае замкі.*
*Шэпчуцца дрэвы аб нечым.*

*Горад часовы, залежны, на жаль,*
*Ад электрычнага току.*
*Ноччу ў бадзяжак і праца, і баль.*
*Поўня высока…*

* * *

*Шэршні лятаюць і восы,*
*Лес падступае жывы.*
*Часам равуць бензакосы*
*З-за непатрэбнай травы.*

*Вёска — як тое улонне,*
*Што не завяжа плада.*
*Чэзне і кволіцца сёння*
*І пры бацьках сірата.*

* * *

*Вядро каўтнула ржавае вады,*
*Сказала: «Вам такая не падыдзе.*
*Тут верхаводка.*
*Блізка да бяды.*
*Такую, я вам раю, не бярыце».*

*І чалавек, паслухаўшы, пайшоў*
*Праз вёску ўсю*
*у пошуках сапраўднай,*
*Што з глыбіні — як прымаўка*
*з вякоў…*
*Нібы жывой вадзе, мы чыстай рады.*

* * *

*Нам навязалі правілы гульні,*
*Аднак я не скарылася ані.*
*І гэтае навокал крывадушша*
*На дух не пераношу,*
*хоць і мушу*
*Навіны уключаць.*
*Няма навін,*
*А толькі ўсюдыісны — ён адзін.*
*Заняў самаздаволена экран,*
*Імя яго і «отчаства» — падман.*

* * *

*Вышукваем, як раўчукі,*
*Лажбінкі, канаўкі,*
*Калюгі і ямкі.*
*І ўсё — каб ямчэй, каб спадручней,*
*Каб меней патраціць сілы…*
*Мы так эканомім сябе!*
*Ёсць шанец убіцца ў імшару…*

* * *

*Штонідзень — то падвей,*
*штонідзень — то віхор.*
*Першым ясень згалеў*
*і засыпаў наш двор.*

*Стогадовая ліпа шуміць — не пяе.*
*Апусцілі вяргіні галоўкі свае.*

*Летуценніцу-ружу ў чаканні цяпла*
*Білі дрыжыкі перш,*
*а пасля расцвіла.*

*«Звар'яцела» —*
*ля клумбы сказаў гаспадар.*
*Гаспадыня падумала: «Восенькі*
*дар».*

* * *

*Хто шчодра сее — шчодра і пажне,*
*Збяру плады духмяныя ў карзіну.*
*Нягоды адступілі ад мяне,*
*А новыя сама я прэч адкіну.*

*Ўсе плямінкі старанна адатру.*
*(Не раз я аступалася на брудзе.)*
*А чысценькай*
*ці гразненькай памру —*
*Ужо ж як атрымаецца. Як будзе.*

# У думках суайчынніка



Марына ЯЎСЕЙЧЫК

### I

*неба…*
*мора…*
*аблокі…*

### II

*колькі каштуюць*
*у бога*
*ланцугі шчасця*
*зямнога?*
*нямое яно…*

### III

*падлога*
*рыпіць пад нагамі*
*доўга*
*цягнецца час*
*уцяку*
*за мяжу*
*там*
*шчасце сваё*
*знайду.*

### IV

*добра*
*будзе ў палоне*
*нібы*
*на далоні*
*у бога –*
*не свайго, дык чужога.*

### У марах суайчынніка

### I

*дождж…*
*снег…*
*мары…*

### II

*чаму чалавеку раяць*
*забыцца?*
*шчасце іскрыцца*
*ў далоні.*
*смешна*
*да болю.*
*сэрца імкнецца*
*на волю*

### III

*грудзі ўздыхнуць*
*і путы*
*парве*
*надзея.*
*пакуты не будуць*
*трымаць*
*пытаннем «дзе я»?*

### Кастусю Каліноўскаму

### I

*Люстэрка…*
*Хвіранка…*
*У вакенцы стаіць*
*не яна.*
*Сланечнік вісіць*
*у рамцы.*

### II

*Хопіць, даволі*
*змагацца*
*за сонца*
*бясконца*
*Кастусь Каліноўскі*
*біўся*
*Гаспадар з-пад Вільні*
*забыўся*
*што на магіле*
*яго імя*
*не напішуць*
*з пашанай.*
*Кожнае слова аб ім –*
*загана.*



### III

*Дык навошта*
*мова,*
*калі не шануюць*
*словы?*

### Сляценне рук

*Сядзем. Памаўчым.*
*Адкінем дня пакуты.*
*Хрыстос, калі стаяў*
*Прыкуты*
*Да крыжа свайго —*
*Маўчаў.*
*Дык так і мы*
*Адвечны шлях малюем.*
*А ў ціршы спляценне рук.*
*Тваіх. Маіх.*
*Як зор далёкіх, з якіх і мы прыйшлі*
*Ды на зямлю*
*З адзінай толькі мэтай —*
*Устаць.*
*Каб выстаяць.*
*І стаць тым падабенствам*
*Божай моцы, якую зналі мы,*
*Калі з душою зоркі размаўлялі.*

*Дамоўка кліча не ў нябыт.*
*Пустэча рук халодных — нібы*
*пакуты.*
*Абдымкі неба — навальніцы*
*Ці як крыжы.*

*Ляцім. І моўчкі кажам мы:*
*«Любіць усё-ткі трэба*
*Свой шлях зямны.*
*Так моцна,*
*Нібыта ён Карона на галаве*
*тваёй.*
*І створана яна Сусветам».*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (97) | 26 верасня 2014 | № 36 (405) Новы час

# Бацька

**2014 год цяжкі на страты: адзін за адным пакінулі гэты свет лепшыя пісьменнікі-сучаснікі. Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін... І — Анатоль Кудравец. З іх творамі «ЛБ» знаёміла і яшчэ будзе знаёміць сваіх чытачоў. Як сёння — з апавяданнямі Анатоля Паўлавіча, далікатнага класіка нацыянальнай прозы, легендарнага рэдактара беларускага часопіса «Нёман», які ў той час разыходзіўся па ўсім СССР накладам у 200 000 асобнікаў і першым друкаваў і сваіх аўтараў, і сусветных майстроў, — такіх, як Маркес...**

**Апавяданні ўзятыя з новага зборніка прозы Анатоля Кудраўца, які выйдзе ў серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».**



Анатоль КУДРАВЕЦ

## Летні сон па дарозе дамоў

*Памяці Вовы ПАРХІМОВІЧА*

Ён ляжаў на высокім ложку, апавіты тонкімі гумавымі трубкамі, па якіх у яго цела ўлівалася жыццё — чужая чалавечая кроў. Яго кроўка выцякала, а чужая ўлівалася. Вунь яна ў шкляным слоіку на штатыве — зябка-чырвоная, цёмная, як нежаданая ноч. Калі прыглядзецца, то відаць, што яна ледзь прыкметна пакалыхваецца; так калышацца вада ў графіне пры роўным бегу цягніка. Калышацца, затуманьвае, заварожвае. Яму здавалася, што ён нават чуе, як гэта ўсё адбываецца ў ім, як кропля за кропляй яго цела аслабаняецца ад хворай крыві, а на яе месца... кропля за кропляй... заступае здаровая. І нібыта цяплела ўсярэдзіне, падступала санлівасць і нічога не хацелася. Не хацелася ні пра што думаць, не хацелася нават расплюшчваць вочы. Так і ляжаў, так і ляжаў бы — бязвольная лялька-салдацік з коратка абстрыжанай галавой і кволымі чорнымі вусікамі на бяскроўным, хваравіта-смуглым твары.

У палаце славутага шпіталя Бурдэнкі ён ляжаў адзін, да яго, як да важнага пана, не падсялялі нікога. Славуты шпіталь... Славуты чым? Адрэзанымі рукамі, укарочанымі нагамі, выпатрашанымі вантробамі?.. Ха-ха... Ха-ха-ха! Смейся, дурань, смейся!

У часці яму не маглі даць ніякай рады. Відаць, дактары і самі не ведалі, што з ім робіцца і як яго ратаваць. Раптам, нібы без дай прычыны, пачала пухнуць правая нага. Пачалося ў паху і пайшло ніжэй. За нейкі тыдзень нага налілася сінню і зрабілася тоўстая, як бервяно. Бедную маці вадой адпойвалі, калі яна ўбачыла гэту ягоную ножку. Калашыны трусоў давялося разразаць... Маці адразу зразумела, што тут бяда. Кінулася па начальству, дзе з грозьбаю, дзе з просьбаю. Яна малайчына, для яе што прапар, што палкоўнік: усе вы аднолькавыя... салдафоны. Ушпілілі яму некалькі ўколаў, пагрузілі на машыну і сюды, на ўскраек Масквы.

— Ну, што, афганец? Будзем ваяваць? — спытаў у яго маёр на першым абходзе. — Маёр быў невысокі і паўнацелы, з вялым ацеслівым тварам. Паверх мундзіра — прасторны белы халат, не чалавек, а кокан, з якога нешта хоча вылупіцца. Пазірае на цябе, а вочы і сам недзе далёка, нібы на другой планеце.

— Я не афганец, — адказаў Вова і застагнаў: цвёрдыя, як патроны, маёравы пальцы залезлі ў жывот між ног і пагналі кішкі і ўсё, што там было, угору, пад грудзі. У галаве заіскрыла, пачалі ўзрывацца светлячкі ці што там яшчэ.

— Не афганец, то як сюды трапіў? У мяне тут яны, яны... — Пальцы пакінулі жывот, пайшлі па нагах. — Баліць? Не баліць?.. Баліць? — Левая нага добра чула іх, яны цёплыя і нібыта не такія ўжо і цвёрдыя, а правая была зусім як чужая, быццам адседзеў і па ёй пайшлі мурашкі.

Маёр доўга і старанна выціраў рукі ручніком, які падала яму невысокенькая жаласлівая сястрычка з круглымі перапалоханымі вачыма.

— Не афганец, а ваяваць трэба... Трэба...

За галавой акно. Там восень, рэзкія, як ляскат пугі, нахабныя крыкі галак, галасы людзей, гудзенне машын. І пах дыму. Такі гнілаваты пах дае прывялае тапалёвае лісце, калі яго зграбаюць у кучы і паляць. Даўкі гнілаваты дух напаўняе палату, гоніць клубок пад грудзі, цягне на ваніты.

Перад вачыма дзверы. Праз шкло ўверсе можна бачыць галовы ўсіх, хто ходзіць па калідоры. Хаця, хто там ходзіць. Маёр зазірнуў раніцай і пайшоў, цяпер будзе толькі ў панядзелак, праз два дні. Застаюцца маці ды гэтая жаласлівая сястрычка з перапалоханымі вачыма. Сястрычка прыдзе, каб адключыць крапельніцу, пасля прынясе вячэру. Маці паехала на рынак, зноў прывязе яблыкаў, апельсінаў. Можа, арэхаў ці хурмы. «Вовачка, з'еш...» Мама родная... Калі б гэта некалі, дома... Апельсіны, мандарыны, божа мой!.. А тут нічога не міла...

Маці быццам не заўважыла яго злосці:

— І што табе снілася, сынок?

— Што снілася... Здаецца, я дома, у садзе. А яблыкаў, яблыкаў, як гразі, асабліва на крайняй, ананаснай. І ўсе такія буйныя, чырвоныя, і я рву іх. Ведаю, што не пара яшчэ рваць, дзед будзе злавацца, а ўсё роўна рву. І тут паказаўся дзед — у белых штанах, у белай кашулі. Убачыў мяне, адвярнуўся і пайшоў.

— Ён жджэ цябе.

— Ну, ён пісаў пра гэта. Папраўлюся — і прамым ходам у Яўладавічы. І нікуды адтуль не паеду. Там куды ні пайшоў — сам сабе начальнік, і ніхто на ногі не лезе. А то не паспееш заявіцца ў гэты Мінск, як табе ўсе ногі паабтоптваюць.

...«Узвод, пад'ём! Трывога!..»

Загудзела, захадзіла казарма. Нібы ўскінутыя чужой сілай, саскоквалі з ложкаў, хапалі штаны, гімнасцёркі, рамяні, анучы, нацягвалі на сябе, накручвалі на ногі, совалі ногі ў боты, станавіліся ў строй.

— Раўняйсь, смірна! Разабраць процівагазы! За мной!

Недзе нешта гарэла. Смурод ад паленай гумы і яшчэ нечага ядавітага распаўзаўся па тэрыторыі гарадка, пяршыла ў горле. Дым ішоў адтуль, ад «аб'екта». Няўжо нешта сур'ёзнае? Там жа, пад зямлёй, яны, гэтыя дурніцы. Не дай бог, калі што... Не, мусіць, нічога страшнага. Сустракае капітан, ускінуў руку:

— Спакойна і без панікі. Праверыць усё, прашчупаць кожны міліметр. Усё як мае быць, чэрці. Наперад!

У шахце і ў процівагазах не прадыхнуць. Чарствы гумавы чад. Сіні дым. Наперад, чэрці...

Ужо наверсе, калі трохі адкашляліся, адпляваліся, капітан сказаў:

— Нічога страшнага. Невялікае замыканне, у адным вузле падплавіліся кабелі. І толькі...

— Таварыш капітан, гавораць, была ўцечка?..

— Ніякай уцечкі... Запомніце: ніякай уцечкі! А хто не запомніць, запішыце. Разайдзісь!

Ніякай уцечкі?.. Толькі невялікае замыканне... ды падплавіліся кабелі. Была ўцечка, была... І дым. Гнілы белы дым.

Яны ўдвух з Безбародым. У сяржанта пакамечаны пасля ўчарашняй увальніцельнай твар і мутныя вочы... Мутныя-то мутныя, але ўбачылі, што з кішэні Вовавай гімнасцёркі вытыркаецца бліскучы кончык новай шарыкавай ручкі.

— Ну-тка пакажы, што гэта ў цябе?

— Ручка. — Паказваць яе Вова не збіраўся. «Пакажы. Была ваша, стала наша», мы гэта добра ведаем.

— Давай-давай, весялей!

— Абыдзешся! — Вова зашпіліў гузікі гімнасцёркі. «Пакажы!». Ён не нейкі там чарпак, салага, каб вось так запраста аддаць.

— Што-о-о?! — Як ён адразу звярэе! Морда нібы ў ваўкадава, цаглінай не закрыеш. Папруга з латуннай спражкай узвіваецца ўгору, Вова ледзь паспявае выкінуць насустрач руку. «Хрась!» О божа, гэта ж гадзіннік. Новенькі «камандзірскі» гадзіннік шкляной жарствой рассыпаецца па бетоннай падлозе.

Вова нейкі час няўцямна пазірае на бліскучыя асколкі, пачынае збіраць іх.

— Ты... ты... Ты мне за яго заплоціш!..

— Ага... Заплачу... Ха-ха! Не падстаўляйся, салага!

Не падстаўляйся. Лепей бы ты па галаве мне, яна вытрымае, яна зажыве, а тут... Што я маме скажу, што?

«Шах-шах! Шах-шах! Шах-шах!..»

Калі слухаць здалёк, здаецца, што нехта мяце бетонную дарожку. Размерана-роўнае, трохі паспешлівае сухое шарканне.

«Шах-шах! Шах-шах!»

Шарканне набліжаецца, гук набірае сілу, густа дробіцца: «Шах-шах! Гуп-гуп! Шах-шах! Гуп-гуп!»

Гэта ўжо не мяцёлачка на штабной дарожцы, гэта салдацкія боцікі на бетоне шасейкі. Марш-бросок... у поўным баявым. Не адставаць!

Галоўнае, не збіць дыханне. Тры разы ўдыхнуць, тры — выдыхнуць! Та-та-та! Та-та-та! Та-та-та! Та-та-та...

Які цяжкі гэты калашнік! І ражкі — начорта іх столькі! Процівагаз, гранаты... Галоўнае... не збіць... дыханне... Паспрабуй... не збіць. Та-та-та! Та-та! Та-та-та! Та-та! Жывот, жывот!.. Пырнула, як нажом, і не адпускае.

— Таварыш сяржант!

— Я два гады... таварыш... сяржант...

— Жывот!

— Ва ўсіх жывот. Не адставаць!

Сэрца калоціцца, як шалёнае. Яно ўжо тут, у горле... і жывот!.. Таварыш сяржант, сука ты такая... Сволач ты... Гад ты!.. Усё, болей не магу... Але што гэта? Удар ззаду, пад яйцы, па копчыку... А-а-а! Чырвонае ўваччу і ў небе. І нічога няма... Як добра, калі нічога няма. Ні-чо-га... «Шах-шах! Шах-шах!» Зноў бягуць? Куды, куды бягуць?.. Не, гэта не бягуць... Гэта ўжо шпіталь, гэта падмятаюць дарожкі... Каб чыста, каб акуратна, каб прыгожа...

— Таварыш маёр, а як гэта ўсё называецца? — спытаў ён, калі маёр зайшоў у палату другі раз.

— Што «ўсё»? — маёравы пальцы размерана-роўна ішлі па яго целе. Толькі гэтым разам яны былі асцярожныя, нават далікатныя. Маёр уважліва зірнуў Вову ў вочы і нібы аддаліўся. Стаяў на тым жа месцы, пальцы яго былі ўтоплены ў Вovaў жывот, але Вову падалося, што маёр адступіў некуды назад, у цень.

— На латыні гэта называецца sarcos. Sarcos на латыні.

— А калі не на латыні?

— Мяса... Калі перакласці з латыні — мяса.

— Чалавечына?

— Чалавечына таксама мяса, хвароба. Пакажам цябе камп'ютару і будзем лячыць.

— А хто такі камп'ютар? — Вова паспрабаваў усміхнуцца.

— Камп'ютар — гэта вялікі хітрун, мудрэц. Шмат ведае і шмат што можа выдаць, шмат што можа расказаць...

— А што ж ён мне раскажа, а? Што?..

— Паглядзім, паглядзім...

Вова расплюшчыў вочы. Нават не расплюшчыў — трошкі развёў павекі і ўбачыў яе. Убачыў — і не паверыў, што гэта яна, тут...

Ён звыкся са станам, калі не ведаеш, ява гэта ці сон, але тут паверыў адразу, што гэта не сон. Божа, колькі разоў ён сніў яе! Колькі разоў клікаў: дарагая, ну што табе гэтыя васямсот кіламетраў, гадзіна самалётам і гадзіна цягніком, ну, што табе... Калі б я мог сам, ды я б...

Толькі той, хто быў салдатам, ведае, якая гэта пакута не бачыць дзяўчат, а калі і бачыць, то здаля, з тупым адчуваннем, што гэта не тваё, што гэта недасягальнае, што гэта недатыкальнае. Як чужое прыгожае жыццё — яно і ёсць, і яго няма. Гэта не тваё. Не тваё!..

І вось яно тваё: яна тут, яна побач...

Ён хадзіў ужо як нявольнік, пастрыжаны і запісаны, заставалася шэсць дзён да адпраўкі, калі сустрэў яе. Маці была на працы, ён заскочыў у магазін купіць хлеба. Працягнуў руку да буханкі, што ляжала на паліцы, і ўбачыў, што да той жа буханкі цягнецца яшчэ нечая рука. Ён машынальна адхапіў сваю, але і тая тарганулася назад. Ён павярнуў галаву.

— Лена?..

— Вова?..

Яны разрагаталіся: вось дык сустрэча!

Яны не бачыліся з восьмага класа. Ён пайшоў у тэхнікум, яна заканчвала дзесяцігодку. Спрабавала паступіць на філфак універсітэта, не паступіла, пайшла на шпалерную фабрыку. Сёння выхадная, бегала па магазінах, нічога не купіла, сабралася дамоў і ўспомніла, што дома няма хлеба.

— І ў нас няма хлеба. Значыць, гэты хлеб наш з табой, і мы павінны раздзяліць яго. Я недалёка жыву, зойдзем і раздзелім, га? Раздзелім?..

Ён быў смелы як ніколі, можа, таму, што лічыў сябе салдатам — «раз-два, левай, левай!»... Ён узяў хлеб, абняў яе за плечы і павёў з магазіна на вуліцу.

Яна спытала:

— А як тваё?

Ён сказаў, што маці на працы, і яны будуць адны, самі сабе гаспадары, уключаць магнітафон, паслухаюць музыку. Яна ўважліва агледзела яго:

— Вова, ты такі імпазантны, ніколі б не падумала, некалі ты быў такі нясмелы...

— Усе мы некалі былі, — засмяяўся ён, стараючыся быць такім смелым, якім яна бачыла яго.

З гарэлачных запасаў ён узяў пляшку «Такая». Гэта было цудоўнае віно, яны пілі яго з высокіх фужэраў, чокаючыся і паглядаючы ў вочы адно аднаму. Неяк адразу захмялелі. Танцавалі нешта індзейска-паганскае, пад рытмічныя гукі барабана, то разбягаючыся ўбакі, то збліжаючыся так, што ён чуў не толькі пах яе духоў, яе валасоў, а чуў усю яе — яе грудзі, жывот, ногі. О божа, як гэта ап'яняла яго! Пасля нейкага фужэра ні ў яго, ні ў яе не стала цярпення танцаваць далей, яны забыліся на канапу, і ён пачаў расшпільваць гузікі на яе лёгенькай кофце. Яна спыніла яго прыглушаным голасам:

— Пачакай трошкі, не спяшайся.

Яны ўсталі, і яна сама стала распранаць яго, дакранаючыся да яго лёгкімі пальцамі. Потым узняла свае рукі ўгору, і ён дапамог ёй здзець цераз галаву кофту, расшпіліў ліфчык, убачыў белыя, акругла поўныя грудзі і засмяяўся. Кашулі на ім таксама ўжо не было, а яе спаднічка і трусікі, і яго штаны і трусы грэшнай горкай ляжалі пад нагамі.

Нейкі час яны стаялі так, чуючы холад ад акружаючага

паветра і цяпло, што гарачымі хвалямі ішло ад іх цела?. Ён чуў яе вусны, яе язык у сваім роце, прыцiскаўся да яе прахалоднага жывата, прахалодных, як пасля вады, ног, пакуль не знайшоў тое мяккае, цёплае, і яна застагнала, абшчапіла яго рукамі і нагамі, і ён зрабіў некалькі крокаў да канапы, аддаўшыся на волю туману і маладой сілы…

І назаўтра, і паслязаўтра яна прыходзіла да яго, і гульня ў індзейска-паганскія танцы працягвалася. На працы яна ўзяла некалькі адгулаў, і іх хапіла аж да яго адпраўкі ў часць. Везлі іх цягніком, і яна прыйшла на вакзал, дзе ён і пазнаёміў яе з маці…

Ён пісаў ёй з часці. Слаў лісты кожны дзень, а яна на ўсе адказала толькі адным.

«Ты даруй, што я мала табе пішу, я не люблю пісаць, не ўмею пісаць. Мне здаецца, што ўся гэта пісаніна не што іншае, як падман ці самападман, калі чалавек адсутнасць жыцця хоча замяніць імітацыяй жыцця… Лепей я адзін раз прыеду, чымся буду дзесяць разоў пісаць пра тое, як я хачу прыехаць, ды не магу…»

Яна не прыехала. Ён стаміўся чакаць яе, вырашыў, што яна так ніколі і не прыедзе. А калі з ім здарылася ўсё гэта, ён сам не хацеў, каб яна прыязджала, не хацеў, каб яна бачыла яго такога. Пазней, як паправіцца, няхай, а цяпер…

І вось яна прыехала… Прыехала і пазірае на яго праз шкло дзвярэй. «Ну, што ты пазіраеш? Заходзь!» Ён заплюшчыў вочы ў хваравітым чаканні.

Дзверы ціха адчыніліся. У палату зайшла сястра. Уважліва, з нейкай насцярожлівасцю паглядзела на яго:

— Вова, што з табой? Ты такі… такі светлы…

— У мяне былі госці, — адказаў ён, а сам падумаў: «Відаць, Лена не асмелілася зайсці. А можа, не хацела, каб сястра яе бачыла».

— Я зараз прынясу вячэру.

— Добра, толькі падкаці ложак да ўмывальніка.

— Я намачу ручнік у цёплай вадзе.

— Не, я хачу сам.

Сястра падкаціла ложак да ўмывальніка. Вова сеў, павярнуў кран. Падставіў рукі пад халодны струмень і слухаў, як вада лашчыць далоні, тонкія, нібы ў дзіцяці, схуднелыя пальцы. Набраў вады ў прыгаршчы, але яна ледзь не ўся вылілася, пакуль данёс да твару. Набраў яшчэ раз. Правёў мокрымі рукамі па вачах, па шчоках. Узяў ручнік, выцерся, адкінуўся на падушку.

— Ты ў мяне сёння маладзец, — пахваліла яго сястра, адкатваючы ложак да акна. Вова ўсміхнуўся:

— Ну… Хочаш, раскажу анекдот?

— Раскажы.

— У нас у сяле захварэў дзед, і доўга хварэў. Прыходзіць яго ўнук у кузню, каваль і пытаецца: «Ну, як дзед?» — «До-обра! То пляваў на бараду, а гэта ўжо на грудзі».

Сястра засмяялася:

— Бач ты… анекдотчык… Дык я пайшла?

Ён кіўнуў галавой.

Калі сястра вярнулася з падносам, Вова ляжаў на падлозе. Яна кінулася да яго. Ён хрыпеў, торгаючыся ўсім целам…

Яна склала рукі як для малітвы:

— Вова, анекдоцік ты мой. Што ж гэта ты? Дык што ж гэта яны з табой зрабілі?..

# Бацька

Елка стаяла не з самага краю лесу, але ў прасвет паміж камлямі іншых дрэваў — маладзейшых, з высока пададбранымі лапкамі, добра было відаць, што робіцца ў канцы пасёлка.

Урэшце, і канец пасёлка Сцяпана не надта цікавіў. Яго цікавіла трэцяя хата па той бок вуліцы. Тры акны ў блакітных аканіцах, тры вертыкальныя ромбікі, прарэзаныя ў франтоне. Ромбікі замянялі акенца, каб на гарышчы можна было нешта бачыць. Ён сам іх праразаў, гэта была яго хата.

Другі дзень яны з Валодзем глядзяць на гэту хату, і другі дзень ніхто не адчыніў дзвярэй ні туды, ні адтуль. І за вокнамі не было відаць ніякага жыцця — усё замуравана белым холадам. Быццам у хаце не было нікога жывога.

А там павінны быць сын і дачка. Пётрусь і Анеля. Пётрусю — дванаццаць, Анелі — сем. Два гады як памерла іх маці, пакутніца Алена, і два гады, лічы, усё на плячах хлапца — і яда, і дровы, і сястрычка, і хата. Сіроты пры жывым бацьку. І бацька, як загнаны звер, месца сабе не знаходзіць. Туляецца, як бадзяжка. Чужы ў сваім лесе, чужы ў сваім сяле. Вунь яна, твая хата, твае слівы, твае яблыні. Сам садзіў, сам даглядаў, нянчыў. Ці то не мужык, не гаспадар, ці то зломак — хоць з тапаром, хоць з касой, хоць плячо пад бервяно… Хацелася волі: і сабе, а болей дзецям, каб нічога не баяліся, каб чулі сябе людзьмі. Каб ніхто не камандаваў, не ездзіў на табе, як на скаціне. Здавалася, — можна, здавалася, яшчэ трошкі пацярпець, яшчэ трошкі і… І… Не далі. І тыя не далі, і гэтыя не даюць. І не дадуць. Але, дзякаваць Богу, лёс мілаваў: крыві на яго руках не было. Не было… Хлопцы пайшлі за войскам, на захад. «Хадзем, — казалі і яму. — Хадзем, бо тут табе жыцця не будзе». — «А дзеці? Як я дзяцей кіну?» — «І дзецям жыцця не будзе…»

Не пайшоў. Не захацеў пайсці. І вось ляжыць пад елкай і глядзіць на сваю хату.

Хата жыве, пакуль у ёй жывуць, — гэта Сцяпан ведаў добра. Яшчэ даўжэй хата жыве, калі ў ёй гаспадары — сваё ёсць сваё. Свая і болька дарагая. Таму і працівіўся, каб дзяцей забіралі ў прытулак. Калі па душы, працівіўся не толькі таму, што хата трымала. Ён ведаў: забяруць дзяцей — і болей ён іх ніколі не пабачыць. А пакуль яны тут, тут усё яго, тут яго сям'я, тут яго дом, яго дом. Не стане іх — не стане нічога. А так хоць праз тыдзень, хоць праз два, хоць крадком, хоць на некалькі хвілін, але яны разам, усёй сям'ёй разам. Усім гняздом.

Дзеці таксама не хацелі ісці ў прытулак. «Мы будзем з бабай». Баба, Сцяпанава маці, жыла на сваім селішчы, у залеснай вёсцы, за тры кіламетры. Пра бацьку дзеці стараліся ні з кім не гаварыць. Яны ведалі, што пра бацьку нікому напамінаць не трэба. Яго лічылі бандытам, яго шукала міліцыя, яго лавілі. Бандыт, які ён бандыт?.. Чаму ён бандыт?

Але чаму з коміна не ідзе дым?.. Хай і на вясну пайшло, хай і невялікі мароз, але ж зіма. Можа, дзеці не вытрымалі чакаць і пайшлі за лес да бабы? Але ж ён сказаў, каб былі дома, каб чакалі. Ён абяцаў прынесці хлеба, а можа і яшчэ чаго. Ён заўсёды прыносіў нешта з яды. Цяпер хлеба не прынёс, прынёс бульбы. Вунь яна, у торбе, у іглiцы.

Тыя разы ён прыходзіў адзін. Аднаму прасцей у сваім сяле, у сваім двары, у сваёй хаце. А Валодзю няма куды дзецца: ні дома, ні радні, усё з'ела вайна. Пасля Цераболі, калі іхнія зямлянкі аблажылі энкавэдысты, з шасці жывымі выйшлі толькі яны ўдвух. Так і ходзяць разам.

Елка была старая, магутная, — можа, з метр, можа, болей у камлі. Сукі пачыналіся высока, у рост чалавека, але раскідвалі голле так шырока, што не маглі ўтрымаць уроўні з зямлёй ні зялёную мятлу-кучомку, ні самiх сябе, апускаліся ўніз, выгіналіся дугой, дастаючы да самай зямлі. Зверху налягалі другія лапкі — зелянейшыя, маладзейшыя, густа абросlыя іголкамі, робячы з елкі тое, што называецца словам «шацёр». Ні дождж, ні снег не маглі прабіць гэты высозны зляжалы панцыр, пад самым верхам якога знайшла месца для свайго гнязда сям'я каршакоў. Разумныя птушкі, выбіраюць дрэва і не ў самай глыбі лесу і не з самага краю.

За гэты час, як мужыкі тут, коршак прылятаў двойчы. Пасядзіць, пасядзіць між галля, быццам у яго ніякага клопату няма, потым ціха сарвецца ўніз, нават не сарвецца — мякка паплыве на разгорнутых крылах у бок вёскі, крута развернецца, разы са два лянiва ўзмахне пругкай сілай распраўленага пер'я і пойдзе над лесам.

Быццам і не прылятаў, быццам яму і клопату мала да гэтых двух мужыкоў, што ляжаць пад ягоным гняздом на сухой іглiцы, засланай сенам.

Дзень хіліўся да захаду. Сонца высвеціла ўсе тры акны хаты — спачатку першае, ад слівы, потым другое, потым трэцяе. Пагуляла промнямі на слюдзяных шыбах, на блакітных аканіцах, на франтоне з трыма ромбікамі.

— Сцяпан, ты сам зашываў франтон? — спытаў Валодзя.

— Сам.

— І не бачыў, што адну дошку, вунь тую, правей цэнтра, прышыў крыва?

— Ска-а-жаш…

— А ты прыгледзься…

Сцяпан прымружыў вочы. І праўда, калі глядзець адсюль, то трэцяя ад цэнтра дошка нібыта знізу ссунута ўбок і не клалася ў роўны вертыкальны строй усіх астатніх. Як жа так? Ён жа сам прыбіваў, сам меркаваў…

— Мы глядзім з боку. Калі б глядзелі ў лоб — там ніякай касіны, міліметр да міліметра, — сказаў Сцяпан.

Памаўчалі, але нядоўга.

— Валодзя, я не магу болей ляжаць, я пайду.

— Ты пойдзеш па сваю смерць, — адказаў Валодзя.

— Яны галодныя. Маё сэрца чуе: іх мораць голадам. І халадам. Ты бачыш: другі дзень не паліцца ў печы.

— Можа, яны сышлі да тваёй маці?

— Яны не маглі пайсці. Я сказаў, што прыйду і прынясу хлеба. Яны гэта ведаюць. Няхай Анеля — дзіця, а Пётрусь — гэта ўжо мужчына. А тут, бачыш, і ў печы не паліцца. Можа, там ужо нікога жывога няма…

— Як рошыш. Калі што, я іх прышыю, — Валодзя паказаў вачыма на кулямёт, які стаяў побач на раскірэчаных ножках. Талерка дыска пляската, як шыя ў кобры, раздзімалася над ствалом. Сцяпан ведаў: калі хопіць патронаў, Валодзя прышые ўсіх, каго трэба прышыць.

— Я не пайду напрасткі і сялом. Я падыду з балота, з-за хлявоў. Калі там засада, яна чакае мяне ноччу, а не повідну. А я вось так, сярод белага дня, — Сцяпан прыўзняўся на калені, паляпаў Валодзю па плечуку: — Усё будзе добра.

Валодзя павёў плечуком — не то пагаджаўся, не то сумняваўся.

— Ладна. Ідзі.

— Аўтамат я не буду браць. Днём, у сяле, з аўтаматам… Хай застаецца тут…

— Ну, брат… — Валодзя хацеў яшчэ нешта сказаць, але Сцяпан ужо ступіў за елку. Ступіў і прапаў, як растварыўся ў лесе.

Валодзя ізноў прылёг на сена, доўга глядзеў у прагал між камлямі крайніх ад поля елак. Глядзеў не столькі на хату, як на тыя тры ромбікі ў франтоне. Непрыгожа яны чарнелі. Калі ёсць небяспека, то яна там, за імі. І гэта дошка… Як ён мог так коса яе прышыць?..

Валодзя падсунуў да сябе кулямёт, развярнуў раструбам у бок пасёлка, на Сцяпанаву хату, пацягнуў на сябе рамку прыцэла. «Колькі тут метраў? Сто ці болей? Соткі метраў шэсцьдзясят, вуліца дваццаць, і тут, да сотак… Значыць, сто… Возьмем сто дзесяць». Зноў зірнуў на хату з ромбікамі.

І убачыў Сцяпана. Які малайчына! Сцяпан, як прыліплы, сунуўся па сцяне хаты, з-за вугла да дзвярэй. Пастаяў ля дзвярэй, відаць, слухаў, што там, у сярэдзіне хаты. Пацягнуў на сябе дзверы і знік за імі.

Было ціха ў сяле, ціха ў лесе. Так ціха, што Валодзя чуў, як шуміць кроў над вухам: «Шушу-шу!».

Анеля ўбачыла бацьку адразу, як толькі ён адчыніў дзверы. Яна ляжала на ложку пад тоўстай коўдрай — двое чорных вачанят над зялёным прасцiрадлам. У нагах кажух — яго стары кажух. Пётрусь ляжаў побач, адвярнуўшыся да сцяны. Ён спаў.

Анеля ўскінула вачыма ўгору, на столь. Бацька зразумеў яе, кіўнуў галавой. Нячутна ступаючы, падышоў да ложка, прыгарнуў вольнай рукой падатлівыя дзіцячыя костачкі. На другім плячы ў яго была торба з бульбай. Зняў торбу, паклаў на лаўку, паказаў на яе вачыма. Дачка заківала галавой. Пастаяў, нешта думаючы.

— Нам не даюць выходзіць, — прашаптала дачка.

Бацька прыклаў палец да губ: «Ціха!» Сказаў аднымі губамі:

— Ідзіце да бабы.

Яшчэ раз прыціснуў дачку да сябе, зірнуў на сына. Спіць… Хай паспіць. Паўтарыў:

— Ідзіце да бабы.

Анеля пільна паглядзела на яго, быццам хацела пра нешта спытаць, але прамаўчала. Над галавою было глуха. Сцяпан яшчэ раз прыклаў палец да губ: «Маўчок!» Ён заўсёды рабіў так, калі між ім і дачкой была нейкая тайна. Анеля па-змоўніцкі кіўнула галавой.

Чаму яго павяло на вуліцу, Валодзя не разумеў.

— Дурань, што ты робіш?!.

Вароты ў двор былі расчынены, і ў гэтым было непарадак. Не трацячы шмат сілы, Сцяпан прыўзняў іх, вярнуў на месца, як яны і павінны былі стаяць, і вароты рыпнулі. Відаць, гэтага голасу хапіла, каб разбудзіць тых, на гарышчы. Праз ромбікі яны ўбачылі, як за варотамі павярнуўся і спакойна пайшоў па вуліцы чалавек — высокі, крутаплечы, у куфайцы. Ды гэта ж ён, Сцяпан! Здаецца, і ў Цераболі ўсё зрабілі, каб узяць, а не ўзялі. Выслізнуў. І тут маглі праспаць… Бач, да дзяцей пацягнула, сволач. Пацягне, мы гэта ведалі. Вось ён, колькі тут — дзесяць, пятнаццаць метраў?.. Трое сутак прымусіў мерзнуць, падла. Але дачакаліся. Лепшай удачы не дачджэшся!.. Цікава, здагадваецца ён пра засаду ці не? Канечне, не. Калі б здагадваўся, не падстаўляўся гэтак адкрыта, спіной, у куфаечцы… без аўтамата…

Чарга была кароткая і злая. Прашытая дзясяткамі куль куфайка на Сцяпанавых плячах проста ўліпла ў цела. Здавалася, што гэта і не кулі прайшліся, а дождж касым наваротам сыпнуў жменю кропель, пакінуўшы на куфайцы часты шнурок ад правага пляча да паясніцы і ніжэй.

Сцяпан яшчэ змог развярнуцца, каб глянуць на свае тры ромбікі, на тры белыя акны, і ткнуўся плячом у снег.

Валодзя ўсё гэта бачыў. Ён бачыў і тое, як касая дошка ў франтоне ад'ехала ў бок яшчэ больш і ў шчыліну высунуўся чорны ствол аўтамата. Стралялі адтуль.

Ён чакаў.

І дачакаўся.

Дзверы хаты раптам адкінуліся, быццам іх выбілі нагой, і на вуліцу выскачылі двое з аўтаматамі, у белых форменых кажушках. Яны схапілі Сцяпана за руку, перавярнулі на спіну. Ён, мусіць, яшчэ дыхаў, бо адзін з двух прыставіў дула аўтамата да разяўленага рота і націснуў на курок.

Той чаргі Валодзя не пачуў. Яна злілася з яго кулямётнай — глухой і зацятай доўгай. Густое рэха падхапіла і панесла яе па лесе. Валодзя глядзеў над прыцэлам і бачыў, як падскочыў угору адзін белы кажушок, потым другі, і як яны вяла, быццам замарожаныя, сталі класціся на снег побач са Сцяпанам…

Кулямётная чарга сарвала з елкі коршака, і ён плаўна пайшоў над полем. Знізу Валодзя ўбачыў, які ў яго шырокі размах крылляў і якое прыгожае пер'е — жоўта-белае спадыспаду, з круглымі чорнымі разводамі, як у бабы на святочнай спадніцы.

Як і ў тыя разы, коршак крута развярнуўся над полем і паляцеў у лес.

А з хаты з голасам выбягалі хлопчык і дзяўчынка.

# Пазнай сябе



Гіём АПАЛІНЭР

### Мост Мірабо

*Пад мостам Мірабо хвалюецца Сена*
*І наша с табою каханне*
*Мне не забыцца б што ўсё летуценна*
*За боллю і радасць крочыць нязменна.*

*Ноч ідзе, гадзіннікі б'юць*
*Я застаюся, гады бягуць*

*Рука ў руцэ, застаемся побач*
*У той момант калі*
*Пад мостам з нашых рук знікае прэч*
*Зморaная хваля людскіх вачэй*

*Ноч ідзе, гадзіннікі б'юць*
*Я застаюся, гады бягуць*

*Каханне знікае як хвалі няўмольна*
*Каханне знікае*
*Толькі жыццё такое павольнае*
*Толькі надзея такая свавольная*

*Ноч ідзе, гадзіннікі б'юць*
*Я застаюся, гады бягуць*

*Мінаюць тыдні і дні нібы ў пене*
*Ні час што мінае*
*Ані тое каханне ніхто не паверне*
*Пад мостам Мірабо не спаволіцца Сене.*

### Акампанемент

*Я ўлоўліваю зрэдчас гукі цішыні*
*Агучваю словы сабе*
*Вытокі крыніц самотна кахаю з далечыні*
*Ды ўсё ж такі з часам надзея слабее*




*Слова Эль пранікае ў яе, нібы імя анёла*
*О простасць*
*Неба, якое яна мроіць, як мёд зёлак*
*Водар мёду, як весняга неба бязмежнасць.*

### Каханне

*Пярсцёнак на безыменным пальцы*
*Пасля пацалунка з прызнаннем*
*Гэтыя губы каххудахкаюць аб вяселлях*
*Світанак у згубленым пярсцёнку з пальца*
*Снядaнак з пялёсткаў руж у тваіх валасах.*

### Святло месяца

*Мёдасачывы месяц з губою вар'ята*
*Сады і вёскі ноччу нібы ласуны заўзята*
*І зоркі дастатня добра ўпадобіліся да пчалін*
*П'юць прамяністы мёд што капае з вінаградных галін*
*Таму што дастатне салодкі і ліецца з нябёс*
*Кожны струмень месяца з сабой таго мёду прынёс*
*Цяпер стоены назіраю вельмі салодкае тое здарэнне*
*Баючыся палючага джала Палярнай пчалы вызвярэнне*
*Якая таемнымі промнямі студзіць у далонях кроў*
*Ды збірае свой мёд месяцовы у ружы вятроў.*

***

*Я быў бы больш лагодны*
*Калі б гара святая не таіла пекла*
*І неба нібы кажух з воўны*
*Але каханне тое суцяшае пенкна*
*Кахання дзірванее сцежка, а я нязменны*

### Сарамлівая Ліза

*Жаркі дзень летам доўгі*
*Дачакаліся сонца за небасхіл*

*Верагодна назаўтра ён не будзе другім*
*Ціхамірна сутонне спаўзло на дарогі*
*І на соннага замка заваражаны шпіль*
*Мы пад вечар стаміліся*
*А ўсё ж дома чакаем*
*бо так соладка пахне вячэра*
*А на золку ў заўтра*
*Да напружанай працы*
*Мы павернемся зноў*
*Але ж*
*Добрыя людзі*

### Клацільда

*Анямона і незабудка*
*Прыгажэюць у садзе*
*Дзе дрэмле смутак*
*У каханні і здрадзе*

*Нашыя цені лунаюць з імі*
*Ноч іх памкне*
*Сонца зробіць іх цёмнымі*
*З імі разам і знікне*






Пазнай сябе

*Бoствы крынічных водаў*
*Спрыяюць плыніцца іх валасам*
*Праходзь абходна каб ты зведаў*
*Гожую цень якую жадаеш сам*

### Рак

*Няпэўнасць, о мая насалода*
*Вы і я, мы йдзем крадам*
*Так як ракам дала прырода*
*Наперад задам, наперад задам.*

### Паўлін

*Гэтая птушка перад прахожым*
*Задрала хвост ходзіць па садзе*
*Падаецца больш прыгожай*
*Але раскрываецца ззаду*

### Васьміног

*Выкідваючы сваё чарніла ў неба*
*Высмоктвае кроў таго каго любіць*
*І лічыць пры гэтым тое хвалебным*
*Гэты нелюдзь-монстр я як дацьпіць.*

### Гадзюка

*Ты азлоблена на прыгажосць*
*Не проста жанчыны, а мілосці*
*Ахвяры тваёй прыгажосці*
*Ева, Эўрыдзіка, Клеапатра*
*Яшчэ назваць многіх патраплю*

### Ідзе дождж

*Ідзе дождж галасоў жанчын нібы яны мёртвыя нават ва успамінах*
*Ідзе дождж у выглядзе вас, цудоўныя сустрэчы майго жыцця. О кроплі.*
*І гэтыя ўздыбленыя воблакі пачалі іржаць як коні на ўвесь свет учутых харадоў*
*Слухай, ідзе дождж, у той час як жальба і папрок плачуць архаічную музыку*
*Слухай, як звальваюцца ланцугі, якія стрымліваюць цябе ў нябёсах і на зямлі*

### Развітанне

*Я сарваў таго верасу трэсачку*
*Восень мёртвая памятай час адчаю*
*У гэтым свеце забудзь на сустрэчу*
*Водар часу верасу трэсачка*
*Памятай я цябе чакаю*

### Званы

*Мой забаўны цыган, мой каханы*
*Слухай званы што звоняць*
*Мы кахаліся так апантана*
*Не датумкалі што там гамоняць*

*Але мы былі дрэнна схаванымі*
*Ды заўважаныя з вышынь званіц*
*Навакольнымі тымі званамі*
*Што разбомкалі ўбачанае да аканіц*

*Назаўтра Кіпрыян і Анры*
*Мары Юрсуль і Кацярына*
*Баханшчыца* і яе муж мандрыл***
*А мо і Гертруда мая кузіна*

*Пасміхнуцца калі я прайду*
*Скажы куды мне вачыма падзецца*
*Ты будзеш далёка я ў слязах упаду*
*Магчыма й памерці таму давядзецца*

* Баханшчыца — утворана мною і падгледжана ад слова буханка, бохан хлеба… ды прозвішча на Пружаншчыне (перакладчык).
** Мандрыл — від малпы; уведзена мною ў верш дзеля рыфмы і камічнасці (перакладчык).

### Скамарохі

*Па раўніне вандроўныя артысты*
*Плятуцца ўсцяж платоў ўрачыста*
*Перад варотамі парадных двароў*
*Праз вёскі без малітвенных дамоў*

*І дзетвара з двара імчыцца ройна*
*А іншыя няспешна пешшу мройна*
*Садовых дрэўцаў вядома не мінаюць*
*Калі здалёк ім тыя яблыкам міргаюць*

*У іх з сабой акрабатычныя снарады*
*Гармонік, бубен, залацістыя нарады*
*Мядзведзь і малпа вушлыя жывёлы*
*Папросяць грошык на шляху вясёлым*

**Пераклаў з французскай (з падрадкоўнікаў Рамана Папекі) Мікола Папека**

# Подпісы



Аляксандр ПАКРОЎСКІ

## Вучэнне

Мароз дзьмуў. (Хто адчуваў, ведае, так сказаць можна.) Чэзлае сонца, памерам з капейку, мутна нешта рабіла скрозь нябесную шэрасць. Пад шэрасцю сядзеў дыверсант. Ён сядзеў на сопцы. На ім былі непраніцаемы камбінезон, футрам унутр, з башлыком і электрападагрэвам. І чаравікі на ім таксама былі. Высокія. Непрамакаемыя, нашы. І дыверсант таксама быў наш, але прыцягнуты з боку — з дыверсійнага атраду. Начаваў ён тут жа. У нашым снезе. А цяпер ён еў. Тупа. З нашай бляшанкі кансервавай. Ён нешта ў ёй адкруціў-павярнуў-адчыніў і стаў есці, бо бляшанка сама адразу ж і разагрэлася.

Шырака і павольна рухаючы конскай сківіцай, дыверсант тым часам глядзеў у падножжа. Сопкі, натуральна. Ён чакаў, калі яго адтуль возьмуць.

Ішоў трэці дзень вучэння. Ішоў няўмольна. Нашы вучыліся адбіваць напад — гэткіх вось электра-рыба-коней — на нашу ваенна-марскую базу.

Быў створаны штаб абароны. Была створана апаратыўная частка, якая і лавіла гэтых запрошаных коней з дапамогай зборнага звязу ўсходніх ваўкарэзаў.

Даведка: усходні ваўкарэз — дробны, сухі, вынослівы, адважны. Прыгожы. Па-свойму. Адзін метр з чвэрцю. У холцы. А галоўнае — не думае. Учапіўся — і намёртва. І галоўнае — яго шмат. Колькі хочаш, столькі і бяры, і яшчэ застанецца.

Ваўкарэзаў узялі з розных месцаў у шынялях з дзягай, у ботах з фланэлевымі анучамі на звычайную нагу, накармілі на берагавым камбузе, звычайна ежай, якую можна есці толькі з ідэйнай пераканананасцю, і пусцілі іх на дыверсантаў. Толькі рукавіцы ім забыліся выдаць. Але гэта дэталі. І потым, у матроса з краіны Ваўкарэзіі рукі мерзнуць толькі першыя паўгода. А калі вы маеце нешта сказаць наконт ежы, дык мы вам на гэта адкажам: калі войска добра карміць, то навошта яго трымаць?

Ішоў трэці дзень вучэння. У першы дзень група не нашага захопу, апранутая ва ўсё наша, прарвалася ў штаб. Прарвалася яна так: падзялілася напалам, пасля чаго адна палова ўзяла ў палон другую і павяла проста паўз штаб. А намеснік камандуючага ўбачыў праз акно, як кагосьці вядуць, і крыкнуў:

— Байцы! Каго вядзеце?!

— Дыверсантаў злавілі!

— Малайцы! Усім аб'яўляю падзяку! Вядзіце іх проста да мяне!

І яны прывялі. Проста да яго. Па дарозе захапілі штаб.

На другі дзень вучэння «рыбы» падплылі з боку палярнай ночы і сцюдзяной вады і «замініравалі» ўсе нашы караблі. Апошняя «рыба» выйшла на бераг, пераапранутая ў форму капітана першага рангу, правяраючага, па дакументах, і, праверыўшы ПКЗ, нарэзала верхняму вахценнаму... не-не-не — толькі сектар назірання за воднай роўняддзю. А то ён не туды глядзеў. Толькі сектар, і больш нічога. І каб увесь час! Як прыпаяны! Не міргнуўшы. Назіраў каб. Неадрыўна. Во-о-сь у той бок.

І вахценны назіраў, а «таварыш капітан першага рангу, правяраючы» зайшоў заадно да камандзіра дывізіі, штаб якога размяшчаўся тут жа, на ПКЗ. (Па дарозе ён спытаў у службы: «Пільнуеце?!» Тыя адказалі: «Пільнуем!» — «Ну-ну, — сказаў ён, — трымайцеся!» — і падняўся наверх.) І арыштаваў камандзіра дывізіі, выцягнуў яго праз вакно, спусціў з процілеглага сектару і звёз на лодцы-надзіманцы. Пры гэтым, кажуць, лодку надзімаў сам камандзір дывізіі пад назіраннем «правяраючага». Ілгуць. Лодка была ўжо надзьмутая і стаяла разам з веслярамі ля скінутага адмысловага шторм-трапіка. Такога, шаўковага. Вельмі зручнага. Добрая лодка. Мара, а не лодка.

Вахценны бачыў, натуральна, што не ў яго сектары рухаецца нейкая лодка, але адказваў ён толькі за свой сектар і таму не дакладваў. Так скончыўся другі дзень.

На трэці дзень трэба было ўзяць дыверсанта. Жывым. На сопцы. Вось ён сядзеў і чакаў, калі ж гэта здарыцца. А нашы стаялі ля падножжа, паказвалі на яго і раіліся ўзбуджана. Нашых было чалавек дваццаць, і яны ўражвалі сваёй рашучасцю. Разам са старэйшым. Ён таксама ўражваў.

— Абкружыць сопку! Касымбекаў! Заходзь! — нарэшце закамандаваў старэйшы, і яны пачалі абкружаць і заходзіць.

Ваўкарэзы варочалі снег, тонучы ў ім па грудзі, плылі ў ім і няўмольна абкружалі. Наперадзе быў Касымбекаў. Не прайшло і сарака хвілінаў, як першы з іх падплыў да дыверсанта. Першы радасна ўсміхаўся і задыхаўся.

— Стой! — сказаў ён. — Рукі ўгору!

Пасля гэтага сілы ў яго скончыліся, а ўсмешка засталася.

Дыверсант скончыў есці, устаў і ўбрыкнуў першага. У наступныя пятнаццаць хвілінаў да таго месца, дзе раней стаяў першы, падышлі астатнія. Яшчэ дзесяць хвілінаў былі прысвечаныя таму, што ваўкарэзы, уваходзячы ў сутыкненне з дыверсантам, не перастаючы ўсміхацца і азартна, па-ўсходняму крычаць, узляталі ў паветра, мільгаючы анучамі, а потым яны мялі кусты і ляцелі, круцячыся, уніз, і анучы накручваліся ім на шыі. Гэта было цудоўна! Потым дыверсант здаўся. Ён сказаў: «Я здаюся».

І яго ўзялі. Жывым. Упакавалі і панеслі на руках.

Так скончыўся трэці дзень.

З гэтага дня мы пачалі перамагаць.

## Подпісы

На флоце не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць.

— Дзе? Тут? — пытае старпом і, размахнуўшыся, ляскае пячатку зусім не туды, дзе шкрабе паперу палец камандзіра падраздзялення.

— Ды не там жа! — хапаецца за вушы і канькае камандзір падраздзялення. — Вось жа дзе трэба было! Тут жа напісана! Усё перарабляць!

— Раней трэба было казаць, — робіць сабе адказны твар старпом і закручвае пячатку.

Не, на флоце не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць. Але затое на флоце ўмеюць распісвацца. У якім заўгодна аморфным стане, і нават без усялякага стану, вайсковец на флоце не губляе здольнасці маляваць тыя каракулі, у якіх нават яго сваякі не пазнаюць прадстаўніка іх цудоўнай фаміліі.

Флот моцны сваімі подпісамі. Дзе ён іх толькі не ставіць. На якіх толькі паперках ён не падпісваецца. Асабліва ў журналах інструктажу па тэхніцы бяспекі. Колькі ў нас гэтых журналаў інструктажу — гэтага ніхто не ведае, і падпісваемся мы за гэты інструктаж калі заўгодна. Паднясуць журнал у любы час дня і ночы — і падпісваемся. Скажуць:

— Вось тут крамзані, — і крамзанеш, нікуды не дзенешся.

На вялізным падводным крэйсеры ішоў прыём боезапасу: машынка тарпеда-пагрузачнай прылады вішчэла, як парася, у тумане, і тарпеда лянівай пачварай спаўзала ў корпус.

— Міністр абароны? Таварыш маршал Савецкага Саюза, дакладвае маёр Носатыкін... Так, таварыш маршал, так! Як я ўжо дакладваў. П'е!... Так... Штодня... Прашу дазволу... Ёсць.... Ёсць расстраляць... Па месцы жыхарства паведамім... Прашу дазволу прыступіць... Ёсць...
Камендант паклаў слухаўку.
— Памочнік! Дзе ў нас кніга расстрэлаў?.. А-а, вось яна...

Сярод агульнага вэрхалу і мітусні позірк правяраючага абавязкова намацаў бы Коцьку Брулова, па мянушцы Лятала. Лейтэнант і мінёр Коцька быў ад прыроды ўзнагароджаны летуценнасцю — рэдкая якасць сярод славутага статку айчынных міна-тарпедзёраў.

— Апрытомнейце! Вы зачараваны! — перыядычна гарлаў яму ў вуха камандзір.

Коцька палохаўся, пачынаў камандаваць, і ўсё ішло наўкос. А потым ён ізноў непрытомнеў і ў мроях далёка лётаў.

І раптам ён спалохаўся самастойна, без камандзіра: яму здалося, што той крадзецца да яго вуха. Коцька сшалела ўзмахнуў рукамі, як дырыжор, і адна рука ягоная, разам з рукавіцай, трапіла туды, куды яна ніяк не павінна была трапіць: у працуючую машынку.

Рукавіцу зацягнула, і Коцька зароў. Роў ён добра, гучна і бесперапынна. Ён роў і тады, калі ўсё спынілі, а руку вырвалі і агледзелі.

На гукі Коцькі з люку нетаропка выпаўз тоўсты памочнік камандзіра з журналам інструктажу па тэхніцы бяспекі пад пахай. Ён быў падобен да старога, тлустага, мудрага пацука, што сунецца забраць сыр з лапаў толькі што прыхлопнутага мышапасткай таварыша.

— Не раві! — сказаў ён нягучна і мудра, падыходзячы непасрэдна да Коцькі. — Чаго равеш? Спачатку падпішы, а потым раві.

Пасля гэтых словаў Коцька, звар'яцелы ад болю, чамусьці перастаў раўці і распісаўся там, дзе была падрыхтавана птушачка.

— Вось цяпер, — сказаў памочнік, пераканаўшыся ў наяўнасці подпісу, — раві, дазваляю, — і гэтак жа нетаропка знік у люку.

Перанясемся праз дзесяць гадоў на той жа човен, у той жа першы адсек. Што мы бачым? Ну, перш за ўсё камандзіра першага адсеку міна-тарпедзёра Коцьку, пагублялага мрої і валасы, узнагароджанага болем у душы і ў страўніку, мірна дрэмлючага ў чаканні пераводу да новага месца службы, і яго выдатнага мічмана, што зацягвае адмысловай рукаяткай тарпеду ў апарат.

Усе тарпедысты ведаюць, якая яна падступная, рукаяць. Яна валодае зваротным ходам. Зваротны ход бывае толькі ў лоб.

Мічман чамусьці адпусціў рукаяць — ці то пот выціраў, ці то чухаўся. Цяпер гэта ўжо цяжка ўдакладніць. Рукаятка зрабіла «бум!» — зваротна і ў лоб.

Пасыпаліся іскры, ад якіх мічман на час аслеп; ягоны твар з крыкам ператвараўся ў адзін вялікі гуз.

І што ж зрабіў наш славуты камандзір Коцька? Ён кінуўся да... журнала інструктажу. Ён ліхаманкава знайшоў патрэбную графу і ўбачыў, што там няма подпісу. Ён упацеў ад прадчування. Ён падсунуў сляпому ад усё яшчэ сыплючыхся іскраў падначаленаму журнал, уклаў у рукі асадку і сказаў:

— Не вый! Вось тут... распішыся.

Мічман спыніў выццё і распісаўся навобмацк, пасля гэтага ён быў уратаваны. Пасля подпісу яго перавязалі.

## «...Расстраляць!»

Ранак канчаткова запоўз у акенца і ажывіў замураваных мух, лёс счытваў дні па зашарпаным спісе, і камендант горада Н., заімшэлы маёр, пачуваўся неяк сумна, як, мабыць, адчувае сябе адслужылае бульбяное бацвінне.

Яго валасы, вочы, вусны-скулы, шыя-вушы, рукі-ногі — усё казала аб тым, што яму пара: ці задушыцца, ці дэмабілізавацца. Але дэмабілізацыя, непазбежная, як гамон капіталізму, не рабіла насустрач ніводнага кроку, і дні цягнуліся, як калідоры гаўптвахты, выфарбаваныя шаравай фарбай, і капалі, капалі ў пабітае цемя.

Камендант даўно быў істотай круглай, але ўсё яшчэ марыў, і ўсе яго мары, як яму казалі, з плачам чапляліся толькі за асляпляльны падол яе вялікасці мадам дэмабілізацыі.

Дзверы — у іх, натуральна, пастукалі — адчыніліся якраз тады, калі ўсе мары каменданта ўсё яшчэ былі на падоле, і камендант азірнуўся на свайго памочніка, маладога лейтэнанта, што стаяў побач, і вылупіўся насустрач знаёмым неспадзяванкам.

— Прашу дазволу, — у дзвярах узнік заношаны старшы лейтэнант, які, патаптаўшыся, завалок за сабою салдата, трымаючы яго за каўнер, — вось, таварыш маёр, п'е! Кожны дзень п'е! І ўвогуле, таварыш маёр...

Голас старлея закалыхаў бы каменданта да канца, калі б цягнуўся не пяць хвілінаў, а дзесяць.

— П'еш? Га, ваяр-стваральнік? — камендант тужліва закусціўся і ўперыўся салдату ў лоб, туды, дзе па яго меркаванні, павінны былі быць відавочныя прыкметы сярэдняй адукацыі.

«Быдляцтва», — падумаў камендант наконт таго, што яму не давалі дэмабілізацыі, і са стогнам ухапіўся за абкусаную слухаўку тэлефона: яна была такой сцертай, быццам камендант валодаў драўлянымі вушамі.

— Масква? Міністра абароны... так, пачакаю...

Памочнік каменданта — свежы, хрусткі, толькі з дрэва лейтэнант — са страхам здзівіўся, — так бывае з людзьмі, да якіх на ўслон пасля абеду, калі хочацца зрыгнуць і падумаць аб палітыцы, на самы краёк падсядае вар'ят.

— Міністр абароны? Таварыш маршал Савецкага Саюза, дакладвае маёр Носатыкін... Так, таварыш маршал, так! Як я ўжо дакладваў. П'е!... Так... Штодня... Прашу дазволу... Ёсць.... Ёсць расстраляць... Па месцы жыхарства паведамім... Прашу дазволу прыступіць... Ёсць...

Камендант паклаў слухаўку.

— Памочнік! Дзе ў нас кніга расстрэлаў?.. А-а, вось яна... Тэк... прозвішча, імя, імя бацьку, год і месца нараджэння... хатні адрас... нацыянальнасць... партыйнасць... Дзе ў нас план расстрэлу?

Камендант знайшоў нейкі план, потым палез у сейф і выцягнуў адтуль пісталет, тузануў затвор і паклаў побач.

Памочнік, вылазячы з арбітаў, затрымцеў сваёй ніжняй часткай, а верхняй — гіпнозна ўтаропіўся каменданту ў патыліцу, у самую мазгаўню, і па кроплях наліваўся жахам. Кожная новая кропля пякла.

— ...Тэк... плануемае мерапрыемства — расстрэл... удзельнікі...тэк, месца — пляц, наглядныя дапаможнікі — пісталет Макарава, шаснаццаць набояў... кіраўнік — я... выканаўца... Памочнік! Чуеш, лейтэнант, сёння твая чарга. Прывыкай да нашых баявых будняў! Расстраляеш гэтага, я ўжо дамовіўся. Распішыся вось тут. Прывесці ў выкананне. Як яго шлёпнеш...

Камендант не дагаварыў: абодва целы рухнулі; уражлівы лейтэнант — проста, а салдат — з пахам.

Камендант доўга ліў на іх з графіна ваду з мухамі.

Яго звольнілі ў запас праз месяц. Камендант пашыхтаваў гаўптвахту ў апошні раз і заявіў ёй: калі б ведаў, што ўсё так проста, пачаў бы страляць іх гадоў пяць таму. Пачкамі!

**Пераклад з расійскай Паўла Ляхновіча**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (97) | 26 верасня 2014 | № 36 (405) Новы час

# Галавою на карабіне

## Да 70-годдзя Варшаўскага паўстання

**Прапануем вашай увазе вершы двух польскіх паэтаў, прадстаўнікоў так званага пакалення Калумбаў, — пакалення, якое сталела і творча фармавалася ў эпоху паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Многія з іх, як Кшыштаф Каміль Бачыньскі, вайны не перажылі, і іх творы застаюцца ўзорамі пошуку сябе ды новых формаў і сродкаў выразнасці ў «эпоху спраўджанага Апакаліпсісу».**

Кшыштаф КАМІЛЬ БАЧЫНЬСКІ
(1921–1944)

### Позірк

*Усё мінула. Час забыты*
*і ўжо няісны. Толькі ў люстрах*
*сплывае змрок ва ўсе адбіткі*
*мае — і стыне, злосна, пуста.*

*Я ведаю сябе напамяць,*
*мяшаю з будучым былога,*
*нібыта паміраю з імем*
*недагаворанага Бога.*

*І зноў сядзім чацвёра ў коле,*
*і дождж планетаў дахі крышыць;*
*цяжкі пагляд навіс пятлёю,*
*і хмарай — ціша.*

*І першы з нас — той я, якім*
*я пакахаў, і свет дзівосна*
*мне воблакам квітнеў сівым,*
*агнём у снах, і быў я просты.*

*Другі — той я, што страх спазнаў,*
*каго нянавісць нарадзіла,*
*і бляск кінжальнага ляза —*
*не слёз — у позірку застылым.*

*А трэці бачны, нерухомы,*
*у люстры слёз, яго разломах,*
*і боль мой — змрок, што не міне.*

*Чацверты мне нібы знаёмы,*
*і ён навучыць зноў пакоры*
*мой час, якому ўжо канец,*
*і дух мой, невылечна хворы*
*на смерць, што спеліцца ўва мне.*

**18 кастрычніка 1943**

### Дождж

*Дождж — сівыя сцябліны, шэры шум,*
*а ля вокнаў — смутак і кананне.*
*Ты любіш дождж такі і шоргат струн,*
*дождж — літасць і маўчанне.*

*А там цягнікі ізноў імкнуцца ў далеч, —*
*ды без цябе. Чаму ж? Чаму ж? —*
*садамі вод у рэкі жалю,*
*ў алеі крышталёвых руж.*

*Чакаеш ты? Яшчэ чакаеш?*
*Дождж — літасць: змые ўсё бясследна —*
*і бітваў кроў, і нас, і ў камень*
*сцвярдзелае ад мук паветра.*

*А ты яшчэ ля вокнаў марыш,*
*ты — камень надмагільны ўласны.*
*Сціраецца, сплывае з твару —*
*даждджом? слязьмі? — пячатка часу.*

*Па тым, што ўдар замала болю*
*нясе ў глухой птушынай ноце,*
*што не такой хацеў любові,*
*што гэты плач — нібыта з плоці.*

*Што грэх сляпы і незваротны —*
*віна віну збірае ў кола, —*
*і што нібыта ля касцёла*
*здань прамільгнула сном самотным.*

*Я ў шолаху шкляным адчую:*
*з-пад ног зямля сплывае ў пошум.*
*Сябры збяруцца ў даль нямую*
*з крыжамі — іх адзінай ношай.*
*Ля іншых дождж сцяною стане,*
*астатніх прорва цемры прыме —*
*плывуць за шклом, што як са сталі,*
*чужыя твары міма, міма...*

*І прыйдзе дождж сцінаць і раніць —*
*як косы, струмяні сляпыя;*
*і змрок накрые, змрок абмые...*
*Я, што любіў, змагаўся, плакаў,*
*стаў ля вытоку-студні ўранні,*
*пад пугай слоў пустых — сабакам;*
*ва ўладзе грознага маўчання.*

*Не пакаханы, не забіты,*
*недасканалы, недарэчны,*
*я чую дождж — ці плач сардэчны, —*
*аб тым, што свет — для Бога марнасць.*
*Адзін, стаю да цемры тварам,*
*а кроплі падаюць бязгучна —*
*усё лягчэй, не так балюча.*

**Скончана 21 лютага 1943**

### Галавою на карабіне

*Я ў начной адчуваю стыні,*
*як мацней сціскаецца кола...*
*А мяне ж разьбавалі плыні,*
*зыбка хмар люляла над долам.*

*Гэта мне нястрымныя воды*
*на сваіх ланжэронах неслі*
*бузіну; навальнічны подых*
*быў усмешкай мне з паднябесся.*

*Страшны свіст чую вечна побач —*
*кола вострa пад горла коле...*
*Як і ўсім, зямля не пустэльняй*
*мне была, а ўрадлівым полем.*

*Пакідаючы дымны водар,*
*маладосць раставала шлейфам —*
*лютым сынам свайго народа*
*я на краі смерці сталею.*

*Як нажом, яшчэ да змяркання*
*мне святло перарэжа колам —*
*і разьбу я прасплю сляпую,*
*карабін падклаўшы пад голаў.*

*Папалам вастрыём расцяты,*
*у крыклівым падзеяў гудзе*
*кіну я галаву — гранатай,*
*час расцісне мне лапай грудзі,*

*бо жыццё напаўняла страхам,*
*а адвагаю — блізкасць згубы;*
*лёс твой — смерць, калі веліч справаў*
*неразумнай любоўю любіш.*

**4 снежня 1943**

***

*Восень — падзенне з галінаў зор,*
*лісця змяіная мова.*
*Возіць каўчэг праз рачны прастор*
*ссечаных поўняў галовы.*

*Іхтыязаўрамі ў згаслы час*
*трунаў паўзуць кагорты;*
*падае неба, і слепіць бляск*
*белыя вочы мёртвых.*

*А ён занураны ў сон цяжкі —*
*каменны, як века урны;*
*бачыць замшэлыя ледавікі,*
*а думае — гэта труны.*

**Пераклала з польскай**
**Кацярына Мацееўская**

### Самотная смерць

*Гэта горад падзей васковых, дзе мёртвых ластавак здані*
*прачарцілі ў паветры крывыя палётаў.*
*Чорнай далоні ўдарам па ночы — полі змагання —*
*я іду праз абозы смяротных намётаў.*
*Дзе ластавак сон загінуў, прылеплены да хмараў?*
*Дзе скінуўў трывогу? У вулках апраметных?*
*Вось дзень арэхам цвёрдым схапілі ў пашчы львы,*
*каменныя львы на пастаментах.*
*Нязнаная, у небе плывеш ты арыёнам.*
*Ад рэчаў цягне жахам, мярцвее зорны бляск.*
*Задушлівая рэчка знікае ў зорным громе.*
*Пакутліва я блякну ў прасторы, нібы газ.*
*Іду ў завулак снежны, ля ног маіх ён крочыць,*
*і на скразную рану з вачніцаў вее вецер.*
*Далей не трэба, Божа, — бо там прадонне ночы*
*і ад брудных каналаў цягне самотнай смерцю.*

**Снежань 1940**

### У лясах

*Я лясамі хаджу, не нагой ступаю, а лапай,*
*і ў цеснай нары я сапу і мару аб леце.*
*Гэта праўда, што да патопу рыбай я плаваў,*
*а цяпер зрабіўся ваўком, што любіць кветак?*
*Водар у поўсці вострый. Сосны плывуць бязмоўна.*
*Вам у вочы гляджу, і крок мой робіцца векам.*
*Там, дзе лес выходзіць раптам у ліловы дзядоўнік, —*
*паляўнічы з сабакам, што таксама быў чалавекам.*

**Лістапад 1940**

***

*Ты быў старым вялікім дрэвам,*
*народзе мой, як дуб высокі,*
*агнём наліты спелых сокаў,*
*як дрэва веры, сілы, гневу.*

*Цябе пагаблявалі цеслі,*
*разцом падрэзалі карэнне,*
*каб стаўся ты пачварным сненнем,*
*каб новы кшталт табе прынесці.*

*Табе ўзяліся лісце дзерці,*
*каб голым ты стаяў да смерці.*

*Табе ў вачах агонь згасілі,*
*каб погляд не пазбыў іх сілы.*

*Табе крышылі ў попел цела,*
*каб жыць без Бога не хацела.*

*І ты застаўся сам, абдзёрты,*
*як мёртвы воблак у няволі,*
*стаў напаўхворы, напаўмёртвы,*
*пабіты пугай, жахам, болем.*

*У большасці — па свеце гнаны,*
*у любасці — камель трывалы,*
*ты кіпці паўбіваў у раны*
*сваёй зямлі. І сніш няславу.*

*Ды круціцца гадзіннік неба*
*і час у шчыт грукоча зброяй,*
*ты ў бляску неба скаланешся,*
*і скажа сэрца: я жывое.*

*Як Бог, падымешся з магілы,*
*і ў скроні кроў заб'е сярдзіта, —*
*і вось зямля табе адкрые*
*абдымкі. Людзе мой! На бітву!*

**Красавік 1943**

**Пераклала з польскай Ганна Янкута**

Тадэвуш БАРОЎСКІ (1922–1951)

### Ноч над Біркенаў

*Зноў ноч. І зноў нябёсы змрочна*
*кружляюць грыфам, сочаць зверам.*
*Над лагерам, над цішай ночы,*
*заходзіць месяц трупам шэрым.*

*Як шчыт, пакінуты у сечы,*
*бляднее Арыён між зораў,*
*машыны ў цемры глуха крэкчуць,*
*вачыма свеціць крэматорый.*

*Спякотна й душна. Сон як камень.*
*Няма як дыхаць. Хрыпы ў горле.*
*І грудзі ціскай, бы нагамі,*
*мне трушчаць тры мільёны мёртвых.*

*Бясконцы змрок. Няма дасвецця.*
*Перад вачыма — сноў сцяна.*
*Як Страшны Суд, у трупным свеце,*
*сышоў туман на Біркенаў.*

### Нявесце

*Неба — з дошак, далеч — сцяною вільготнай,*
*а ў гаях за дротам, што токам да краю наліты,*
*івалгі тонкі пасвіст чуецца ў шэпце лістоты,*
*і вецер хавае ў траве чалавечы попел блакітны.*

*Карціна лета чаруе. Сонца заходы і ўсходы —*
*нібы стракаты ахапак летніх сукенак з паркалю.*
*Па-над балотамі кружаць гусей вандроўныя чароды,*
*над пашай, духмянай і свежай, яны кірууюцца ў далеч.*

*Адкрыецца свет, як далонь. А за страшнай мяжой*
*у шызых лясах наліваюцца сокам суніцы,*
*аранжавы дах у срэбным зяленіве льсніцца —*
*вясёлы і светлы малюнак з усмешкай чужой.*

*Якое ж дзіва — каханне, душ нашых ціша і лавіна,*
*што нас, бы галінкі на хвалях, па свеце нясе і кружляе,*
*тут мы — як дзеці, якія згубіліся ў лесе без краю,*
*як дзеці з казкі пра дзетак і хатку на лапах курыных.*

*Чым ёсць страх чалавека і крыві баязлівай ход,*
*калі трэба глядзець у ноч, бы ў пажар ашалелы,*
*у жылах спыняецца ток, і крывёю пульсуе дрот,*
*і гараць штабялі з людзей — смалістых паленаў.*

*Цягнецца новы абоз. Вагоны, баракі і газ.*
*За ваду і паветра золатам плацяць ахове.*
*Так легенда, кашмар і казка перапаўняюцца ў нас,*
*каб нашчадкі з пагардай не верылі потым ні слову.*

*Тут барак, людской свежынёю шчыльна набіты,*
*жывым чалавечым прахам. Агульныя міскі і нары,*
*агульныя страх і надзея, спякота і нізкія хмары,*
*і аднолькава рукі дрыжаць над кормным карытам.*

*І я, што пяю чалавека, аглядаю барак*
*і лаўлю легенду і міф, як імклівага птаха,*
*ды ў чалавечых вачах дарэмна вышукваю знак.*
*Тут толькі зямля, літр супу і цемра барака.*

*Тут толькі цела і ёсць. Тут толькі цела і попел,*
*тут толькі неба абсяг, што так і просіцца ў вочы.*
*Мы ўсе — чужаніцы з розных краінаў Еўропы,*
*мы ў зямлі памерлых агульнай дарогаю крочым.*

*Тут толькі цела і ёсць. Твар закрываю рукамі*
*і чую, што цела чужое, нібы чужая стыхія.*
*Лірызм ува мне параненай птушкай сціхае,*
*слабее — і кліча, і шэпча словы сухія.*

*Тут флегмоны і тыф, тут вагоны, баракі і газ,*
*тут нічыйныя рэшткі попелам вецер накрые.*
*Тут нараджаецца эпас, трагічны здзяйсняецца час.*
*Твар закрываю рукамі. Маўчу. Так, я жывы, Марыя.*

**Пераклала з польскай Ганна Янкута**

# «На высокай гары…»

**Верш Гальяша Леўчыка, прысвечаны Антону Луцкевічу**



Гальяш Леўчык

Нават і не памятаю, як у мой хатні архіў трапіла копія паштоўкі слонімскага паэта Гальяша Леўчыка (1880–1944). Гэтую паштоўку паэт напісаў і выслаў аднаму з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў ХХ стагоддзі, гісторыку, літаратуразнаўцу, публіцысту Антону Луцкевічу.

Паштоўка са Слоніма дасылалася ў Вільню на Беларускі музей 18 красавіка 1938 года на Вялікдзень. З аднаго боку паштоўкі змешчаны ліст Гальяша Леўчыка да Антона Луцкевіча. Гальяш Леўчык паведамляў: «Паважаны Дзядзька Антон! Будучы ў Вільні, я даў Вам кніжку свежа выдануюў Варшаве, IV том «Lud Bialoruski» Федароўскага, просячы Вас, каб Вы былі ласкавы і напісалі, і выдрукавалі дзе ў нашай прэсе аб ёй рэцэнзію. Вы сказалі, што хтосьці там ужо напісаў, але рэдактару яе ідзе аб тое, каб у белар. часопісе дзе была яна надрукована, бо я без яе не буду магчымасці зайсці да яго, будучы ў Варшаве. Мо зробіце мне і яму гэту прыхільнасць і прышлеце яе мне, буду век удзячны! І дайце мо выдрукаваць дзе гэто «Маё Ўваскрасення». Добрага Вам Вялікадня цяпер жадаў — без пошты духам Гальяш Леўчык».

З другога боку паштоўкі Гальяш Леўчык напісаў тэкст верша «Маё Ўваскрасення» з прыпіскаю: пасвячаецца Антону Луцкевічу і Язэпу Вількоўшчыку.

Творчасць заходнебеларускага паэта Язэпа Вількоўшчыка (1898–1984), які шмат пісаў і друкаваўся ў часопісах і газетах Заходняй Беларусі, сёння амаль не даследавана. Асабліва ён быў майстар на літаратурныя байкі. Вось яму ды Луцкевічу і прысвяціў свой верш Гальяш Леўчык. Чаму адзін верш Леўчык прысвяціў двум асобам? Ды таму, што з Антонам Луцкевічам ён шчыра сябраваў, а Язэп Вількоўшчык (сапраўдныя імя ды прозвішча яго былі Восіп Вількоўскі) быў земляком Гальяша Леўчыка з вёскі Варонічы Слонімскага павета. Верш «Маё Ўваскрасення» гучыць так:

*На высокай гары, дзе ніхто не гарэ*,*
*Леўчыка Гальяша косьці лягнуць,*
*Туды зблізка, здалёк, дзе навек Леўчык лёг,*
*Ўспамянуць беларусаў прыцягнуць.*
*Від з высокай гары на лугі і бары,*
*І на Слонім, дзе Шчара сінее —*
*Блізка Слонім ляжыць, блізка Шчара бяжыць, –*
*На гары яго крыж завіднее! —*
*Ў гробе Леўчык згніе, але памяць жыве —*
*На Дзяды Беларусь ўспамінаюць:*
*Як калісьці была, як калісьці жыла —*
*Дзеткі творы паэтаў чытаюць...*
*З той высокай гары, пад дамы і муры*
*На Дзяды будзе духам злятаці:*
*Раз заўсёды у год прыйдзе духам ў народ —*
*Ў гэту ноч будзе ён ажываці!..*

**Гальяш Леўчык, Слонім, 17.IV.1938.**

* Могілкі на гары ў Рышчыцах каля Слоніма.

На вялікі жаль, беларускі паэт Гальяш Леўчык загінуў падчас Другой сусветнай вайны ў Варшаве ў 1944 годзе. Таму няма нідзе і яго магілы, пра якую ён марыў у сваім «Уваскрасенні»... Ёсць на паштоўцы пасля верша і пастскрыптум: «Ці гутарыў калі з Вамі аба мне і аб Белар. Доме адвак. Мікалай Шкялёнак? Як там ідзе гэта справа?». Нагадаю, што беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, журналіст Мікалай Шкялёнак (1899–1946) у 1945 годзе ў Польшчы быў арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі і ў пачатку 1946-га прыгавораны да вышэйшай меры пакарання...

**Сяргей ЧЫГРЫН**




# На заверша верша

**Рукой падаць!**

*(Чарнаморска-Балтыйскаму Шляху прысвячаецца)*

*Ад Грэка да Варага*
*было — падаць рукой.*
*А ў Беларуса прага:*
*праклaсці Шлях — ракой.*
*Быў Грэк для нас не вораг.*
*Вітаю ля Дзвіны.*
*– Рубон! — крычу. Стаў дораг*
*нам крыгаломны порах*
*ля дзісненскай сцяны.*

*Мне б латы для спіны,*
*бо Грэк нясе ікону,*
*Вараг — калючы меч.*
*А я? Я страж абгону.*
*І не спадзе да скону*
*мая кальчуга з плеч.*
*Найперш — сутыч адвагі.*
*Пагоня — на пасля...*
*...Закняжылі Варагі?*

*Такая ў нас зямля.*
*Папрок нам: — Недарэкі,*
*не ўсвоілі Літву...*
*Мы ж на прыгляду — Грэкі,*
*а Балты — наяву.*

*Крывіцкі Гоцкі бераг –*
*стырна настырны ўзгіб...*
*І быў крыжак за звера.*
*А Грэчаская вера*
*ішла і ўшыр, і ўглыб.*
*..............*
*Пярэчкаю карага?*
*Ды не стускнела крага,*
*жыццё бурліць ракой!*
*Ад Грэкаў да Варагаў*
*праз нас — падаць рукой.*

Верш успыхвае праменьчыкам слова — і на аголенасці думкі рунеюць руны радкоў. Гэта толькі магічныя руны былі калісьці сродкам сумоўя чалавека з Богам. А на верш спадзяванні больш надзённыя: калі і ўгледзіцца чытач сваімі вачанятамі ў задумныя заточаны між рыфмаў, то хай адчуе наведзеную на яго аўтарам паэтычную рытміку сваёй існасці.



**Каўгурская метка Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна. Ліпень 1966 г.** Фота Сяргея Панізьніка

Гэты верш прысвечаны пакуль што аблачыннаму Чарнаморска-Балтыйскаму Шляху, але трымае ён недзе на сваёй чупрыне і ўзвывы ранейшых разважанняў. А я згадваю 1000-гадовы Шлях з Варагаў у Грэкі, які праходзіў і каля румаў маёй Дзвіны. Па беразе Дзвіны-Рубона ля вёскі Цінкаўцы ішла дарога з Полацка на Дзінабург. Вось там, наўпрось Лявонпаля, недалёка ад станцыі Бігосава, у хаце бабкі Парaскі і быў закладзены мною 35 гадоў таму этнаграфічна-літаратурны музей «На Шляху з Грэкаў у Варагі». Чаму тут парушаны парадак слоў? Бо і цячэнне ракі мне падказвала напрамак, і веданне, адкуль плыла духоўнасць-рэлігійнасць, і адкуль поўз князь з мечаносцай «руссю»...

А нарадзіўся я на мацерыку трох Д: на зямлі між Дзісной, Друяй і Дрысай. Вось і згадваю дзісненскую сцяну, бо да 1374 года (640 гадоў таму назад) адносіцца першая згадка пра Дзісну як умацаваны замак... Ну а «Рубон!» — гэта старажытны кліч воінаў, Рубонам у старажытнасці называлі і Заходнюю Дзвіну. Ёсць і філасофскае тлумачэнне слова: рубон — пэўны лад жыцця, пазачасавая рэальнасць, прастора.

У 1960-х гадах мае бацькі з лявонпальскага дома-рума «адплылі» да родзічаў у Латвію, дзе мая сястра-рыжанка Ніна дапамагла ім каля Слокі, у пасёлку Каўгуры, амаль на беразе заліва зажыцца ў новай сядзібе. Вось туды ў ліпені 1966 года я і запрасіў Рыгора Барадуліна з Уладзімірам Караткевічам у госці. Яны на той час бавілі адпачынак пад соснамі Райніса на лецішчы латышскага паэта і перакладчыка Ераніма Ступлана. Выхад балтакрэваў да мора ў Каўгурах быў зафіксаваны мной на фотастужцы.

А ў вершы «Рукой падаць!» я з асаблівай радасцю выклаў радок «Крывіцкі Гоцкі бераг...». З Рыгаю і Гоцкім берагам (Готландам) заключаў Полацак мірныя і гандлёвыя дамовы. На Готландзе былі ў свой час пабудовы багатых полацкіх, віцебскіх, смаленскіх купцоў, пашукаць бы і засыпаныя там падмуркі крывіцкіх бажніцаў... Хай асмеляцца на такі подзвіг нашыя пісьменнікі, якія будуць набірацца творчых сілаў на сяброўскім Готландзе!

А я веры ў і веру, што такія радкі са «Слова пра паход Ігаравы» (пераклад Рыгора Барадуліна) мог напісаць толькі палачанін:

*А ўжо гоцкія красныя дзевы*
*на беразе сіняга мора запелі,*
*звонячы золатам рускім...*

Калісьці ў Полацку вучоны з Ленінграда ўгаворваў сваіх землякоў, што і ім трэба пісаць скарынаўскае слова «рускі» з адным «с», бо і «руская вера» не была землякам Скарыны чужацкай. Вось чаму я пачуваюся багатым і на «Біблію руску...», і на звонкае полацкае золата, сабранае на беразе сіняга Балтыйскага мора.

Хачу патлумачыць тут па-свойму і слова «крага». Часам мяне папракаюць, што ў сваім прозвішчы стаўлю нерэкамендаваны самымі справядлівымі граматыкамі мяккі знак. Тады я ўздзяваю на левую руку крагу — абарончы нарукаўнік, а правую пішу слова без памылак і тлумачу, што «Панізьнік» — гэта мой псеўданім, амаль эпітэт. Бо я шаную майго даўняга аднафамільца, які жыў калісьці ў Калабрыі — акупаванай грэкамі (зноў — Грэкі!) паўднёвай часткі Італіі. Потым гэты прапрадзед вярнуўся на Балканы і па-сёння згадваецца ў адным з манастыроў Босніі і Герцагавіны. У прапаведнай кнізе горада Шырокі Брыег ён пазначаны так: « sv. Poniznik iz Kalabrije, cudotvorac (1582–1637).

Але закончыць заверша свайго верша хачу згадкай пра чалавека, які шанаваў веру грэчаскую, нацыянальныя святыні і сваёй творчасцю збліжаў кантыненты нашай планеты. Гэта Рыгор Барадулін выгуквае ўбок знаёмага яму Гоцкага берага: «А да яго ж рукой падаць!». І Уладзімір Караткевіч быў з ім згодны. І паказаў Рыгору на юрмальскім беразе даўно ўжо невараджскага мора метку, праз якую пройдзе Чарнаморска-Балтыйскі Шлях.

**Сяргей Панізьнік**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (97) | 26 верасня 2014 | № 36 (405) Новы Час

# Ахоўнік праўды

## Да 90-годдзя Паўлюка Вазёрнага

**У застойна-савецкі 1972 год беларус замежжа выдаў кнігу «У сьвятле гістарычных фактаў» — годны адказ на брашуру гісторыка-рэтраграда Лаўрэнція Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў» (1969), дзе панавуковаму паказаў, што «бэсэсэраўскае выданне» мае шавіністычна-расійскі характар і свядома абкрадвае гісторыю беларускага народа. Аўтарам тых «Фактаў» быў Павел Урбан (літаратурны псеўданім Паўлюк Вазёрны).**



Ён нарадзіўся 27 сакавіка 1924 года ў вёсцы Закаліўе на Лепельшчыне. «Бацькі — звычайныя сяляне, — успамінаў пра блізкага сябра Янка Запруднік. — У сям'і было сямёра дзяцей. Падчас хутарызацыі ў 1920-х гадох бацька атрымаў дзевяць гэктараў зямлі, але хутка пачалася масавая калектывізацыя, і сям'ю аб'явілі кулацкай. Бацьку арыштавалі, ён чакаў прысуду ў лепельскай турме больш за шэсьць месяцаў... Паўлюк, пасьля 7 клясаў дзесяцігодкі, вучыўся ў Віцебску ў фабрычна-заводзкай вучэльні. Падчас вайны вёска Закаліўе знаходзілася ў партызанскай зоне. Жыхары нацярпеліся і ад немцаў і ад партызанаў. У часе адной супрацьпартызанскай акцыі немцы артыштавалі Паўлюка й пасадзілі ў лягер для вывазу ў Нямеччыну. Каб памагаць бацькам з малымі дзяцьмі, Паўла ўступіў у дапаможную паліцыю ў Лепелі. У чэрвені 1944 г., пакінуўшы бацькаўшчыну, ён апынуўся ў нямецкай дывізіі, якая была перакінута ў Францыю. Там хутка перайшоў на бок амэрыканцаў і апынуўся ў Заходняй Нямеччыне. Па заканчэньні вайны ўдалося пазьбегнуць прымусовага «вяртаньня на радзіму» й далучыцца да сваіх суродзічаў у лягеры ДыПі. Спачатку ў Рэгенсбургу, а пасьля ў Міхэльсдорфе Паўлюк вучыўся ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы <…> У студзені 1948 г., разам зь дзесяцьма сябрамі-скаўтамі з таго ж самага міхэльсдорфскага дыпіўскага лягеру, выбраўся на заработкі ў Вялікабрытанію. Пасьля двух зь лішнім гадоў вуглякопскае працы <…> наша група <…> прыехала ў Бэльгію на навуку ў Лювэнскім унівэрсытэце. Мы з Паўлюком выбралі гістарычны факультэт, які й закончылі ўвосень 1954 году».

Паўлюк Вазёрны абараніў дысертацыю «Вялікае Княства Літоўскае за часамі вялікага князя Аляксандра (1492—1506)». А захапленне нацыянальнай гісторыяй паклікала і да мастацкага слова: ён раскрыўся і як каларытны празаік — сябар грамадска-літаратурнай суполкі ў Англіі «Дванаццатка» і таленавіты аўтар маладзёжнага часапіса «Наперад!» (у 1948–1953 гадах выдаваўся ў замежжы).

Паказальны факт: ужо другой літаратурнай публікацыяй маладога аўтара ў 1948 годзе стала аповесць «Нявольнік няпраўды», у якой была апісана бальшавіцка-калгасная рэчаіснасць, што нішчыла ўсе маральныя і этычныя нормы чалавечага існавання, — тая рэчаіснасць, калі сын выступаў супраць маці, калі пад уздзеяннем таталітарнай ідэалогіі чалавекператвараўся ў зомбі-забойцу. Найбольш запамінальны ў аповесці вобраз Мікіты Ляўчука — своеасаблівага двайніка купалаўскага Мікіты Зносака 30-х гадоў. Ляўчук па загадзе ДПУ віжуе за хутарам пушчанскага знахара Пракопа, «выкрывае» «нацдэмаўскую» групу беларускай моладзі, па прымусе ДПУ забівае бязвінную Ганю, унучку знахара, а ўрэшце і сам становіцца ахвярай «карнай рукі» бальшавікоў. У «Эпілогу» Мікіта ўцякае з «сібірскага» цягніка і знаходзіць смерць на магіле сваёй ахвяры.

Псіхалагічна ўдала выпісаны ў аповесці душэўная «ломка» («устрэс душы») «нявольніка няпраўды» Мікіты, ягоныя хістанні і думкі падчас карнай экспедыцыі на пушчанскі хутар Пракопа: «Сонца падымалася, а разам з тым Мікіта са сваімі спадарожнікамі <…> углыбляўся ў лес. З кожным крокам да дзедавае сялібы ўсё часьцейшыя такты адлічвала ягонае сэрца. Халодны пот выступаў на лоб, галава балела. У густым дубняку Мікіта пачуўся яшчэ горш — ужо блізка... Ён ішоў. Неўзабаве мільгануў прасьвет. Мікіта даў знак затрымацца. «Што, ужо... не, гэта йшчэ...?» — і гэтае падказаў ужо расплыўны брэх сабакі дзесьці ўперадзе. Мікіта ўздрыгнуў. <…> Дрыжыкамі прахапіла ягонае нутро. Такты сэрца пачалі марнець, ногі ў каленях дрыжэлі. Пасоўваўся ўперад як не сваімі нагамі. Думкі раптам супыніліся, як-бы хтосьць замарозіў іх ураз. Толькі вочы сыпалі нянавісць да ўсяго — так страшна мільгануў ягоны позірк узад, на сваіх спадарожнікаў. Ішоў далей, проста плёўся, без ніякае думкі» [цытуецца па публікацыі ў часапісе «Наперад!», 1948, № 14.].

Кульмінацыя аповесці — стрэл Мікіты ў Ганю, экстрэмальная сітуацыя выбару (якая будзе па-мастацку распрацавана ў творах аднагодкі Паўлюка Вазёрнага Васіля Быкава). Стрэл у «Нявольніку няпраўды» становіцца той жахлівай мяжой паміж дабром і злом, мяжой, за якой — поўнае маральнае рабства. Гэты эпізод таксама выпісаны напружана, вобразна (дзяўчына — як белая птушка), зграбна і ў сінтаксічным (каскад кароткіх простых сказаў), і нават у фармальна-абзацным афармленні:

«– Стреляй! — і агент, замест навесьці пісталет на Ганю, наводзіць на Мікіту.

У галаве гук разьбітага звона. Пад нагамі — прадоньне.

Стрэльба падымаецца... На мушцы, перад вачыма, замест Гані, мільгае між дрэваў птушка, белая птушка... віецца, скача, уцякае з мушкі. Цяжка цаляць... Раптам белае кольца гуляе ў хвалях. Палец націскае курок. Стрэлу Мікіта не чуе. Бяжыць уперад — на птушку...».

Першая аповесць П. Вазёрнага не пазбегла, на жаль, некаторых хібаў вялікай прозы пачаткоўцаў, — і стылёвых, і кампазіцыйных. Аповед атрымаўся часткова неабгрунтавана сентыментальным. Не ўпрыгожылі яго і доўгія пафасныя дыялогі станоўчых герояў (свядомых хлопцаў-беларусаў Петруся і Міхася). Сярэдзіна аповесці атрымалася беспадзейнай, расцягнутай.

Калі аповесць П. Вазёрнага «Нявольнік няпраўды» засведчыла найперш імпэтную мастацкую вучобу маладога пачаткоўца, ягонае апавяданне «Няміга», апублікаванае ў № 18 часапіса «Наперад!» за 1949 год, можа лічыцца аўтарскай удачай.

У апавяданні з дакументальнай грунтоўнасцю (у зносцы да апавядання пададзена нават дакладная дата пачатку падзей: 3 сакавіка 1067 года) апісаны захоп войскамі Яраславічаў, князёў Кіеўскай Русі, старажытнага Менску і выратоўны паход супраць гвалтаўнікоў дружыны полацкага князя Усяслава і яго малодшага сына Глеба. Аўтар — гэта відавочна — быў ахоплены дзяржаватворчай ідэяй і свядома засяроджўся ў сваім апавяданні на старадаўніх вытоках беларушчыны, узор для мадэлі нацыянальнага быцця шукаючы ў багацці, мудрасці, мужнасці народнага духу (якое выяўляе заканадаўчае веча), у моцнай самастойнай дзяржаве, на чале якой — адданы сваёй Бацькаўшчыне «Князь Вялікі, магутны ўладар Зямлі Крывіцкае». П. Вазёрны бачыць у старажытным Полацку сэрца Крывіччыны (матыў Крывіччыны гучыць у апавяданні ледзь не рэфрэнна: «горды вой Крывіччыны», «Полацак і іншыя крывіцкія цьвярдыні», «гарады зямлі крывіцкае», «воі-крывічане», «Гаспадар Полацку і ўсяе зямлі крывіцкае» і пад.).

Ідэйна-тэматычным і стылёвым планамі апавяданне П. Вазёрнага «Няміга» арганічна паядноўваецца з беларускай гістарычнай прозай 80–90-х гадоў, высвечвае нявыкарыстаныя на той час абсягі нацыянальнага мастацкага слова, паказвае шляхі яго магчымага развіцця ў ранейшых дзесяцігоддзях, шляхі, перарваныя ў заідэалагізаваным і падцэнзурным перыядзе панавання сацыялістычнага рэалізму.


Рэдакцыя «Наперад». Злева: Пілiп Дзехцяр, Алесь Марговіч, Паўлюк Урбан, Уладзімер Цвірка (ніжні), Янка Запруднік, Янка Жучка. Тамўартс, верасень 1948 г.

Прадметам сваёй мастацкай зацікаўленасці П. Вазёрны абірае найбольш паказальны і эфектны эпізод беларускай гісторыі. Князь Усяслаў, дачуўшыся аб захопе князямі Яраслававічамі Менску, ідзе ў паход; полацкія і кіеўскія дружыны сутыкаюцца ў жорсткай сечы. Калі ў крывічан былі ўведзены ў бой апошнія падмацаванні і, здавалася, іх дружына вось-вось пачне адступаць, на беразе крываваі Нямігі з'явіўся са сваім аддзелам сын князя Усяслава Глеб (які дагэтуль змог вызваліць палонных менчукоў). Бой разгараецца з новаю сілай, і толькі ноч спыняе яго. Пераможныя шалі, як пераконвае аўтар апавядання, схіляюцца на бок полацкіх ваяроў (князь Усяслаў напрыканцы пачынае ўсміхацца). Як мудры вайскаводца, ён пад ахоўвай цемры змяняе месца стаянкі сваёй дружыны, каб раніцай распачаць новую сечу — за незалежнасць Крывіччыны. На гэтым апавяданне «Няміга» заканчваецца.

Абазнанаму ў гісторыі чытачу вядома, што наперадзе палачанаў і ўсю «Крывіччыну» чакалі трагічныя падзеі, пра якія новых твораў П. Вазёрнага не дайшло, — аднак тыя падзеі на дабрадатнай літаратурнай ніве леглі ў аснову гістарычнага рамана канца 80-х гадоў Леаніда Дайнекі «След ваўкалака» (дзе апісаны далейшы лёс князя Усяслава, празванага Чарадзеем, пасля злога падману князем Ізяславам: палон у кіеўскім астрозе-порубе і ўцёкі з яго).

Апавяданне П. Вазёрнага зроблена як гераічная панарама, у апісальнай манеры, з алюзійнасцю да «Слова аб палку Ігаравым» — першага мастацкага твора пра старадаўнюю бітву на менскай Нямізе.

Апавяданне «Няміга» ніколі не перадрукоўвалася ў Беларусі (найбольш поўна празаічныя творыП.Вазёрнага апублікаваны ў складзенай Янкам Запруднікам кнізе «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, БІНіМ, 2002)), таму дазволім сабе працяглую цытату з яго — пра тыя ж крывавыя падзеі на Нямізе:

«Гарэла неба на ўсходзе, купаючы ў золаце вясновую раніцу. Якраз на разьдзеле верхавінаў дрэваў, што ахутвалі воддаль берага Нямігі, яно зьмяняла свой колер і прыймала з кожнай хвілінай больш сьветла-празрыстую афарбоўку. Праменныі, падобныя да тонкіх дыямантавых голак, выпаўзалі з гэтага адасобленага колерам паўкола і, пераскаючы гушчынёю пазалоты, уразаліся вострымі штрыхамі ў высь цёмнага блакіту. <…> У гэтым часе зайграў баявы ражок. Жудасны шэлест зброі парушыў мёртвую цішыню. Лес ззаду паўтарыў яго глухім рэхам <…>.

Няміга яшчэ больш счарніла ваду між кучамі целаў. Пара над полем, дзе соўвалася людская калатня, ужо далей пад Менск, больш заўважна ўзьвівалася ўгару. <…> Воі-Крывічане блудзілі сярод вялізнага могільніку, падбіраючы раненых таварышаў. Бітва ўсё далей адыходзіла ад берагоў Нямігі».

Выявіўшы сталенне творчага мыслення і мастацкага почырку, П. Вазёрны, на жаль, пасля «Нямігі» прыпыніў публікаванне сваіх празаічных твораў, якія засталіся сведчаннем багатага ідэйна-мастацкага патэнцыялу нацыянальнай гістарычнай прозы яшчэ напрыканцы 40-х гадоў ХХ стагоддзя...

У 1955–1974 гадах Паўлюк Вазёрны-Павел Урбан працаваў у Інстытуце вывучэння СССР (Мюнхен), быў скарбнікам і адміністратарам выдавецтва «Бацькаўшчына». У 1961-м ажаніўся з землякчаю Ларысай Асадчай. З 1974 года і да выхаду на пенсію (1989-ы) П. Урбан быў супрацоўнікам беларускай рэдакцыі радыё «Свабода».

У 2001 годзе ў Мінску выйшла праца П. Урбана «Старажытныя ліцьвіны: Мова. Паходжаньне. Этнічная прыналежнасьць» (2-е выданне — у 2003-м), прысвечаная даследаванню этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў і гістарычнага тэрміну «Літва».

Аднак час браў сваё... На 87 годзе жыцця — 2 лютага 2011-га — у нямецкім Мюнхене Павел Урбан-Паўлюк Вазёрны, — гісторык, журналіст, празаік, культурна-грамадскі дзеяч, — закончыў свой зямны шлях. У Мюнхене засталіся яго дачка і жонка...

На смерць творцы і патрыёта адгукнуліся найперш суполкі беларускай эміграцыі.

«З вялікім сумам даведалася я пра смерць Паўла Урбана, — прызналася Прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвіла. — Ён амаль усё жыццё — ад студэнцкіх часоў — быў чальцом Рады БНР. Сапраўдны беларус: сціплы, вельмі разумны, глыбокі, мала казаў, але шмат напісаў вельмі карыснага для нашай краіны. Усе мы вельмі ўражаны яго смерцю, хацелася б, каб такія людзі ніколі не паміралі...».

Ну і, прынамсі, хацелася б верыць, што напісанае імі — усё ж такі! — застаецца.

**А. П.**

## «ДЗЕЯСЛОЎ» №71

# «Жыццё не вычэрпваецца рэальнасцю»

ЛеГАЛ

**Чарговы — 71-ы — нумар «Дзеяслова» аказаўся даволі свойскім, пасямейнаму наскрозь цёплым сваім беларускім духам.**

Пераважную яго частку займаюць тэксты так званага цяпер жанру «нон-фікшн» ці блізкія да яго матэрыялы. У тым ліку, як бы гэта ні гучала дзіўна, і чыста мастацкія. Шмат не да канца распазнаных калісьці калег-знаёмцаў (Г. Дубянецкая, Т. Сапач) і незнаёмцаў, якіх варта распазнаваць сёння (А. Емяльянаў).

Вось, скажам, аповед Сяргея Дубаўца «Вайна і мір. Справаздача». На мой погляд, гэта такая адмысловая літаратурна-публіцыстычная пародыя на сучасны (і не толькі) лад жыцця беларускага чалавека. Няспраўджаная пакуль эвалюцыя нашых людзей на шляху да стварэння нацыі. Два беларусы — адзін аднаго вартыя, ніякія не антыподы па натуры — жывуць у пустэльнай зоне і варагуюць паміж сабой… Аднак на пытанне аўтара-героя наконт такіх адносін Кромлех (другога завуць Глюкліх, і ў корані гэтых імёнаў вычуваюцца нейкія намёкі, здагадкі і прадказанні) кажа: «Мы жывем, пакуль доўжыцца наша спрэчка, наша супрацьстаянне»… Хто ведае, як надоўга яно зацягнецца? А, можа, якраз у гэтым і цымус і неўміручасць беларускага чалавека: быць своеасаблівым правобразам адзінага безнацыянальнага людства на зямлі? Пытанне без долі іроніі…

Поруч выдрукавана падборка вершаў Галіны Дубянецкай (ад 1984 да 2012 гадоў). Я зноў адчуў дух той сціпла-ўраўнаважанай дзяўчыны з непахіснай унутранай пазіцыяй — і чалавечай, і жаночай, і мастацка-эстэтычнай… Крынічна-кранальны ўспамін сярэдзіны 90-х… Вершы Г. Дубянецкай з далёкай маладосці, як запозненае рэха, адгукаюцца паэзіяй яе сённяшніх дзён. Гуллівa, экспрэсіўна, роздумна, прасветлена…

У Лідзіі Арабей на дзевяностым годзе выдыхаюцца простыя, падчас мудрыя чалавечыя словы. І ў такім веку, уявіце сабе, яна ўсё яшчэ шукае ісціну (так названа нізка абразкоў). Але вопыт жыцця і доля таленту найчасцей спараджаюць пажадны скепсіс да зямнога чалавечага выраку.

Вершы Зянона Пазьняка, калі шчыра, — як паэзія, як мастацкія творы, — гэтым разам, на жаль, не асабліва ўразілі. Памятаецца, куды цікавейшымі і лірычна глыбейшымі яны былі ў яго фота-вершаваным зборніку-альбоме «Глёрыя Патрыя»… Мінае час, і на аддаленні ад каранёў сваіх слова паэта сірацее і неўпрыкмет губляе крэўную сілу. Але працытую два вершы, якія ўпадабаліся, адзін — за шчырасць (пад назвай «Рацыё»):




*За Радзіму*
*не страшна памерці.*
*Страшна толькі,*
*Калі з гэтага*
*Нічога не стане,*
*Акрамя тваёй смерці*
*Ворагам на пацеху.*

Другі — за адкрыццё:

*Калі глядзіш у далячынь,*
*Заўсёды бачыцца надзея,*
*І хочацца туды ісці.*

Апавяданне Уладзіміра Міхно «Галавеш», умоўна кажучы, пра ката. Хоць, найперш, — пра сябе ў якасці галоўнага героя. Нешта ёсць глыбокае ў гэтым просценькім шчырым аповедзе-спавяданні — прыцягальнае, спагаднае, магчыма, не ўсім зразумелае… Можна гэта назваць сумненнем, тым самым, якое выніклае з пастаяннага ўнутранага самакапання, пра якое нагадваў нам С. Дубавец у сваёй ідэйна-нацыянальнай «справаздачы»: «Калі ты не сумняваешся — то ты труп, або помнік, або робат…» У. Міхно друкуецца рэдка, але заўважна.

А вось Віктар Жыбуль часты госць літаратурных выданняў. І як адметны літаратуразнаўца, і як паэт. Яго вершы лёгкія, пацешныя, саркастычныя, займальныя, правакацыйныя, іранічныя, і якія яшчэ хочаце «ічныя». Да ўзораў высокай лірычнай паэзіі іх аднесці нельга. Мабыць, таму, што ў іх ад пачатку закладзена іншая функцыя… Сцэнічная, дэкламацыйная, публічная, і якая яшчэ хочаце «ічная»… Я іх прачытаў з сузіральнай цікавасцю.

А вось Алесь Емяльянаў з нізкай сваіх арыгінальных абразкоў пад агульным назвам «Тэлепаэтыка» — творца сур'ёзны. Гэтая метафарычная элегантнасць, цэльная па сваёй мастацкай сутнасці і задуме, арыгінальная па форме напаўнення, падчас яркія ў сваёй стылёвай выбітнасці і лірычнай вытанчанасці… Як на мой погляд, паэт вылучаецца адмыслова.

«Тое, што можна сказаць словамі, нашмат складаней сказаць моваю цела. «Я кахаю цябе!» зразумееш толькі тады, калі адчуеш на сваёй шыі мяккі дотык маіх вуснаў. І я даведаюся, што ты кахаеш мяне, калі пачну чытаць рукапіс паэтычнай кнігі твайго цела, перагортваючы бачынку за бачынкай, і, спыніўшыся на адной з іх, прыгублю журавінавы сок тваіх смочак, а пасля занурыся ў чаргові чароўны верш, убіраючы прахалодна-прыемную, нібы марозіва з вафельнага ражка, салодка-сунічную метафару твайго ўлоння. А тваё цела будзе дыхаць жарсцю і заміраць ад шчасця. І так штодня чытаць, перачытваць, удасканальваць, падкрэсліваць чырвоным алоўкам языка асабліва ўпадабаныя месцы, — хіба гэта не ёсць лепшым у свеце заняткам — па-рэдактарску захапляцца найпрыгажэйшым паэтычным зборнікам твайго пяшчотнага дзявочага цела».

Новыя вершы Віктара Слінкі для мяне па стылі блізкія да «плыні свядомасці». Прага сказаць новае, незвычайнае, «глыбейшае за глыбіню» змушае паэта блукаць у лабірынтах душы і розуму «ў поцемках з ліхтарам», як пісаў некалі А. Разанаў. Вельмі пачэсная і натуральная прага быць своеасаблівым, але пры гэтым важна «не ўпусціць» простыя рэчы ў гэтым бязмежным таемстве паэтычных знакаў жыцця…

Дэтэктыўная фантасмагорыя, так я назваў бы чарговы дэкадансны раман Людмілы Рублеўскай, заканчэнне якога друкуецца ў гэтым нумары часопіса. Твор пабудаваны (і схематычна выверaны) на аснове сучасных і дарэвалюцыйных (XIX стагоддзе) разгалінаваных парастках айчыннай гісторыі. Як заўсёды ў гэтай аўтаркі ўсё выпісана адмыслова і чытэльна.

У да абсурднасці «закадзіраванай» (або, скажам, «зашыфраванай») навэле Андрэя Захарэўскага «Край» (вельмі сімвалічны назоў у дачыненні да яго крытычнасці) столькі вялікалітарных займеннікаў (у кожным сказе!), што іх шматзначнасць раздражняе і дарэшты выхалоджвае глузды чытача, змушаючы думаць не пра эстэтыку і мастацкасць тэксту, а пра яго беспачатковасць і незавершанасць (недасканаласць). Талент — у зародку… Будзем сачыць за развіццём яго плоду.

Алена Казлова душэўна, калі можна так сказаць адносна жанру, пераклала на родную мову з ангельскай адзін з «серыяльных» дэтэктыўных аповедаў Артура Конан-Дойла «Саюз рудых». Прыцягальна-трывожнае чытво, не зважаючы на яго вядомасць. І, дарэчы, па-беларуску яно ўспрымаецца ўсё ж цяплей і спакойней. Пэўна, тут ёсць заслуга і перакладчыцы.

Сёння нашы старэйшыя пісьменнікі і паэты спрабуюць «вярнуцца» да чытачоў у своеасаблівым стылі «рэтра» — напамінам пра сваё не так даўняе мінулае, гэткім запозненым дысідэнцкім поглядам на тое, што засталося ў гадах адышоўшых, але ўсё яшчэ адтуль адгукаецца-аказваецца іх маладзейшым сучаснікам. Гэта пра «запісы розных гадоў» Ніла Гілевіча, дзе і такая вось згадка можа падацца вельмі актуальнай: «Запомніце! Рускі народ гэткіх геніяльных украінскіх і гэткіх геніяльных беларускіх песень не складзе! Бог так распарадзіўся — адвеку і навекі! Тут ужо ніхто Божую задуму перайначыць не зможа. Рускі народ складзе свае новыя геніяльныя песні — рускія, але ўкраінскіх і беларускіх не складзе ніколі».

За сухой (хоць і не раз замочанай) фіксацыяй дзей і побытавых учынкаў у апублікаваным студэнцкім дзённіку (1955) Рыгора Барадуліна ярка і нязмушана выяўляецца станаўленне характара і творчай асобы будучага народнага паэта. Чытанне для ўседлівых і ўедлівых, але тыя, хто мае непераадольны чытацкі імпэт да Барадуліна, як паэтычнай з'явы ў нашай нацыянальнай літаратуры, будуць нечакана ўражаны (а падчас і здзіўлены) яго колішняй юнацкай парой жыцця… Хіба мы можам уявіць у Барадуліна, які склаўся ў нашым разуменні як цэльная прарочая асоба, такую фразу: «…усё ж такі я выхаваўся на сацрэалізме. І сентыменталізм мне не вельмі па душы…» Хоць насамрэч прыемна ўведаць, што «нішто чалавечае» не было «чужым» і нашаму Рыгору Іванавічу.

Часопіс працягвае публікацыю ліставання Васіля Быкава (1963-1977) гарадзенскай пары пражывання. З перапіскі пісьменніка вынікае не толькі як ён змагаўся (і ўнутры сябе і са знешнімі апанентамі) з цэнзурай ды ідэалогіяй тадышняй савецкай пары, найперш адносна ўласных твораў. Прачытваецца яго актыўная дапамога ў падтрымцы калег па пісьменніцкай працы, а таксама людзей, якія пераадольвалі літаратурныя бар'еры бальшавіцкай сістэмы. Чалавечая асоба В. Быкава ўжо на пачатку 70-х гадоў мела даволі значны аўтарытэт і шырокі розгалас у грамадстве… Як чалавек і пісьменнік, якраз тады ён «дарастаў» да сваёй самадастатковай сутнасці.

У лістах Вячаслава Адамчыка (падчас яго вучобы ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах у 1963 годзе) да маладой жонкі і малога сына шмат шчырай нястрымнай узнёсласці, непадробнай любові і закаханасці. «…пішу я вам праз дзень. І пра вас не забываюся, бо вас люблю. Люблю таксама моцна, як і заўсёды любію і буцьму (! — ЛеГАЛ) любіць. Калі гавару пра гэтае люблю, я заўсёды заікаюся, нават, бачыце, на паперы. А разу аднаго нейкі стары дзівак гаварыў, што пісаць пра гэта і гаварыць трэба, не думаючы доўга, тады выходзіць шчыра. Магу пабажыцца, што ён мухляваў, стары атопак».

Публікуюцца (С. Дубаўцом) раннія вершы трагічна загінулай Таццяны Сапач. Вельмі цікава прасочваць творчую і чалавечую эвалюцыю гэтай гожай ва ўсіх сэнсах паэткі. «Не завязвайце глоткі грымотам», — эпіграф і апафеоз яе таленавітага мастацкага жыццяпісу.

Вельмі ўражлівая, нязмушаная і ў той жа час спакойная і жыццёва-разважная «згадка» Валеры Дубоўскага «пра апошнюю сустрэчу з Рыгорам Барадуліным». Гэта падрабязны ўспамін апошніх гадзін існавання чалавека і паэта, скрупулёзна сабраны з памяці таго апошняга дня яго маладзейшым таварышам і калегам.

Друкуецца літаратуразнаўчы артыкул Евы Лявонавай пра «творчую спадчыну Якуба Коласа і Янкі Купалы ў прачытанні Алеся Разанава». Тэкст абцяжараны глыбокім аналізам і варты прачытання тымі, хто любіць нацыянальную класіку.

Пра свае жыццёвыя (нярэдка няроўныя) сцежкі-дарогі піша Уладзімір Мароз. Зрэшты, як ён слушна зазначае, «жыццё не вычэрпваецца рэальнасцю».

Сяржук Сыс, сентыментальна ўспамінаючы свае бібліяфільства, выклікаў ува мне шчымлівыя імгненні настальгіі. Божа, колькі ў чалавецтва непрачытаных і ненапісаных кніг! Хоць прачытаных і напісаных, бадай, не менш…

Публікацыі завяршаюцца ўжо даўно не чутымі «абы-штоськамі» Яўгена Рагіна. Зацемкі гэтага літаратара заўсёды выклікаюць у мяне добры настрой і прылiў здаровага аптымізму. Ёмка, хвацка, таленавіта… Было прыемна абрынуцца ў яго непадробную стылістыку і падтэкставыя стрэмкі для свядомых і дасведчаных…

«Усё жыццё імкнуся скласці са словаў музыку. Мо па той прычыне, што так і не асвоіў ноты і ў гітарных справах не стаў віртуозам? Таму і імкнуся, каб хоць бы праз абзац, хоць у пары-тройцы сказаў штосьці ды склалася, штосьці ды прагучала: мо намёк на джаз-рок, а мо — на нясмелыя блюзавыя варыяцыі. (…) Заходзьце, спадары. Сёння ў ссівелага журналіста — бенефіс. Заходзьце, пачынаем рок-н-рол!»

Прыкладна такім чынам хацелася б і мне запрасіць усіх прыхільнікаў беларускага краснага пісьменства да старонак чарговага (71) нумара часопіса «Дзеяслоў».

## ПРЭМІІ

### Літпрэмія ЗША



**Фэнтэзі-пісьменніца Урсула Ле Гуін атрымала ганаровую Нацыянальную літаратурную прэмію ЗША.**

Нацыянальны кніжны фонд узнагародзіў 84-гадовую Ле Гуін медалём «За асаблівы ўклад у амерыканскую літаратуру».

Урсула Ле Гуін — аўтар кніжных цыклаў пра выдуманы свет Земнамор'я («Чараўнік Земнамор'я», «На іншых вятрах» і інш.) і «Хайнскага цыкла». Яна з'яўляецца ўладальніцай некалькіх вышэйшых узнагарод у галіне навуковай фантастыкі і фэнтэзі («Х'юга», «Нэб'юла», «Локуса»).

### Прэмія «Х'юга»

**Узнагароду за лепшы фантастычны раман 2013 года ўручылі амерыканцы Эн Лекі.**



Фота: tisk.org.ua

48-гадовая літаратарка атрымала прэмію «Х'юга» за свой дэбютны раман «Дапаможнае правасуддзе» («Ancillary Justice»). Яго дзеянне разгортваецца ў космасе, а галоўным апавядальнікам з'яўляецца штучны інтэлект касмічнага карабля. Раней раман «Дапаможнае правасуддзе» быў узнагароджаны прэміяй «Нэб'юла» і прэміяй Брытанскай асацыяцыі навуковай фантастыкі.

Сярод іншых лаўрэатаў «Х'юга» Джон Чу, аўтар лепшага фантастычнага аповеда «Вадапад». Узнагароды таксама атрымалі фільмы «Гравітацыя» і «Гульня стальцоў».

«Х'юга» — самая прэстыжная прэмія ў галіне навуковай фантастыкі і ўручаецца з 1953 года.

### Прэмія імя Рыгора Скаварады



**Літаратурная прэмія «Сад божественних пісень» за 2014 год уручана ва Украіне.**

Міжнародная ўзнагарода імя вядомага філосафа і паэта XVIII стагоддзя Рыгора Скаварады (1722–1794) была заснавана ў 2005 годзе Валынскім таварыствам «Свіцязь» і грамадскай арганізацыяй «Чарнігаўскі інтэлектуальны цэнтр».

Склад лаўрэатаў сёлета досыць незвычайны. За кнігу «На трох кантынентах. Кніга 1» прэмію імя Р. Скаварады атрымаў герой Украіны Іван Дзюба, за даследаванне пра Р. Скавараду — пісьменнік Валер Шаўчук, за паэтычны зборнік «Начное жыццё» — польскі літаратурны крытык Багдан Задура.

За дабрачынную дзейнасць і ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры, навукі і кнігавыдавецтва ўзнагароду атрымаў Ігар Паліца, бізнэсмэн, які з нядаўняга часу займае пост кіраўніка Адэскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі. Ганна Баграная, украінская пісьменніца, якая цяпер жыве ў Македоніі, была ўганаравана прэміяй за прапаганду высокіх духоўных каштоўнасцяў у паэзіі, прозе і драматургіі, а Дмітрый Чысцяк, выкладчык кафедры французскай філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Т. Г. Шаўчэнкі, узнагароджаны за плённую працу па папулярызацыі спадчыны ўкраінскіх пісьменнікаў і навукоўцаў за мяжой. Атрымалі прэміі таксама Пётр Захараў (Удмуртыя), Наомі Фойл (Вялікабрытанія) і акадэмік Рысто Васілеўскі (Сербія) — адзначаны іх плённая праца па папулярызацыі спадчыны ўкраінскіх пісьменнікаў і навукоўцаў за мяжой.

### Нямецкая літпрэмія



Фота: womo.com.ua

**За раман «Варашылаўград» украінскі пісьменнік Сергій Жадан уганараваны нямецкай прэміяй па літаратуры «Brücke Berlin».**

Кніга выйшла ў 2012 годзе ў нямецкім выдавецтве «Suhrkamp» пад назвай «Die Erfindung des Jazz im Donbass» / «Вынаходства джаза ў Данбасе»).

У абгрунтаванні рашэння журы адзначыла, што Сергій Жадан духам сваёй літаратуры вяртае да жыцця забытую тэрыторыю Еўропы і «пралівае такім чынам новае святло на актуальныя палітычныя канфлікты».

Акрамя ўкраінскага пісьменніка прэмію атрымаюць таксама перакладнікі кнігі Сабінэ Штэр і Юры Дуркот.

Прэміяй «Brücke Berlin» нямецкага Фонда BHF-Bank з 2002-га кожныя два гады адзначаюць найлепшы твор сучаснай літаратуры Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама яго пераклад на нямецкую мову. Памер прэміі складае 20 тысячаў еўра.

Уручэнне ўзнагароды адбудзецца 1 кастрычніка ў Нямецкім тэатры ў Берліне.

### Прэмія ПЭН-клуба



**Пісьменніца з Шры-Ланкі Сона Дзераніягала атрымала прэмію брытанскага ПЭН-клуба за лепшую аўтабіяграфічную кнігу.**

Прэмія імя Джо Рэндольфа Экерлі ўручана Дзераніягале за ўспаміны пра тое, як яна перажыла страту бацькоў, мужа і двух сыноў. Сям'я пісьменніцы загінула, калі на Шры-Ланку ў 2004 годзе абрынулася цунамі.

«Я атрымала гэтую выдатную ўзнагароду і думаю, што ёсць прыгажосць у пакутах і заспакаенне на ўвазе іншых людзей. Я знайшла сябе як пісьменніца, знайшла яшчэ адну асобу ў дзікім падарожжы жыцця», — пракаментавала ўзнагароджанне Дзераніягала.

Прэмія за лепшую аўтабіяграфічную кнігу ўручаецца ПЭН-клубам Вялікабрытаніі з 1982 года, носіць імя Джо Рэндольфа Экерлі — брытанскага пісьменніка і рэдактара штотыднёвіка «Бі-бі-сі», які памёр у 1967 годзе.

### Прэмія імя Ханны Арэндт

**Украінскі пісьменнік Юры Андруховіч стаў лаўрэатам прэміі імя Ханны Арэндт, якую прысуджае Фонд імя Генрыха Бёля і горад Брэмен.**



Узнагароду Ю. Андруховіч атрымаў за асабісты ўнёсак у барацьбу за дэмакратыю ва Украіне.

Разам з Ю. Андруховічам лаўрэатамі прэміі сталі ўдзельніцы расійскай панк-рок-групы «Pussy Riot» Надзея Талаконнікава і Марыя Алёхіна. Іх ушанавалі за тое, гаворыцца ў абгрунтаванні рашэння журы, што, нягледзячы на пераследы з боку расійскіх уладаў, яны працягваюць мужна адстойваць свой пункт гледжання.

Прэмія, якая носіць імя вядомага нямецкага філосафа і публіцыста габрэйскага паходжання, заснавальніцы тэорыі таталітарызму Ханны Арэндт (1906–1975), заснаваная ў 1995 годзе і ў грашовым эквіваленце складае дзесяць тысячаў еўра. Сёлета цырымонія яе ўручэння адбудзецца ў брэменскай ратушы 5 снежня.

### Прэмія імя Уладзіміра Караленкі

**У гэтым годзе літаратурную прэмію імя Уладзіміра Караленкі атрымаў пісьменнік і перакладчык Сяргей Батурын за раман, якім ён дэбютаваў у расійскамоўнай літаратурнай прасторы Украіны.**




Раман «Нашчадкавы чэкіст», упершыню прадстаўлены чытачам сёлета ў Кіеве, стаў дванаццатым у пісьменніцкай кар'еры С. Батурына і яго дэбютам у расійскамоўнай літаратуры. Раман напісаны па рэальных матывах, амаль дэтэктыўных, якія адбываліся ў 80–90-я гады XX стагоддзя ў Маскве і Кіеве. Галоўнага героя кнігі аўтар практычна цалкам «спісаў» са свайго аднакласніка, які ў рэальным жыцці трапіў у «мясарубку» апісаных падзей. У сталіцы СССР з'явіўся крывавы маньяк. І так здарылася, што гэтыя зверствы супалі ў часе з некалькімі іншымі падзеямі: з'яўленнем новага курсанта ў Вышэйшай школе КДБ і «аперацыяй» кіраўніцтва КДБ СССР па ліквідацыі са службы шматгадовага кіраўніка КГБ Украіны, адказнага за ахову вышэйшых службовых асобаў рэспублікі, які карыстаўся велізарным даверам першага сакратара ЦК КП Украіны. Так склалася, што новы курсант з'яўляўся сынам палкоўніка, на месца якога вышэйшае кіраўніцтва ўкараняла «свайго» чалавека.

## Літаратурныя перакладчыкі — супраць вайны

Трыста расійскіх і замежных удзельнікаў Міжнароднага кангрэса перакладчыкаў мастацкай літаратуры, які праходзіў у Маскве, падпісалі заяву з пратэстам супраць удзелу Расіі ў падзеях ва Украіне, — як ваеннага, так і прапагандысцкага.

«Мы выказваем жах і боль за падзеі ва Украіне і ўдзел Расіі ў гэтых падзеях... Мы выказваем рашучы пратэст супраць палітыкі расійскага кіраўніцтва, супраць ваеннага ўварвання ва Украіну, супраць прапаганды нянавісці, якая скажае рэальнасць і заклікае людзей да гвалту», — гаворыцца ў заяве.

## Пушкін, Пуцін і медаль

**Галандскі перакладчык А. Пушкіна і Ф. Дастаеўскага Ханс Боланд адмовіўся прымаць узнагароду з рук прэзідэнта Расіі.**



Фота: nrc.nl

Ён адзначыў, што ўсякая сувязь паміж імем прэзідэнта і Пушкіным для яго «агідная і невыносная».

Цырымонія ўзнагароджання павінна адбыцца ў Крамлі 4 лістапада, у Дзень народнага адзінства. Боланд атрымаў запрашэнне за подпісам Ф. Вароніна, аташэ па культуры ў пасольстве РФ. У ім паведамлялася, што медаль павінен уручаць асабіста У. Пуцін.

У лісце ў адказ Вароніну Боланд напісаў: «Я б з велізарнай удзячнасцю прыняў аказаны мне гонар, калі б не Ваш прэзідэнт, паводзіны і лад думак якога я не прымаю. Ён уяўляе вялікую небяспеку для свабоды і свету нашай планеты. Дай Бог, каб яго «ідэалы» бліжэйшым часам былі цалкам знішчаныя. Усякая сувязь паміж ім (Пуціным) і мной, яго імем і імем Пушкіна для мяне агідная і невыносная».

Сваёй «справай жыцця» Боланд называе пераклад поўнага збору твораў А. Пушкіна. Акрамя Пушкіна, славіст выдаў у Галандыі пераклады вершаў Лермантава, Крылова, Мандэльштама, Ахматавай, Гумілёва, Набокава, Рэйна, Ерафеева, Губермана, Барыса Рудога, а таксама пераклаў раман «Бесы» Дастаеўскага.

Боланд — першы галандзец, якому прысудзілі ўзнагароду імя расійскага паэта. Прэмія Пушкіна заснаваная ў 1969 годзе як навуковая прэмія.

## Украіна: квоты на расійскія кнігі

**Украіна мае намер увесці ліцэнзаванне расійскай кнігі і квотаваць замежную прадукцыю кнігавыдавецтва.**

Пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер Украіны Аляксандр Сыч. «Мы ўвядзём ліцэнзаванні расійскай кнігі і квотаванне замежнай кнігі ў залежнасці ад таго, колькі адсоткаў на рынку займае ўкраінская кніга. Гэта датычыцца не толькі расійскай кнігі, але і іншых імпартных кніг», — адзначыў ён на прэс-канферэнцыі ў Кіеве.

А. Сыч перакананы, што неабходна абараніць украінскую кнігу ад празмернага расійскага імпарту, паколькі сёння 80% кніг ва Украіне — не ўкраінскія, і з іх амаль усе кнігі — расійскай вытворчасці.

«Я далёкі ад таго, каб казаць, што ўся расійская кніга дрэнная. Пытанне ў тым, што ўсё, што ідзе на ўкраінскі рынак, мае трэцягатункавы характар. Мы нібы інфармацыйная звалка, у якую скідваюць тое, што не трэба расійскаму грамадству, плюс скідваюць адмысловы прадукт, накіраваны на дэстабілізацыю сітуацыі ва Украіне», — дадаў украінскі віцэ-прэм'ер.

Акрамя гэтага А. Сыч паведаміў, што ў звязку з рашэннем урада пра ўвод сектаральных санкцый супраць прадукцыі, выробленай у Расіі, ён прапанаваў увесці санкцыі ў дачыненні да кніг расійскай вытворчасці.

А што могуць убачыць нашыя віцэ-прэм'еры ў кнігарнях Беларусі?

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Guardian, MSBrandCorporation, Daily Express, Gazeta.ua, COLTA. RU, Associated Press, Deutsche Welle, Positime, The Bookseller, BBC, vsiknygy.net, prostokniga. com.ua.**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Расія без інтэрнэту

Алег НОВІКАЎ

**Чуткі пра тое, што Крэмль збіраецца адключыць Расію ад сусветнага павуціння, выклікалі шок у расійскім інтэрнэце.**




Магчыма, упершыню пасля пачатку ўкраінскага крызісу крытыкаў Крамля ў рунэце стала відавочна больш, чым прыхільнікаў. Сама ідэя застацца без усякіх сацсетак, порна, халяўных фільмаў, гульняў і лайкаў падаецца шмат каму з расіян кашмарам.

Між тым, такая перспектыва цалкам рэальная ў выпадку працягу новай халоднай вайны. Пра гэта, напрыклад, сведчыць украінскі вопыт. Кіраўніцтва Мінабароны Украіны паскардзілася, што адной з прычын катла пад Ілавайскам стала выкладанне ў сецiва жаўнерамі інфармацыі пра месца сваёй дыслакацыі, салдацкі быт, зброю і г.д. Таксама дасталася простым юзерам, якія ўсю гэтую інфармацыю актыўна распаўсюджвалі.

Акрамя таго, тэхнічна адключыць расіянам інтэрнэт магчыма. Першы варыянт — стварэнне «вялікага сеткавага экрана» на вобраз і падабенства кітайскага, які будзе блакаваць непажаданыя рэсурсы. Другі — гэта фізічнае адключэнне расійскага сеткавага сегмента. Для гэтага дастаткова выдаць прадпісанне дзясятку федэральных аператараў. Прэзідэнт Егіпта Хосні Мубарак, дарэчы, справіўся з задачай адключэння інтэрнэту па ўсёй краіне за адзін дзень.

Непасрэдна пра магчымую забарону інтэрнэту ў Расіі пачалі казаць пасля інтэрв'ю журналіста Якавенкі нямецкай радыёстанцыі Deutsche Welle, падчас яго журналіст сказаў: «Яна (расійская дзяржава) гатовая на самыя крайнія меры, у тым ліку і на поўную ізаляцыю ад свету. Адна за адной ідуць меры, якія могуць па-сапраўднаму зачыніць краіну». Гэта тычыцца і электроннай абароны. Якавенка таксама дадаў: «Ніякага татальнага кантролю (за інтэрнэтам — рэд.) быць не можа. Пракантраляваць сотні мільёнаў паведамленняў паміж дзясяткамі мільёнаў людзей немагчыма. Тут адзіны варыянт — зачыніць краіну ад глабальнага інтэрнэту. Гэта вельмі проста».

Ідэю адключэння інтэрнэту можна было спісаць на фантазію журналіста, які хоча зрабіць сенсацыю. Аднак алея ў агонь дадалі самі ўлады. На паведамленне Якавенкі адрэагавалі і ў Крамлі. Магчымасць адключэння Расіі ад сусветнага павуціння там, з аднаго боку, абверглі, але, з другога, заявілі пра неабходнасць адказваць на пагрозы для нацыянальнай бяспекі. Таксама стала вядома, што 1 кастрычніка Саўбез РФ абмяркуе пытанне, што рабіць з рунэтам.

Пасля гэтага некаторых юзераў папросту ахапіла паніка. На форумах сустракаюцца суіцыдальныя паведамленні, накшталт: «Хутка інтэрнэт адключаць. Людзі, ведайце, я вас люблю!» або «Пішыце свае меркаванне, абурайцеся распілам краіны, прапануйце пакараць смерцю чыноўнікаў. Хутка гэта будзе ў лепшым выпадку толькі для ўнутранага ўжывання, таму што нават праз інтэрнэт ва ўсім свеце праўду пра гаротны стан нашых спраў ніхто не даведаецца. Будуць толькі спецыяльна падрыхтаваныя перадачы 1-га канала пра тое, які ў нас тут ураджай». Самыя вялікія панікёры ўвогуле клянуцца, што інтэрнэт вырубяць якраз 1 кастрычніка, адразу пасля пасяджэння Саўбезу. Узгадалі і пра Беларусь, якая ўжо дапамагае расійскім гурманам абыходзіць эмбарга еўрапрадуктаў. Адзін з блогераў піша: «Нічога страшнага. У нас жа ёсць яшчэ краіны СНД, тая ж Беларусь. Будзем туды ездзіць».

Не прайшлі міма падзеі і аматары прыколаў: «Непарадак! Калі ў Расіі адключаць інтэрнэт, хто ж будзе паведамляць недасведчаным украінцам, што іх краіны не існуе».

Лідары апазіцыі лічаць сцэнар адключэння інтэрнэту рэальным. Сябра штаба Пірацкай партыі Расіі Павел Рассудаў пракаментаваў чуткі пра забарону інтэрнэту наступным чынам: «У адзін момант увесь інтэрнэт адключыць, відаць, не атрымаецца — Расія занадта вялікая краіна, занадта шмат правайдэраў. Тым не менш, ускладніць камунікацыі магчыма. Але ўлады павінны разумець, што, адключаючы інтэрнэт, яны не пакідаюць людзям нічога іншага, акрамя як выйсці на вуліцу».

Аднак у самым ідыёцкім стане з-за гэтай гісторыі аказаліся ватнікі, якія, па логіцы, павінны падтрымліваць любыя ізаляцыйныя меры. Каб захаваць твар, яны кажуць, што Масква нічога забараняць не збіраецца. Быццам, ідэя адключэння інтэрнэту ў РФ належыць каварным супастатам, а Расія папросту вымушана трымаць удар. «У ЗША ёсць усе магчымасці адключыць нам інтэрнэт. Для РФ гэта будзе мець даволі цяжкія наступствы, паколькі мы завязалі шмат крытычна важных працэсаў на інтэрнэт-інфраструктуру. Напрыклад, праз сецiва працуюць расійскія банкі і аказваюцца паслугі насельніцтву. Акрамя таго, на інтэрнэт завязаны велізарны пласт расійскай камерцыі. А адключыць усё гэта амерыканцы могуць вельмі лёгка», — разважае выданне «Русская линия». Іншымі словамі, не выключана, што закрыццё інтэрнэту спішуць на янкі.

Іншыя намагаюцца супакоіць публіку. «Гаворкі пра абмежаванне для расіян не ідзе, сцвярджае наша крыніца ў Дзярждуме. Паводле яе слоў, абмяркоўваюцца пытанні тэхнічнага рэгулявання, у тым ліку тое, каб больш актыўна пераносіць на тэрыторыю Расіі DNS-серверы. Фармальна, яны знаходзяцца пад кантролем міжнародных арганізацый, але мы разумеем, што па факце гэта амерыканскія арганізацыі», — піша Газета.Ру. Праўда, выданне прызнае, што гайкі ўсё ж будуць закручваць: «Але ў бліжэйшы час могуць пашырацца магчымасці ўладаў па блакаванні і закрыцці экстрэмісцкіх сайтаў — гэтая тэма абмяркоўваецца, асабліва ў кантэксце пачатку падрыхтоўкі да выбараў у Дзярждуму 2016 года».

Ваенны эксперт Анатоль Эль-Мюрыд лічыць: «Расія можа і сама адключыць «знешні» інтэрнэт у выпадку, напрыклад, пагрозы ўзнікнення «каляровай» рэвалюцыі. У гэтым выпадку групы з «каляровых» актывістаў, якія каардынуюць сваю дзейнасць па сацсетках, будуць на нейкі час дэзарганізаваныя. Каб пераналадзіць сістэму, ім спатрэбіцца час. А фактар часу ў перыяд любой рэвалюцыі гуляе найважнейшую ролю. Калі расійскія ўлады перакрыюць інтэрнэт, яны на некалькі дзён дэзарганізуюць замежныя структуры і ўнясуць хаос у «каляровы» пратэст».

Застаецца ўзгадаць самую немагчымую версію. Некаторыя лічаць, што Крэмль наўмысна дэзінфармуе публіку, каб апазіцыя заклікала людзей выходзіць на вуліцу на знак пратэсту. У такім выпадку лібералаў-антыпуцінцаў будуць спрабаваць падаваць у медыя як аматараў дзіцячага порна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нікола Старджэн



Пасля таго, як Алекс Салманд абвясціў пра сыход з пасады прэм'ера Шатландыі, Старджэн як яго намеснік стала новым кіраўніком рэгіёну. Хутчэй за ўсё, на лістападаўскім з'ездзе Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP) яе абяруць і новым партыйным правадыром. Брытанская прэса спрабуе прагназаваць, як прыход Ніколы на кіруючыя пасады паўплывае на лёсы шатландскага нацыяналізму. На думку шмат каго, рух за незалежнасць будзе больш цікавіцца сацыяльнай праблематыкай, паколькі Нікола ў маладосці была актывісткай ініцыятыў супраць эканамічнай палітыкі Тэтчэр. Па яе словах, праблема росту беспрацоўя прымусіла яе падацца ў палітыку. Іншыя кажуць, што ад Ніколы нельга чакаць нейкіх асаблівых ініцыятыў, паколькі партыі пасля прайгранага рэферэндуму трэба перавесці дух. Ёсць думка, што кандыдатура Ніколы вельмі слушная. Яна (нарадзілася ў 1970 годзе) больш блізкая маладой генерацыі шатландцаў, якія ў большасці падтрымалі ідэю незалежнасці на плебісцыце. Праўда, у прэсе хапае спекуляцый наконт таго, што як мінімум тры палітыкі маюць намер кінуць выклік Ніколе ў барацьбе за пасаду партыйнага лідара, калі яна паспрабуе на яго балатавацца.



### Грэйс Мугабэ

Шэраг аналітыкаў прагназуюць, што жонка 94-гадовага прэзідэнта Зімбабвэ Роберта Мугабэ стане яго пераемнікам на пасадзе кіраўніка краіны. Такі прагноз дазваляе ім рабіць нечаканы кар'ерны ўзлёт 48-гадовай Грэйс, якую нечакана для ўсіх абралі лідарам урадавай партыі Zanu PF. А не так даўно ёй уручылі пасведчанне кандыдата навук. Чамусьці, адпаведна з забабонамі афрыканцаў, сапраўдны лідар павінен мець шмат узнагарод і акадэмічных дыпломаў, якія, праўда, тут можна лёгка набыць за хабар. Цікава, што на Захадзе гэту навіну сустрэлі вельмі пазітыўна. Роберт Мугабэ вядомы як апанент Захаду, які прынцыпова не ідзе ні на якія кампрамісы (на днях ён заявіў, што ў знак пратэсту супраць гомасексуалізму не будзе браць у Еўропе крэдыты). У сваю чаргу, Грэйс ведаюць як аматарку шопінгу, асабліва па бутыках «Gucci». Не дарма ў народзе першую лэдзі празвалі «Гучы Грэйс».

### Траян Бесэску

Прэзідэнт Румыніі намагаецца аспрэчыць у прэм'ера Віктара Понта, які балатуецца на прэзідэнцкую пасаду, тытул галоўнага інтэгратара Румыніі і Малдовы. Усё пачалося з таго, што Понта паабяцаў у 2018 годзе арыгінальна адзначыць сотую гадавіну ўключэння Бесарабіі ў склад Румыніі. «У гэтым годзе адбудзецца рымэйк той падзеі стогадовай даўніны — Малдова зноў стане часткай румынскай дзяржавы», — сказаў Понта. Бесэску, які ненавідзіць Понта, прайсці міма гэтага не мог і выступіў з не менш сенсацыйнай заявай. Ён сказаў, што ў хуткім часе адмовіцца ад румынскага грамадзянства на карысць малдаўскага, каб стаць прэзідэнтам Малдовы і вярнуць яе ў румынскі дом. Бесэску лічыць, што малдаване абавязкова дадуць яму малдаўскі пашпарт, паколькі менавіта ён дазволіў сотням тысяч грамадзян Рэспублікі Малдова стаць румынамі. Ідэя Бесэску паставіла Кішынёў у забаўную сітуацыю. З аднаго боку, малдаўскі ўрад падтрымлівае ідэю Вялікай Румыніі, аднак сварыцца з Понта, які лічыцца фаварытам перадвыбарчай гонкі, таксама не хоча.



# Трагедыя сцяга з «Пагоняй»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ



Асвячэнне палкавога сцяга 84-га палка ў Пінску



Уручэнне сцяга 84-га палка генералам Т. Каспшыцкім

**25 верасня 1936 года ў Пінску міністр абароны Польшчы брыгадны генерал Тадэвуш Каспшыцкі ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў камандаванню 84-га палка палескіх стралкоў новы сцяг.**

## У вайне з бальшавікамі

84-ы полк палескіх стралкоў бярэ свой пачатак у 1920 годзе, калі ў Остраве Мазавецкім быў сфармаваны 101-ы рэзервовы пяхотны полк, які летам таго ж года заняў баявыя пазіцыі на польска-бальшавіцкім фронце на рацэ Случ. Аднак пасля ўдару Першай коннай арміі чырвоных польскія жаўнеры вымушаны былі хутка адступіць. Пазней часткі палка прынялі ўдзел у абароне Ломжы і Пултуска. Пасля «цуда на Віслe» пехацінцы 101-га ўдзельнічалі ў бітве за Гродна, а напрыканцы вайны жаўнеры неслі службу на польска-літоўскай дэмаркацыйнай памежнай лініі. За ўдзел у вайне з бальшавікамі 32 жаўнеры палка былі ўзнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары» пятай ступені, 122 жаўнеры атрымалі «Крыж Мужных». У мірны час назва гэтай вайсковай адзінкі змянялася некалькі разоў, пакуль у 1934 годзе загадам Міністра вайсковых спраў яна не стала называцца 84-м палком палескіх стралкоў.



Жаўнеры 84-га палка на манеўрах

## Палкавая святыня

Як адзначалася ў загадзе камандзіра палка дыпламаванага палкоўніка Станіслава Штарэйкі, «выраб палкавога сцяга фінансавалі прадстаўнікі ўсіх груп насельніцтва, якія пражывалі на Палессі, незалежна ад іх веравызнання». Сам штандар быў зроблены з белага шоўку: палотнішча памерам 100 на 100 см было абабіта залатымі махрамі з трох бакоў. Правы бок (з гербам Польшчы) быў выкананы ў адпаведнасці са Статутам ад 1927 года. На левым баку, па кутах, былі размешчаны выявы герба Пінска, герба Ломжы, герб «Пагоня» і малюнак заступніцы Палесся Божай Маці Кодэнскай. У промнях крыжа былі надпісы: Пултуск, Гродна, Звягель, Ломжа, якія сімвалізавалі баявую гісторыю палка. Пасярэдзіне ў лаўровым вянку змяшчаўся надпіс «Гонар і Радзіма».

Напярэдадні ўручэння сцяга на вуліцах Пінска быў арганізаваны парад. Стралковая рота пад камандаваннем Станіслава Матусяка ў суправаджэнні аркестра прамаршыравала па вуліцах Альбрэхтоўскай, Агінскага, Касцюшкі, Жвіркі і Вігуры, Надбярэжнай да пінскага староства. Камандаваў урачыстасцю маёр Людвік Улазенка.

Пасля выступлення палкоўніка Станіслава Штарэйкі, быў агучаны спіс палеглых у польска-бальшавіцкай вайне жаўнераў палка. Пазней «палешукі» развіталіся са старым сцягам. Старшы сяржант Вацлаў Вацінскі ўспамінаў, што падчас урачыстай цырымоніі капелан палка ксёндз Генрых Антановіч «адзначыў гераізм жаўнераў і афіцэраў палка ў абароне Айчыны».



Выстава польскай трафейнай вайсковай тэхнікі ў Кіеве, 1940 год. Тут быў выстаўлены і сцяг 84-га палку палескіх стралкоў

Новы сцяг з рук міністра вайсковых спраў, дывізійнага генерала Тадэвуша Каспшыцкага атрымаў кавалер Крыжа «Віртуці Мілітары» харунжы Пётр Турэк. Падчас урачыстага мерапрыемства пінскі староста падарыў камандзіру палка памятны фотаальбом, а таксама зачытаў рашэнне аб перайменаванні вуліцы Альбрэхтоўскай у вуліцу імя 84-га палка палескіх стралкоў. Акрамя гэтага, палку былі перададзены два буйнакаліберных кулямёты.

## На новым месцы дыслакацыі

Да пачатку ўтоенай мабілізацыі ў сакавіку 1939 года сцяг знаходзіўся ў спецыяльнай шкляной вітрыне ў кабінеце камандзіра палка. Падчас мабілізацыйных мерапрыемстваў ганаровая варта выносіла сцяг з «Пагоняй» для прысягі навабранцаў, а затым разам з палком штандар адправіўся да месца новай дыслакацыі, на Поўдзень Польшчы. «Наш транспарт з Пінска праз Брэст, Лукаў, Радам прыехаў на станцыю Семкавічы. Адразу пачалася выгрузка нашых частак, якія хутка накіраваліся ў Хабеліцы. Камандаванне палка заняло асобны будынак. Палкавы сцяг знаходзіўся ў чахле і быў размешчаны ў мясцовай школе. Ён выдаваўся жаўнерам толькі на вялікія святы (напрыклад, Божага Цела). Для яго атрымання ў штаб прыбывала сцяжная група», — пісаў у сваіх успамінах узгаданы раней Вацлаў Вацінскі.

З моманту пачатку баявых дзеянняў у верасні 1939-га палкавая святыня знаходзілася пад апекай ад'ютантаў: капітана Яраслава Добрскага і падпаручніка рэзерву Яна Казлоўскага. Падчас бітвы на Варце з першага батальёну палка быў выдзелены ўзвод для аховы сцяга. Пазней штандар знаходзіўся ў абозе гаспадарчай роты, і за яго адказвалі капітан Францішак Фільзэк і паручнік Рышард Обер-Піхлер.

## Вайна

Падчас Вераснёўскай кампаніі 84-ты полк прымаў удзел у баявых дзеяннях 30-й палескай дывізіі, якая ўваходзіла ў склад Арміі «Лодзь» і змагалася пад Трыбунальскім, Дзялошынам, Баброўнікамі. 10 верасня 1939 года палешукі вымушаныя былі адступіць — спачатку ў накірунку Варшавы, а пазней Модліна, дзе часткі Войска Польскага з Заходняй Беларусі, заняўшы ўчастак абароны «Крэпасць», змагаліся да 29 верасня. У сваю чаргу, чацвёрты батальён 84-га палка, у складзе Валынскай брыгады кавалерыі, 1 верасня 1939 года змагаўся ў кровапралітнай бітве пад Мокрай, падчас якой польскім жаўнерам удалося знішчыць 100 нямецкіх танкаў і браневікоў. Дзеянні польскіх войскаў на некалькі дзён затрымалі наступленне 4-й танкавай дывізіі вермахта.

## Вяртанне дадому

10 верасня 1939 года падпаручнік Мажэйка разам з некалькімі салдатамі палка прывезлі сцяг у Пінск. У будынку штаба знаходзіўся дзяжурны афіцэр, паручнік Казімір Сасноўскі, якому і была перададзена палкавая святыня з выявай «Пагоні». У гэты час у горадзе на Піне таксама ішло фарміраванне польскіх вайсковых падраздзяленняў са складу надыходзячых з фронту разбітых частак, а таксама маракоў Пінскай рачной флатыліі ВМФ ІІ Рэчы Паспалітай.

17 верасня 1939 года пачаўся паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Польскія часткі, якія знаходзіліся ў Пінску, пакінулі горад. Сцяг палескага палка, як і штабную дакументацыю, жаўнеры Войска Польскага забралі з сабой.

«Я павінен быў выконваць абавязкі камандзіра першай роты. Рэзервовы батальён 84-га палка палескіх стралкоў налічваў 350 жаўнераў. Усе былі ўзброеныя ў карабіны, ручныя кулямёты, меліся таксама і мінамёты. Камандзірам батальёна быў прызначаны паручнік Шымчак. Пазней генерал Францішак Клееберг здзейсніў агляд батальёна і камандзірам падраздзялення прызначыў невядомага капітана, які меў досвед удзелу ў Першай сусветнай вайне. Пад яго камандаваннем батальён пакінуў Пінск і цягніком паехаў у Янаў Палескі, а адтуль на Любешаў, дзе хутка спалучыўся з маршавай калонай маракоў пінскай флатыліі», — пісаў пасля вайны ва ўспамінах паручнік рэзерву Анджэй Сіўка.

29 верасня 1939 года польскім часткам (у тым ліку і жаўнерам з Пінску) прыйшлося весці баі супраць падраздзяленняў Чырвонай Арміі ў раёне Шацка. 1 кастрычніка 1939 года палешукі ў бітве пад Вытычна сышліся з часткамі 253-га стралковага палка 45-й дывізіі Чырвонай Арміі. Пры гэтым камандаваў батальёнам Казімір Сасноўскі. Паранены афіцэр быў схоплены жаўнерамі Чырвонай Арміі, быў накіраваны ў лагер у Старабельску, а пазней — расстраляны НКУС у Харкаве ў 1940 годзе. Сцяг 84-га пяхотнага палка палескіх стралкоў стаў бальшавіцкім трафеем.

## У СССР і Расіі

Увесну 1940 года ў адной з савецкіх газет была апублікавана фатаграфія чырвонаармейца, які трымаў у руках той самы сцяг з Пінска. Пад здымкам быў подпіс: «Сцяг 84-га польскага стралковага палка, захопленага байцамі Чырвонай Арміі». Таксама паведамлялася, што трафейны сцяг быў перададзены ў Музей Чырвонай Арміі ў Маскве. А да гэтага штандар пабываў на выставе савецкіх трафеяў Вераснёўскай кампаніі 1939 года, арганізаванай у Кіеве. У Маскве сцяг 84-га палка палескіх стралкоў знаходзіўся да 1992 года. Падчас візіту першага прэзідэнта незалежнай Польшчы Леха Валенсы ў Маскву ў пачатку 1990-х гадоў, расійскі бок перадаў яму некалькі рарытэтаў, у тым ліку і шматпакутны сцяг з «Пагоняй». Сёння штандар палескіх стралкоў знаходзіцца ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

...За гераізм падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года 84-ты полк палескіх стралкоў у 1966 годзе быў узнагароджаны Ордэнам «Віртуці Мілітары» пятай ступені.

# Станіслаў Казура — забыты кампазітар

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларускі і польскі кампазітар, дырыжор, педагог і публіцыст Станіслаў Казура (1881–1961) вельмі любіў Беларусь, родныя мясціны, людзей, народныя беларускія песні. Ён ніколі не цураўся свайго беларускага паходжання.**



Станіслаў Казура



Жонка Станіслава Казуры Маргарыта



Станніслаў Казура (справа другі),крайняя справа яго жонка, 1939 г.

## Біяграфія пункцірам

Станіслаў Казура нарадзіўся ў фальварку Тэклінаполь былога Свянцянскага павету Віленскай губерні (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці) 2 жніўня 1882 года. Пачатковую адукацыю ён атрымаў дома, потым працягваў адукацыю ў Вільні, у тым ліку і музычную. Бацькі хацелі, каб сын стаў медыкам, таму адразу накіравалі яго ў Дзвінск вучыцца на лекара. Але яго цягнула да музыкі. У 1906 годзе Станіслаў арганізаваў з рабочых фабрыкі лакаматываў горада Дзвінска духавы аркестр, а пры парафіі мясцовага касцёла стварыў таварыства спевакоў «Лютня».

У 1907 годзе Станіслава запрасілі працаваць арганістам у Нясвіж, дзе ён арганізаваў змешаны хор, які вызначаўся высокім прафесіяналізмам, нават выконваў «Лотэрыю», складаны музычны твор Станіслава Манюшкі. Па пратэкцыі музычнага дзеяча дэкана Дзвінскага касцёла Секлюцкага і пры падтрымцы і апякунстве Радзівілаў у 1907 годзе Станіслаў Казура паступіў у Варшаўскую кансерваторыю. А потым працягваў сваю музычную адукацыю ў Рыме, дзе ў 1914 годзе скончыў Акадэмію Святой Цэцыліі (Accademia Nazionale di Santa Cecilia), а таксама ў Парыжы.

Жывучы ў Варшаве, кампазітар арганізаваў у філармоніі хор, які налічваў дзвесце ўдзельнікаў. Ён выкладаў у Варшаўскай кансерваторыі сальфеджыо, садзейнічаў выданню дзяржаўнага дэкрэта аб абавязковым навучанні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Пры Варшаўскай кансерваторыі Станіслаў Казура арганізаваў факультэт па вывучэнні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Для гэтага факультэта ён напісаў і выдаў дзясяткі дапаможнікаў па спевах.

Кампазітар аднавіў гістарычную капэлу рарытарыстаў, арганізаваў хор «300 дзяцей з Павісля», вялікі хор «Польская народная капэла». Усе гэтыя музычныя калектывы выступілі з сотнямі розных канцэртаў.

Падчас Другой сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Варшаве Станіслаў Казура пры Апякунскай Радзе адкрыў тайную кансерваторыю. У ёй працаваў сам, а таксама яго жонка і іншыя выкладчыкі-патрыёты.

У час Варшаўскага паўстання, калі навокал рваліся снарады і бомбы, Казура арганізаваў у кансерваторыі «хвіліны класічнай музыкі», якія падтрымлівалі патрыятычны дух змагароў.

Пасля вайны прафесар Станіслаў Казура першы пачаў адраджаць Варшаўскую кансерваторыю, пазней — Дзяржаўную вышэйшую музычную школу, у якой быў з 1945-га па 1951 год рэктарам. Казура — адзін з ініцыятараў стварэння ў 1956 годзе «Саюза польскіх кампазітараў».

## Да Беларусі з любоўю

Станіслаў Казура вельмі любіў Беларусь. Ён ніколі не цураўся свайго беларускага паходжання. Яго жыццё пастаянна было звязана з беларускім рухам, хоць і пражыў большую частку свайго жыцця ў Польшчы.

Да Першай сусветнай вайны ён прымаў удзел у Беларускім студэнцкім гуртку ў Пецярбургзе. Шмат дапамагаў матэрыяльна студэнтам-беларусам, вучыў іх бясплатна ў Варшаўскай кансерваторыі.

Станіслаў Казура дапамагаў стварыць Асветнае беларускае таварыства (іншыя яго згадваюць як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве — С.Ч.). Гэтае таварыства было створана восенню 1936 года і праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Казура дапамагаў таварыству матэрыяльна на працягу ўсяго часу яго існавання. І сам вельмі актыўна прымаў удзел у многіх мерапрыемствах беларускай арганізацыі. А ў канцэртных мерапрыемствах Асветнага беларускага таварыства часта гучалі яго песні.

У 1930-х гадах славуты кампазітар часта наведваў родную Пастаўшчыну. Ён гасцяваў у сваіх сяброў і сваякоў, хадзіў па вёсках і запісваў народныя песні. Як паведамляе краязнавец Яська Драўніцкі (Westki.info, 27.01.2013), на Пастаўшчыне Станіслаў Казура запісаў шмат беларускіх народных песень, 12 з іх апрацаваў для аматарскага хору і голасу сола. Гэта былі песні «Чырвоная калінанька», «Зялёны дубочак», «Чаму ж мне не пець», «Як памерла матулька» і іншыя. Пры апрацоўцы песень кампазітар змог выявіць народную душу ў песнях, а таксама тонкія і далікатныя перажыванні. Дарэчы, «Беларускі каляндар» (Беласток) за 1980 год апублікаваў ноты Станіслава Казуры да беларускіх народных песень «Вярба», «Зязюленька», «Зашумела дубровачка», «Калінанька», «Камар у лазні паліў» і «Чаму не жаніўся». Гэты ж «Беларускі каляндар» апублікаваў і невялікія ўспаміны пра Станіслава Казуру Віктара Шведа, дзе ён падкрэслівае, што «Станіслаў Казура — гэта быў кампазітар, якога творчасць абапіралася на фальклоры. Ён з'яўляўся прапагандыстам і збіральнікам народных песень з усёй Польшчы, у тым ліку і беларускіх».

У 1956 годзе Станіслаў Казура разам з беларусамі Варшавы прымаў актыўны ўдзел у арганізацыйным з'ездзе аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Варшаве. А 18 студзеня 1957 года ён прысутнічаў на першым сходзе Выдавецкага камітэта пры БГКТ. Выступаючы ў дыскусіях, Казура тады сказаў, што побач з мастацкай і навуковай літаратурай камітэт павінен займацца і апрацоўкай, а таксама выданнем беларускага песеннага фальклору. І сам ён тады паабяцаў падрыхтаваць зборнік беларускіх народных песень у сваёй апрацоўцы. Але, на жаль, не паспеў.

## Каханне на ўсё жыццё

Падчас вучобы ў Рыме Станіслаў Казура пазнаёміўся з дачкой італьянскага дырыжора і скрыпача Чэзара Трамбіні (1835–1898) Маргарытай. Маргарыта закахалася ў таленавітага беларуса. Хутка яны пажаніліся і пераехалі ў Варшаву. Маргарыта Трамбіні-Казура вучылася музыцы ў Варшаве, Парыжы, Берліне. У 1911 годзе яна дала першы канцэрт у Рыме. Пазней выступала з канцэртамі ў Італіі, Францыі, Германіі, Фінляндыі, Нарвегіі, Венгрыі. А з 1919 года працавала педагогам Варшаўскай кансерваторыі.

Піяністка, клавесіяністка, педагог у час нямецкай акупацыі разам з мужам працавала ў падпольнай кансерваторыі. А падчас Варшаўскага паўстання яна, рызыкуючы жыццём, як медсястра, аказвала дапамогу параненым.

Маргарыта Трамбіні-Казура моцна кахала свайго мужа і дапамагала яму ва ўсім. Яна стала прафесарам Польскай вышэйшай музычнай школы, шмат разоў уваходзіла ў журы Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Шапэна, даследавала творчасць Шапэна і Баха. А пасля смерці Станіслава Казуры (памёр 30 лістапада 1961 года) прапагандавала яго музычную і літаратурную творчасць, бо акрамя музычнай дзейнасці спадар Казура займаўся яшчэ мастацкай і краязнаўчай літаратурай, напісаў і выдаў шэраг кніг, сярод якіх — «Фатальны візіт», «Прафесар Зубрэвіч», «Настаўнік з Чаромхі». «Сарбаністы» і іншыя.




При жыцці Станіслаў Казура меў шмат розных прэмій і ўзнагарод, сярод якіх быў і Крыж Камандорскі Ордэна Адраджэння Польшчы. А ў 1980 годзе адна з вуліц квартала Варшавы «Натолін» на Макотаве атрымала імя Станіслава Казуры. Вось толькі на роднай Пастаўшчыне імя яго не ўшанавана.

***

Падчас пошукаў звестак пра Станіслава Казуру я звярнуўся да беларускага паэта Віктара Шведа, які жыве ў Беластоку. Віктар Швед добра ведаў Казуру, неадначы з ім сустракаўся ў Варшаве. І вось што распавёў:

— Апошні раз я наведаў Станіслава ў 1961 годзе ў Варшаве. А здаецца, што зусім нядаўна я з сябрам Пятром Ластаўкам падымаліся па лесвіцы да кватэры Станіслава Казуры. Паважаны ўсімі прафесар, частуючы нас кавай, прасіў наведваць яго часцей. Мы паабяцалі, аднак 30 лістапада 1961 года па радыё мы пачулі сумную вестку аб смерці гэтага выдатнага чалавека.

Прафесар Казура вельмі хваляваўся, калі заглядваў да яго нехта з беларусаў. Ён быў чалавекам надта сардэчным і гаваркім. Жывучы ў Варшаве, у польскім асяроддзі, ён рэдка меў аказію пагутарыць на беларускай мове. Таму беларуская мова, якою ён карыстаўся, была крышачку архаічнай, была гэта мова нашаніўскай пары. Такую мову вынес Станіслаў Казура з бацькоўскай хаты і такую захаваў на ўсё жыццё. Здавалася, што ён нічога больш на свеце не любіў і не хацеў, каб толькі пагутарыць на роднай мове з беларусамі.

Ён ахвотна разважаў пра беларускі фальклор, пра беларускія народныя песні, якія сам апрацоўваў. Не трэба было яго доўга прасіць, каб засеў за фартэпіяна. З прыемнасцю слухалася і глядзелася на яго далікатныя, васкова-бледныя пальцы, якія віртуозна дабывалі з клавішаў фартэпіяна меладычныя гукі. Ён да смерці заставаўся верным тым старым беларускім народным песням, якія чуў калісьці і якія глыбока запалі ў яго душу і сэрца, напамінаючы родныя мясціны на Пастаўшчыне…

Пры жыцці Станіслаў Казура меў шмат розных прэмій і ўзнагарод, сярод якіх быў і Крыж Камандорскі Ордэна Адраджэння Польшчы. А ў 1980 годзе адна з вуліц квартала Варшавы «Натолін» на Макотаве атрымала імя Станіслава Казуры. Вось толькі на роднай Пастаўшчыне імя яго не ўшанавана.

# Фантастычныя прыгоды кантрабанднай мовы



Андрэй РАСІНСКІ

**Раман Марціновіча — сентыментальна-яхідная сацыяльная фантастыка, беларуская антыўтопія і лінгвістычны баявік.**

Мінск, 4741 год па кітайскім календары. Часы Смутку скончыліся, надышла эра ўзвышэння Саюзнай дзяржавы Кітая і Расіі, бясклапотнага насалоджвання, шопінг-рэлігіі і cold sexy.

Кантрабандыст Сярожа рэгулярна возіць з-за мяжы самы забаронены — несубстанцыйны — наркотык, за адно захоўванне якога прадугледжана смяротнае пакаранне (адпаведна «арт. 264 Крымінальнага кодэкса Паўночна-Заходніх тэрыторый»).

Але гэтым разам у рукі гандляра трапляе нешта звышмагутнае, і цяпер на героя палююць кітайская мафія пад кіраўніцтвам загадкавай Цёткі — дый усюдыісны Дзяржнаркакантроль.

Таямнічы наркотык, як вы здагадаліся, — мова.

## Мова як наркотык

Мова прызвычайвання не выклікае. «Моўны псіхоз» — выдумка Дзяржнаркакантролю, каб месцічы паболей куплялі дазволеныя канабіс, алкаголь і медычныя апіяты. Але «мова», вычытаная ў кантрабандных паперках, дзейнічае чамусьці толькі на жыхароў Паўночна-Заходніх тэрыторый. Наркотык з забароненымі літарамі «і», «ў» спараджае моцныя галюцынацыі дый прыносіць нечуваную асалоду.

Раман Марціновіча — сентыментальна-яхідная сацыяльная фантастыка, беларуская антыўтопія і лінгвістычны баявік.

Як антыўтопія, «Мова» сябруе з «451 па Фарэнгейту», дзе таксама пераследуюць кнігі (на Паўночна-Заходніх тэрыторыях беларускія друкаванкі так пільна забароненыя, што лічацца немагчымымі). Але беларускія кнігі і палілі, і вынішчалі, так што моўныя рэаліі прышлага Мінску — наркатычны працяг сталінскіх 1930-х гадоў.

У сваяках у «Мовы» і «О, дзіўны новы свет» Олдаса Хакслі з культам пажады і спажывецтва. Але ў новай Еўропе Віктара Марціновіча пажада атабарылася ў храмах шопінг-рэлігіі, дзе спакушаюць і выратоўваюць новымі гальштукамі і гарнітурамі. А сэкс у гэтым «дзіўным свеце» стаміўся — дый безнадзейна адчужаны ад прыязнасці і кахання. (Затое палкая сцэна «гарачага» сэксу, злучаная з кітайскай кулінарнай практыкай, прымусіць захлынуцца слінай.)

Падобна героям «Дзюны», падсаджаным на галактычны наркотык, персанажы кнігі палююць за каштоўным рэчывам — і правальваюцца ў трызненні (праўда, не такія «гістарычныя», як у «Чорным замку Альшанскім»).

Ломка і прасвятленне ахайна чаргуюцца. Транс беларускай Інтэрзоны — памяркоўны, на два галоўныя галасы. Раздзел «Барыга», напісаны ад імя гандляра, раз за разам змяняецца «Джанкі» — споведдзю «моўнага наркамана».

Зваба наркаманскай «мовы» — у фантастычных дэталях, дасціпных і шчодрых: помнік Маа Цзэдуну на плошчы Залежнасці, Вялікі кітайскі мур з боку Тэрэспаля, пастар-пачатковец у храме «Boss Hugo Boss»; знайшлося месца нават для «задрыпаных французанак», якія выдаюць сябе за гарачых афганак. Асобнае пашаноўнае апісанне — для Шанхаю (на месцы Нямігі) і плошчы Мёртвых (дзе калісьці гарэў Вечны агонь).

## Мова як улада

Але мова — гэта не толькі наркатычная метафара. І не толькі нагода для прыгод з пагонямі, выбухам, турмамі і сачэннем (гэта ўсё на паверхні).

Мова — гэта яшчэ і ўлада. Ценявыя гаспадары гораду — кітайскія трыяды — гавораць на мове. Вядуць допыт на мове і ўсёмагутныя агенты Дзяржнаркакантролю.

**У кнізе Марціновіча героі таксама шукаюць адно Слова, слова згубленае і забытае, якое пазначае любоў**

Мова як забароненасць — стаецца падставай і крыніцай улады, патаемнаю сілай, каб валадарыць. Пра такую сітуацыю марыў Адольф Гітлер у «Карніках» Адамовіча (знішчыць народ і забраць яго моўную мову). Падобна, у прыпавесці Быкава «Тры словы нямых» мова забаранялася, паўставала зноў — і прысабечвалася акупантамі. У кнізе Марціновіча мова — экстатычны наркотык апошніх абраных — маргіналаў-творцаў і генералаў, што іх пасуць.

Спроба праўвацца да шырокіх масаў — гэта канфлікт загнаных у падполле кніг дый тэлевізіі (вайна, прадказаная ў дзіцячым фільме Леаніда Нячаева «Прыгоды ў горадзе, якога няма»: назва пасуе і да «Мовы»). Марціновіч бязлітасны да атуплялых відовішчаў і нават па старой памяці падстрэльвае «прадусара інфармацыйнага вяшчання з тварам хлопчыка, вусікамі вычварэнца і сівымі валасамі старога — гэтае брыдоцце добра ведаецца, калі глядзіце скрыню».

Але мова — гэта не толькі ўлада.






Віктар Марціновіч, Мова, Мінск: Кнігазбор, 2014, 264 с. 62000 р.
Виктор Мартинович, Мова, перевод на русский Лидии Михеевой, Минск: «34MagMet.com».
Кніга Online: http://34mag.net/piarshak/post/mova/

## Мова як магія

Мова ёсць магія. Гэта было традыцыйнай тэмай беларускай літаратуры. Мова — у шэптах дрэў і ў яблыках, у музыцы і курганах, у маланках і зорным небе, у забытым і знойдзеным зерні, што прыносіць багаты плён.

Магія мовы — у замовах, што ведалі знахаркі, і што было апрабавана ў «Сфагнуме» — папярэдняй кнізе Марціновіча.

Але ўзяты ў палон сваімі героямі, аўтар пазбаўлены паўнаты моўнай магіі. Затое ён можа на гэтую магію намякнуць: праз абрывы, недамоўленасць, цытаванне Генію́ш і Дубоўкі.

Мова — гэта чароўны смак, як на сучасных мінскіх плакатах: «Агрэст — смак беларускай мовы», «Ажыны — смак роднай мовы». Плакаты гэтыя — кропля ў моры бязмоўя — пекныя і зваблівыя, як рэкламныя чары высокастатуснага тавару.

І такімі ж чарамі забаўляюцца героі «Мовы», па-зухвацку перайначыўшы на замову акупацыйнага Дзяржнаркакантролю енк Францішка Багушэвіча: «Не памірайце ж мовы беларускай, каб не ўмерлі!»

У гандлярска-спажывецкім свеце мова — гэта гламур, загрувашчаны рэчамі.

Нарэшце, ёсць апошняя тайна мовы.

## Мова як слова

Мова — гэта імя Бога, гэта — Слова ўвасобленае.

Імя Божае — гэта слова, якое з'ўляецца таямніцай (яго вымаўляць нельга), але гэта слова — стварыла свет і ёсць ягонай падставай. У кнізе Марціновіча героі таксама шукаюць адно Слова, слова згубленае і забытае, якое пазначае любоў.

Слова ўцелаўлёнае мае імя — і ўвасабляе любоў. У свеце антыўтопіі сустрэча з такім Словам выклікае глыбокае непаразуменне. Агаломшаны заўзятар шопінг-рэлігіі і халоднага сэксу, сутыкнуўшыся з існіай, прызнаецца: «Хрысціянства я ўспрымаў як кранальную гісторыю пра аднаго закатаванага габрэя, якую брэндавалі сярэднявечныя італьянскія дызайнеры. Барвовыя хітоны, аголенае цела на крыжы, Марыя ў блакітнай хустцы, барадатыя апосталы — вінтаж, хламіды, простыя і лёгкі абутак — гэта ўсё састарэла і не выглядала актуальна».

Актуальнымі былі рэчы. Актуальная ў антыўтопіі — мова, што канчаткова сталася стодам. Свет антыўтопіі — гэта суцэльныя памылкі і скрыўленні мовы, чужыя коды, вірусы, адмысловыя аперацыі.

Увасобленыя моўныя выкрыўленні — гэта не толькі храмы-буцікі і наркатычны экстаз, але і агрэсія падполля (паказальная фігура — Сварог, накачаны і неразумны, з суцэльнаю кашаю ў галаве). Праваканцыйная постаць апошняга выпісаная Марціновічам з яўнай ironіяй, хаця і не ўсе яе прачытаюць.

У свеце антыўтопіі Слова губляецца і глохне, але што вы хацелі ад антыўтопіі?

Варта падзякаваць аўтару за час, праведзены з захапляльнаю кнігай.

Антыўтопія надыходзіць.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 1288

Падпісана да друку 26.09.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.